


Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 39 (4583) 1 кастрычніка 2010 г.


## У нумары:




Каб год для вас быў неблагім — падпішыцеся на «ЛіМ»!

Для індывідуальных падпісчыкаў:
1 месяц — 10600 руб.
Падпісны індэкс — 63856

Ведамасная падпіска:
1 месяц — 14000 руб.
Падпісны індэкс — 638562

Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:
на 1 месяц — 6500 руб.
Падпісны індэкс — 63815

Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:
1 месяц — 10500 руб. Падпісны індэкс — 63880


# Паклон Вам нізкі, дарагі настаўнік!

## Звычайны юбілей незвычайнай школы

**Трэцяга кастрычніка — першы нядзельны дзень месяца — у краіне будзе адзначацца вялікае, практычна ўсенароднае свята — Дзень настаўніка. Колькі ўдзячных слоў пачуюць гэтым днём настаўнікі, выхавальнікі, выкладчыкі! І гэта справядліва: ці не ўсё лепшае ў нас, што маем, ад бацькоў і настаўнікаў… Гэтай восенню, якраз на Дзень настаўніка, спаўняецца сорак пяць гадоў сталічнай сярэдняй школе № 99. Школе адметнай — праз яе сотні хлопчыкаў і дзяўчынак далучаліся не толькі да ведаў, але і да высокай культуры і мастацтва.**



Трэцякласніца Ліза старанна, высунуўшы язычок, размешвае гуаш на пластмасавай вучнёўскай палітры.

— Паміж намі, па сакрэце, — па-змоўніцку шэпча яна, — гэты домік я рыхтую ў падарунак школе. У нас юбілей, і ўсе нешта робяць: хто малюе, хто самаробкі клеіць, іншыя плятуць з бісера.

Я любуюся на гуашавы домік, што ўзнікае на Лізіным лістку. Ён яркі і вясёлы. Сапраўды добры будзе некаму падарунак! Наогул, у 99-й школе многія дзеці добра малююць — гонар і слава настаўнікам па выяўленчым мастацтве. А іншыя — іграюць на музычных інструментах, танцуюць, спяваюць у хоры і вакальным ансамблі. Усе гэтыя дысцыпліны тут выкладаюцца бясплатна, факультатыўна, пасля ўрокаў. І гэта пры тым, што 99-я не з'яўляецца ні ліцэем, ні гімназіяй. Па статусе сваім яна — проста сярэдняя агульнаадукацыйная школа.

Зрэшты, так было не заўсёды. У 1995-2004 гадах гэта была сярэдняя школа з агульнаэстэтычным ухілам, эканамічным і тэхналагічным профілямі. Менавіта тады і з'явіліся першыя музычныя класы: баян, акардэон, скрыпка, гітара, цымбалы, фартэпіяна; танцавальныя ансамблі, мастацкія студыі, хоры. Былі і натхняльныя вынікі — прызавыя месцы ў разнастайных конкурсах-аглядах.

Пытаюся ў цяперашняга дырэктара 99-й Ірыны Івановай, ці стаўся нехта з выпускнікоў прафесійным артыстам, музыкам ці то мастаком?

— Шчыра кажучы, мы ніколі не ставілі перад сабою мэты вырасціць "зорак". Бо наша школа не спецыялізаваная і ніколі такой не лічылася. Ніякага адбору вучняў пры прыёме тут не праводзіцца, — прымаем усіх. І нашы настаўнікі працуюць не з асабліва адоранымі, а з самымі звычайнымі школьнікамі. Проста мы ўпэўнены, што эстэтычна развіваць трэба кожнага чалавека і з самага ранняга ўзросту. Чалавек узбагачае сябе духоўна, калі навучаецца ігры на музычным інструменце, далучаецца да класічнага і народнага танца, спасцігае тэхніку малюнка. Яго жыццё становіцца насычаным, яркім, цікавым. І гэта ўжо зусім няважна, кім па прафесіі будзе гэты чалавек. Але і такі падыход не выключае нараджэння ў сценах школы прафесіяналаў ад мастацтва. Вось, напрыклад, наш выпускнік Жэня Шарабурка паступіў у ліцэй, стаў дызайнерам. Марта Данусевіч спявае на сцэне опернага тэатра. Рэалізавалі сябе і дзяўчаты, якія некалі стварылі ў нас каманду юных мадэльераў. З 1999 года яны штогод займалі прызавыя месцы ў раённых і гарадскіх конкурсах нетрадыцыйнага касцюма.

Тое, што сярэдняя школа № 99 застаецца навучальнай установай творчага кірунку, бачна ва ўсім. У школе існуе своеасаблівы культ кнігі як сімвала ведаў. І пабачыць тут "размаляваны" падручнік гэтак жа цяжка, як сутыкнуцца з хуліганістым старшакласнікам. Маленькія школьнікі яшчэ могуць дазволіць сабе прабегчыся з крыкам па калідоры, пасвавоціць у школьным двары з аднакласнікамі. Але паступова іх светапогляд мяняецца. Спрацоўвае даказаны самім жыццём закон — чалавек, далучаны да прыгожага, адвяргае брыдкае і непрыстойнае. І большасць захоўвае ў сэрцах удзячнасць сваім любімым настаўнікам і школе. Незвычайнай, нягледзячы на самую простую шыльду ля ўвахода. Таму што — паміж намі, па сакрэце — незвычайнай школу робіць зусім не статус, а адносіны настаўнікаў да сваёй працы.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На здымках: дырэктар школы Ірына Іванова; юныя таленты школы рыхтуюцца да свята.

Фота Кастуся Дробава і са школьнага архіва.

Калаж Віктара Калініна

Мікола МЯТЛІЦКІ

### Першай настаўніцы

Чыталіся радкі натхнёных вершаў
У краі, дзе світала ад бяроз.
А сёння ты настаўніцаю першай
У першы клас ідзеш і ў нечы лёс.

Крылатай стане стоеная мара
І самым апантаным пачуццё
У хлапчука, які бярэ нямала —
Вачэй тваіх жывінкі — на жыццё.

Яго шляхам — ляжаць за небакраем,
Ля дальніх зорак,
Ля планет другіх.
Мы з вышы той у вочы зазіраем
Сваіх настаўніц самых дарагіх.

Яны гавораць, светлыя, нямала,
Адпрэчыўшы дарог зямных хаўрус:
Ты не бязродны ў свеце.
Ёсць Купала
І гордае найменне — беларус!

Дзве зоркі
распагоджаных над лёсам!
Па свеце нам ісці на іх святло.
У акіянах веку ціхім плёсам
Яно, жыццё, ніколі не было.



## Пункцірам

• Завяршыліся Дні культуры Беларусі ва Украіне. Нацыянальная культура прэзентавалася ў суседняй дзяржаве балетам "Лебядзінае возера", монаспектаклем "Беларусь у фантастычных апаваданнях" у выкананні акцёра-купалаўца Генадзя Аўсяннікава, паказам беларускіх анімацыйных, мастацкіх і дакументальных стужак, а таксама канцэртам з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя І.Жыновіча і салістаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

• У вёсцы Пялеса Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці адкрыты помнік князю ВКЛ Вітаўту. Скульптура вышынёй больш як 6 метраў выканана літоўскім майстрам Альгімантасам Сакалаўскасам з асаблівай пароды дуба ў традыцыйнай літоўскай тэхніцы разьбярства.

• Да 5 кастрычніка ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча экспануецца фотавыстаўка "Ізраіль новым поглядам". Тут прадстаўленыя работы ўдзельнікаў Усеізраільскага фестывалю мастацкай фатаграфіі — фатографаў-рэпатрыянтаў з розных краін.

• Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача ў новым сезоне прадставіць тры прэм'еры. 30 кастрычніка адбудзецца першая з іх — спектакль "Брык і Шуся шукаюць лета" маладога драматурга Таццяны Сівец у пастаноўцы рэжысёра Ягора Лёпкіна. Школьнікам і іх бацькам прызначаюцца класічная камедыя "Пан Міністр" Францішка Аляхновіча і італьянская камедыя-гратэск "Трошкі пяшчоты" Альда Нікалаі.

• У вёсцы Стрэнькі пад Рагачовам адкрыўся экамузей "Беларуская лялька". Экспазіцыя аднаўляе традыцыі вырабу лялек, іх гісторыю і карані, што паходзяць яшчэ з часоў паганства, перадае культурныя і побытавыя абрады, звязаныя з беларускай лялькай.

• VII Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў "Тэатральны куфар-2010" праходзіць у Мінску да 2 кастрычніка. Сёлета ў фестывалі бяруць удзел 19 тэатраў з 16 краін. Конкурсныя спектаклі адбываюцца на двух пляцоўках — сцэне Палаца культуры прафсаюзаў і ліцэя Белдзяржуніверсітэта. Уваход на ўсе паказы свабодны.

• Выйшаў дыск "Дзіцячы альбом" — гэта зборнік з 27 народных песень, што калісьці спявалі нашы бабулі. Альбом запісаны дзвюма музычнымі сем'ямі: Змітром і Тамашом Сідаровічамі і Тацянай і Адасём Матафонавымі. Дыск прызначаны для сямейнага праслухоўвання, а таксама для выкарыстання пры музычным выхаванні ў садках і школах.

• Прэстыжная чэшская літаратурная прэмія імя Ярaслава Сэйферта прысуджана сёлета Яхіму Топалу за раман "Chladnou zemí" ("Па халоднай зямлі"), значная частка дзеяння якога адбываецца ў Беларусі.

• Выстаўка "Беларуская драматургія на купалаўскай сцэне" адкрылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Атмасферу і гісторыю легендарнага тэатра будуць адлюстроўваць эскізы дэкарацый і касцюмаў, макеты, афішы і фотаздымкі.

• У выдавецтве "Харвест" выйшла кніга Вячаслава Бандарэнкі "Утерянные победы Российской империи". Дакументальны раман распавядае пра падзеі Першай сусветнай вайны на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У прыватнасці ў ім упершыню падрабязна апісаная гісторыя жаночых падраздзяленняў, што ваявалі ў нашай краіне. Кніга праілюстраваная рэдкімі фотаздымкамі, многія з якіх знаходзяцца ў асабістай калекцыі аўтара.

Падрыхтавала Саша ДОРСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Беларусь — Казахстан: літаратурнае сумоўе

**Пісьменніцкая арганізацыя Казахстана адзначыла сваё 75-годдзе. Запрашэнні на ўдзел ва ўрачыстасцях былі накіраваныя творцам ды прадстаўнікам літаратурных выданняў Беларусі. Але сустрэча ў Алмаце мела не толькі святочны, а і дзелавы кірунак. Была падпісана дамова аб супрацоўніцтве паміж творчымі саюзамі нашых дзяржаў. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, які прысутнічаў на ўрачыстасцях, патлумачыў: "Дамовай прадугледжаны ўзаемны абмен інфармацыяй, творамі, публікацыі перакладаў".**



Акрамя юбілею пісьменніцкай арганізацыі, адзначаліся таксама 75-годдзе вядучых рэспубліканскіх літаратурных выданняў, такіх як газета "Казак әдебиеті", часопіса "Простор", а таксама 80-годдзе часопіса "Жұлдыз".

Творчыя сувязі з Казахстанам асабліва актывізаваліся апошнімі гадамі. Так, у часопісе "Простор" двойчы (у 2009 і 2010 гг.) прадстаўляліся беларускія літаратары. У перакладах змяшчаліся творы А. Бадака, М. Мятліцкага, М. Пазнякова, І. Чароты ды іншых. Беларускія чытачы таксама ведаюць казахскую літаратуру і па перакладах на рускую мову, і па перакладах на беларускую. Сёлета часопіс "Полымя" друкаваў фрагменты паэмы заслужанага дзеяча культуры Казахстана Любові Шашковай "Рагнеда", перакладзенай на беларускую мову, раней у Доме дружбы праходзіла вечарына, прысвечаная творчасці заснавальніка казахскай літаратуры Абая. Між іншым, яго творы ў перакладзе Міколы Мятліцкага таксама друкаваліся ў часопісе "Полымя", цяпер праца над перакладамі Абая працягваецца.

— Агульнае ўражанне такое, што ў Казахстане вельмі паважліва ставяцца да Беларусі, — распавёў пра сустрэчу Мікалай Чаргінец. — І ў сваіх выступленнях, калі я закранаў пытанні нашых ўзаемаадносін, сказаў, што ў Беларусі помняць і тыя тысячы казахаў, якія склалі свае галовы пры вызваленні нашай краіны, што ў нас устаноўлена нямала помнікаў героям. Між іншым, у 2009 годзе рэгіянальным грамадскім аб'яднаннем "Беларускі культурны цэнтр" (г. Алматы) пры падтрымцы Міністэрства культуры і інфармацыі Рэспублікі Казахстан, Асамблеі народа Казахстана выдадзена кніга "Освободители. Вызваліцелі." Гэта ўспаміны, нарысы, артыкулы, дакументы і вершы пра тых казахаў, хто першым сустрэў варожае нашэсце ў Брэсцкай крэпасці ў чэрвені 1941 года. Згадаў я і пра тое, што нашы людзі таксама шмат зрабілі, узнімаючы цаліну, што нашы касманаўты Клімук і Кавалёнак стартавалі на арбіту з выдомага касмадрома Байканур. У многім наладжванне такіх добрасуседскіх стасункаў залежала і ад працы кіраўнікоў нашых краін — прэзідэнтаў Аляксандра Лукашэнкі і Нурсултана Назарбаева. Адметна, што ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" сумесна з Пасольствам Рэспублікі Казахстан у Беларусі выдадзена кніга "Казахстан — Беларусь. Вместе". Я паказаў экзэмпляр кнігі ўдзельнікам урачыстага сходу, які адбыўся ў Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета імя Абая (у ім прынялі ўдзел прадстаўнікі інтэлігенцыі, пісьменнікі і паэты, госці з блізкага і далёкага замежжа). Кніга выклікала бурныя апладысменты.

Сустрэча адбылася і ў Доме Саюза пісьменнікаў Казахстана (трэба падкрэсліць, што вельмі добрае, вялікае памяшканне). Гаварылі пра кнігавыданне. У прыватнасці, я падкрэсліў, што сёння адбылося нейкае адхіленне ад ацэнкі сапраўднай літаратуры, пра яе часта мяркуюць па вокладках кніг. Але ў лепшай кнізе па афармленні, бывае, мастацкаму аздабленню не адпавядае змест. Што ўнутры, пад вокладкай, аказваецца, не ўсіх цікавіць. Такія адносіны да літаратуры палохаюць!

Што да ролі часопісаў, то яна ў тым, каб працаваць на папулярызацыю літаратуры, публікаваць таленавітыя творы, падтрымліваць новыя імёны і не забывацца на тое, што часопісы выяўляюць гэтыя новыя таленты! Калі ў выдавецтвах часам асцярожна падыходзяць да публікацыі кніг невядомых аўтараў, то часопіс павінен быць смялейшым. З гэтым пагадзіліся і казахскія творцы.

Наведалі мы помнік Абаю, вялікі, магутны, у цэнтры горада. Трэба аддаць належнае, там помнікі ставяць увогуле магутныя, што сведчыць пра пэўныя адносіны і да пісьменнікаў, да іх творчасці, і да помнікаў. Цяпер праспект Абая — адна з прыгажэйшых вуліц горада.

Рыта СТАХ

На здымку: Мікалай Чаргінец прывёз у падарунак пісьменнікам Беларусі ад творцаў Казахстана новыя кнігі.

Фота Кастуся Дробава

## Стасункі

# Візітоўка краіны

Да Дзён культуры Беларусі ва Украіне беларускі бок рыхтаваўся старанна — такія мерапрыемствы значна ўплываюць на фарміраванне іміджу краіны і служаць добрым падмуркам для сяброўскіх кантактаў на міжнародным узроўні.

Каштоўнай візітоўкай, уручанай жыхарам Кіева і гасцям сталіцы Украіны, стала літаратурна-мастацкая выстаўка "Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду", падрыхтаваная супрацоўнікамі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры пры ўдзеле Пасольства Рэспублікі Беларусь ва Украіне і фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

З 30 верасня і да 25 кастрычніка наведвальнікі выстаўкі змогуць пазнаёміцца з творамі слыннага пісьменніка на беларускай мове і ў перакладах, уявіць, як яны ствараліся, глядзячы на яго ўласныя рэчы, кнігі на розных мовах з асабістай бібліятэкі, фотаздымкі, якія захавалі розныя моманты жыцця Караткевіча, партрэты аўтара, выкананыя мастакамі Пятром Драчовым і Яўгенам Ганкіным. Значная частка экспазіцыі прысвечана сувязям Караткевіча з Украінай.

Выстаўку-візітоўку праз месяц змогуць ацаніць і жыхары ды госці беларускай сталіцы — яна разгорнецца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры перад 80-гадовым юбілеем Уладзіміра Караткевіча.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

## Імпрэзы

# Кардыяграма душы

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы напярэдадні яго 65-годдзя адбыўся канцэрт дуэта "Сумесная вандроўка" Надзеі Кійковай і Марыны Дзедавец пад назвай "Пачынаецца ўсё з любові".**

Надзея і Марына, сумесная творчасць якіх пачалася ў кастрычніку 2005 года ў межах польскага хору "Паланэз" пры касцёле Святых Сымона і Алены, спяваюць выключна па-беларуску. І дзякуючы свайму непаўторнаму вобразу, арыгінальным аранжыроўкам і пранікнёным мелодыям, у 2005 годзе сталі лаўрэатамі Фестывалю нацыянальных культур "Яднанне" ў Мінску, а ў маі 2006-га адна з салістак, Надзея Кійкова, атрымала першую прэмію Міжнароднага конкурсу імя Ганны Герман "Танцуючыя Эўрыдыкі" ў Зялёнай Гуры, што ў Польшчы.

Канцэртная праграма складалася з трох частак. Першая была прадстаўлена песнямі на вершы Яўгеніі Янішчыц, музыку да якіх напісала Ганна Бутырчык — аўтар многіх кампазіцый з рэпертуара Надзеі і Марыны. Лірыка Я. Янішчыц, перапляценая з пералівамі гітарных струн, адкрывае новыя грані, становіцца сапраўднай споведдзю жаночай душы.

У другой і трэцяй частках праграмы спявачкі выканалі песні на вершы Ганны Бутырчык, музыку да якіх напісала Марына Дзедавец. У гэтых кампазіцыях была адлюстравана не толькі любоў да яго, адзінага і непаўторнага, але і да ўсяго, што дорага, без чаго немагчыма існаваць. Тут і "пра жыта пад бацькоўскаю рукою, пра бусла над дзедавай страхою", пра надзею на лепшае і нават пра …каровы, якая марыла навучыцца лятаць. І, зразумела, паляцела. Таму што верыла ў сваю мару.

Канцэрт "Пачынаецца ўсё з любові" вакальнага дуэта "Сумесная вандроўка" — гэта цудоўнае падарожжа ў дзівосны свет чалавечых пачуццяў, кардыяграма душы, на якой добра відаць, як моцна б'ецца сэрца ў таго, хто проста любіць…

Надзея ПЯКАРСКАЯ

## Прэміі

# Кола магчымых лаўрэатаў

Прайшло першае пасяджэнне савета па прысуджэнні літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта. Па словах старшыні Савета, старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоля Крэйдзіча, на абмеркаванне былі вынесены больш за два дзесяткі кніг. Большасць з кніг — паэтычныя зборнікі. Перш-наперш гэта чарговая кніга Віктара Вабішчэвіча, настаўніка гісторыі з Давыд-Гарадка, пад назвай "Уражанне".

З ёй канкурыруе кніга паэзіі Надзеі Парчук "Раскрыліўся бусел над хатай" (2009), а таксама новая яе кніга "Зарунее жыта зноў", выдадзеная сёлета. Прэтэндуюць на атрыманне прэміі таксама наступныя кніжкі: "Знакі на валуне" Лявона Валасюка, "Хлеб надзённы" Івана Мельнічука, "На два галасы" Любові Красеўскай (дарэчы, гэты паэтычны зборнік адзначаны дыпломам на свяце беларускага пісьменства ў Хойніках), "Доўгі шлях у Кіцеж" Мікалая Аляксандрава, дзве кнігі паэзіі Алеся Корнева з Бараначвіч "Як песня, год мінае" і "Мядовы полюс" і добры дзясятак кніг іншых аўтараў.

У галіне прозы ўдзельнікі першага пасяджэння савета вылучылі кнігі Аляксандра Валковіча "Алеся. Белавежскія сны", "Бяроза чорная. Бяроза белая", а таксама сёлетнюю дакументальна-мастацкую кнігу "Пісьмы вайны", аснову якой складаюць салдацкія лісты з фронту часоў Вялікай Айчыннай.

Сімпатыі членаў савета выклікалі таксама кнігі "Там, за Дняпра-Бугам" Васіля Літвінчука (разгорнутая і праўдзівая эпапея партызанскай вайны на тэрыторыі цяперашніх Драгічынскага, Іванаўскага і памежных з імі раёнаў), "Дарога дамоў" Веры Пракаповіч, "Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX — XX ст." Вольгі Папко ды некаторыя іншыя.

С.Д.

## Літ-абсягі

# Суцяшэнне літаратурай

Серыя “Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі” — адзін з паспяховых кніжных праектаў — папоўнілася кнігай прозы Уладзіміра Саламахі “Утешь меня кривдой”, якая была перакладзена з беларускай мовы Максімам Печанем і Уладзімірам Глушаковым.

У беларускі літаратурны працэс Уладзімір Саламаха ўвайшоў напрыканцы 1970-х, калі з’яўлялся старшым рэдактарам Дзяржаўнага камітэта БССР па кінематаграфіі. Дагэтуль была праца карэктарам на радзіме, у рэдакцыі раённай газеты “Кіравец”, служба ў армії і вучоба на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля — праца ў часопісах “Маладосць”, дзе творца прымаў чынны ўдзел у падрыхтоўцы да друку слаўутай бібліятэчкі гэтага выдання, і “Полымя”, у газеце “Літаратура і мастацтва”, выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, кіраванне часопісам “Вожык”.

Больш чым тры дзесяцігоддзі пісьменнік выступаў у жанрах прозы, крытыкі, публіцыстыкі, эсэ. Адных толькі кніг набярэцца больш за дзясятак! Але галоўным для У. Саламахі, безумоўна, застаецца жанр прозы. “Што проза для мяне? — пытаўся ў самога сябе пісьменнік у аўтабіяграфіі. — Мабыць, нейкі імпульс ці настрой. Бывае, доўга нешта хвалюе, трывожыць. Хочацца выказацца. І стан такі, што пісьмовы стол непатрэбны: на вуліцы, у метро, у рыбацкай лодцы, днём, сярод ночы — усё ў галаве “прагаварона” і “ўбачана”.

Зборнік складаецца з аповесцей “Развернись, земля”, “Опознается личность мужчины” і “Утешь меня кривдой”, шэрагу апавяданняў. Тэматыка твораў рознабаковая: ад падзей ваеннага мінулага да сучаснасці. Тым, не менш іх аб’ядноўвае агульная рыса, калісьці трапна заўважаная Янкам Скрыганам. Аналізуючы творчасць Саламахі, ён заўважыў, што пісьменнік “умее весці апавяданне, кіраваць яго развіццём. У яго цікавыя сённяшнія тэмы, у іх многа надзённасці і хвалявання. У яго свабодная плынь мастацкага мыслення...”. Такая высокая ацэнка вельмі падыходзіць да новай кнігі пісьменніка.

Назву “Утешь меня кривдой” дала аднайменная аповесць, прысвечаная наступствам вайны ў лёсах людзей. Прызнаюся, апошнім часам разгортваю такія творы з унутранай насцярогай: слаба верыцца, што аўтар можа сказаць нешта новае. Але Саламаха цалкам перамог чытацкі скепсіс.

Галоўны герой Сашок паспеў паваяваць у чэрвені 1941 года толькі адзін дзень, пасля чаго быў паранены і страціў фізічную магчымасць працягваць барацьбу. Тым не менш ён не лічыць сябе ўдзельнікам вайны і моцна пакутуе ад таго, што іншыя ваявалі ў той час, як ён быў прыкаваны да ложка. Цытата паэта-франтавіка, якую прыводзіць Сашок (Я знаю, никакой моей вины // В том, что другие не пришли с войны, // В том, что они — кто старше, кто моложе — // Остались там, и не об этом речь, // Что я их мог, но сумел сберечь, — // Речь не о том, но все же, все же, все же….), найбольш поўна перадае перажыванні гэтага чалавека.

За выключэннем некалькіх “ваенных” раздзелаў у творы не гучаць стрэлы і выбухі, амаль не чуваць нямецкай мовы. Ёсць толькі шчырая і бязлітасная размова з самім сабой. Думаецца, менавіта ў такім падыходзе да ваенных падзей, у разглядзе яе наступстваў на лёсы людзей, у гуманістычным і агульначалавечым поглядзе на іх, схаваны перспектывы развіцця беларускай ваеннай прозы.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

## Арт-лінія

# Фарбы «Залатой палітры»

У мастацкай галерэі “З’ява” Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева ў Барысаве адкрылася выстаўка “На крылах таленту”. Тут прадстаўлены творы ўдзельнікаў барысаўскіх пленэраў “Залатая палітра” — навучэнцаў мастацкіх школ краіны. Гэтыя работы адлюстроўваюць уражанні юных мастакоў ад сустрэчы з культурай роднага краю. Акрамя таго, дзеці прысвячаюць свае эцюды беларускай прыродзе, выяўляючы не толькі яе характар, тонкі і лірычны, але і аўтарскае бачанне навакольнага свету. Для многіх юных мастакоў такая выстаўка — першая ў жыцці.

У экспазіцыі прадстаўлена 12 батыкаў, 54 малюнкі гуашшу і некалькі работ у тэхніцы саломапляцення. Выстаўка прымеркавана да новага пленэру — з мэтай, каб дзеці, якія прыедуць з усёй Беларусі пры канцы верасня на чарговую арт-сесію, змаглі яе паглядзець, абмяняцца досведам.

З Барысаўскай дзіцячай мастацкай школай мастацкая галерэя “З’ява” (раней — выставачная зала гарадской бібліятэкі) сябруе ўжо 31 год. Сёння ў ДМШ спасцігаюць азы мастацтва каля 270 навучэнцаў на бюджэтнай аснове, ёсць групы на самаакупнасці. Асноўным тут з’яўляюцца вывучэнне малюнка і жывапісу, развіццё творчага патэнцыялу вучняў на занятках па кампазіцыі, а таксама знаёмства з гісторыяй сусветнага і айчыннага мастацтва. На ўроках асвойваецца і традыцыйнае для Беларусі рамяство — саломапляценне. І менавіта на базе гэтай школы штогод праводзіцца рэгіянальны пленэр “Залатая палітра”.

Яе выхаванцы жывуць поўным творчым жыццём, пастаянна і небеспаспяхова ўдзельнічаюць у розных пленэрах, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах. Гэта дапамагае юным мастакам далучыцца да культурнай спадчыны і раскрыць свой уласны талент. Сёлета на рахунку школы 16 дыпломаў і адзін медаль, заваяваныя юнымі барысаўчанамі на розных міжнародных творчых конкурсах, а таксама медаль рэспубліканскага конкурсу. Выпускнікі ДМШ — сур’ёзныя канкурэнты для абітурыентаў творчых вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў. Сцяпан Клімчук, дырэктар Барысаўскай ДМШ, удакладняе: “Сёлета мы выдалі 43 пасведчанні аб заканчэнні нашай школы, і 35 навучэнцаў паступілі ў ВНУ і каледжы. Па гэтым паказчыку мы традыцыйна займаем першае месца ў Мінскай вобласці. Так, Дар’я Мельнікава, двойчы стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, паступіла ў Санкт-Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, а гэта адна з самых прэстыжных навучальных устаноў у свеце. Уладзімір Саклоўскі паступіў у Варшаўскую мастацкую акадэмію, Наста Анісовіч — у ЕДУ ў Вільнюсе. Нашы выпускнікі працягваюць навучанне ў Гродне, Віцебску, Гомелі, Магілёве, Мінску”.

На адкрыццё выстаўкі прыйшлі юныя аўтары, іх бацькі, педагогі. Мастацтвазнаўцы галерэі “З’ява” і гледачы высока ацанілі ўзровень твораў таленавітых дзяцей, сапраўды залатую палітру творчасці.

Анатоль МАЗГОЎ

На здымку: работа 13-гадовай Дар’і Яўтуховіч “Жылі-былі...” (папера, гуаш).

Фота аўтара

## Повязі

# І ў Варшаве, і ў Мінску

Чарада падзей, што адбыліся за першы восеньскі месяц у культурным жыцці нашай краіны, — найлепшае сведчанне развіцця даўніх і добрых стасункаў між беларусамі ды палякамі. Артысты з розных тэатраў Польшчы паказалі свае спектаклі ў Брэсце падчас традыцыйнага фэсту “Белая Вежа”. Прэзентацыя анімацыйных фільмаў для дарослага гледача, створаных маладым пакаленнем польскіх кінематаграфістаў, адбылася на XIII Міжнародным фестывалі анімацыйных фільмаў “Анімаёўка” ў Магілёве. Другая палова верасня ўразіла разнастайнасцю супольных музычных праектаў і не толькі...

Беларуская дзяржаўная філармонія пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску ладзіла ўжо другі канцэрт цыкла “Люстэрка душы”, прысвечаны 200-годдзю Ф. Шапэна, з удзелам лаўрэата міжнародных конкурсаў Аляксандра Палякова і з прэзентацыяй выдадзенага сёлета кампакт-дыска Шапэнавых твораў у выкананні гэтага беларускага піяніста. Праграма “Музыка польскіх кампазітараў” у выкананні беларускіх музыкантаў-лаўрэатаў днямі гучала ў музычных школах Браслава і Мёраў. Лепшы джазавы барабаншчык Польшчы Цэзары Конрад і прафесар Варшаўскага музычнага ўніверсітэта, прэзідэнт Польскай перкусійнай асацыяцыі Станіслаў Скачынскі выступілі поруч з германскімі ды літоўскімі гасцямі фэсту “Дні барабанаў і перкусіі ў Беларусі”. Незабыўным для мінскай публікі стаў і вечар-імправізацыя Трыа Цэзарыя Конрада. А вось выстаўка ў сталічным Палацы мастацтва прадставіла ўнікальныя габелены ручнога ткацтва з калекцыі галерэі “Zacisze”, што ў Варшаве, — творы, вартыя захаплення...

Часцінка польскай культуры, як вядома, узбагаціла жыццё мінскіх тэатралаў: адбылася прэм’ера спектакля “Дзева і Смерць”, пастаўленага знакамітым рэжысёрам Кшыштафам Занусі з нашымі акцёрамі на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Тым часам беларуска-польскія тэатральныя сувязі атрымалі працяг у Варшаве, дзе на сцэне муніцыпальнага тэатра “Рампа” ўчора адбылася прэм’ера “Пінскай шляхты” В. Дуніна-Марцінкевіча, ажыццёўленая пастановачнай групай з Беларусі: рэжысёр Мікалай Пінігін, сцэнограф Вольга Мацкевіч, кампазітар Мікалай Зубрыч. Днямі варшавяне маглі паглядзець той варыянт “Пінскай шляхты”, што ідзе ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Як паведамілі з Міністэрства культуры Беларусі, спектакль “Пінская шляхта” стане ў тэатры “Рампа” рэпертуарным; хаця іграюць у ім польскія акцёры, ролю Кручкова будзе выконваць купалавец Віктар Манаеў, які спецыяльна да гэтага праекта ўдасканаліўся ў польскай мове. Праект, ажыццёўлены пры падтрымцы міністэрстваў культуры Беларусі і Польшчы, прадугледжвае і творчы абмен між тэатрамі: акцёры будуць прыязджаць адно да аднаго і паказваць “Пінскую шляхту” ў “не сваіх” дэкарацыях.

Лана ІВАНОВА

На здымку: заслужаны артыст Беларусі Віктар Манаеў у спектаклі “Пінская шляхта”.

Фота Аляксандра Дзмітрыева

## З-пад пяра

“Натхненне” — менавіта так называецца зборнік прозы і лірыкі Кобрыншчыны, які ўбачыў свет у выдавецтве “Альтэрнатыва” (Брэст). Упершыню 53 кобрынскія аўтары аб’ядналіся пад адной вокладкай. Зборнік падзелены на два раздзелы: “Под крылом белого аиста” і “Под сенью кобринских берёз”. У першы ўвайшлі творы тых аўтараў, якія наведваюць пасяджэнні літаратурна-паэтычнага аб’яднання “Белы бусел”. Кожнаму аўтару было адведзена па 6 старонак. Побач з, магчыма, дзесьці недасканалымі спробамі пяра вылучаюцца вартыя ўвагі творы Юліі Піваваравай, Ігара Сідарука, Тацяны Сад, Наталлі Данілюк, Зінаіды Навасад, Канстанціна Котава, Сяргея Страчука, Аркадзя Тура ды іншых.

Наталля КАНДРАШУК

У Буда-Кашалёўскай раённай карціннай галерэі імя Я. Майсеенкі адбылася прэзентацыя другой кнігі паэтычнага зборніка Міхаіла Новікава “По бескрайним далям, по лесным просторам”. Разам з вядучай імпрэзы бібліятэкарам раённай бібліятэкі Наталляй Каротчыкавай прысутныя прайшлі шляхамі жыццёвага і творчага лёсу паэта, паслухалі яго вершы ў выкананні бібліятэкара Наталлі Лагуновай. Паэта, які больш трох дзесяцігоддзяў адпрацаваў дырэктарам Буда-Кашалёўскага лягаса, віншавалі старшыня раённага савета дэпутатаў Алена Алексіна, галоўны рэдактар раённай газеты “Авангард” Ганна Антонава, намеснік дырэктара раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Вольга Папкова, яго сябры з літаратурнай гасцёўні “Натхненне” мясцовыя паэты Лідзія Бычкова, Алена Шульга і Барыс Адашкевіч. Завіталі на прэзентацыю і паэты-землякі: з Гомеля — Міхась Болсун, з Мінска — Анатоль Зэкаў, які, дарэчы, напісаў прадмову да зборніка.

Анатоль ЗАРЭЦКІ

Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Вялікая культурная спадчына Індыі і Беларусь. Да 75-годдзя Пакта Рэрыха” прайшла ў Доме дружбы. Пакт Рэрыха — міжнародны дагавор, мэта якога — ахова мастацкіх і навуковых устаноў, гістарычных помнікаў. На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Індыя ў Рэспубліцы Беларусь Рамеш Чандра, прадстаўнік Міжнароднага савета Рэрыхаўскіх арганізацый імя С. М. Рэрыха.

Ілона КУПРЭЙЧЫК

Адмысловыя і цікавыя работы пераможцы Рэспубліканскай выстаўкі-конкурсу ў намінацыі “Тканіна. Габелен. Мадэліраванне” Марыі Барысенка можна ўбачыць у мастацкай галерэі “Універсітэт культуры” на выстаўцы, якая праходзіць у рамках Рэспубліканскай выстаўкі сучаснага выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва “Зямля пад белымі крыламі”. Таемнасць пачынаецца з самой назвы — “Джаз”. Адразу ўспамінаецца музыка са сваім асаблівым рытмам і тактам. Габелены мастачкі — магчымасць знайсці пачуцці, эмоцыі, уражанні, адчуць кожную іх дэталь. Прадстаўлены вельмі выразныя работы: “Джазавая скрыпка”, “Імправізацыя”, “Сэрца кантрабаса”, “Музыка вечная”.

Дар’я ШОЦІК

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні Качатковай Ірыне Львоўне ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — заўчаснай смерцю СЫНА Юрыя.

Калектыў РВУ “Літаратура і Мастацтва” выказвае шчырыя спачуванні сваёй былой супрацоўніцы, пісьменніцы Ірыне Качатковай з прычыны вялікай страты — заўчаснай смерці СЫНА Юрыя.




# У творчым люстэрку

У кожнага, зразумела, свая дарога па гэтым жыцці. Хтосьці пракладвае яе на трывалым падмурку матэрыяльнага дабрабыту, хтосьці з захопленасцю глядзіць у нябесныя вышыні, камусьці для шчасця дастаткова прыязнай усмешкі сябра, блізкага чалавека. Ён, сучаснік, і ў XXI стагоддзі, у нашым заўрбанізаваным, заглабалізаваным свеце імкнецца не забыцца на вечныя каштоўнасці, якімі кіраваліся, вымяралі сваё жыццё нашы папярэднікі. І, бясспрэчна, хоча нешта вартае зрабіць, каб успомнілі пасля добрым словам. Толькі часта выпадае па-звыкламу: захацеў як лепш, а атрымалася як заўсёды…

Чаму ж "як заўсёды", калі кожны з нас сам сабе тчэ канву жыцця, прысутнасці на нашай шчодрай зямельцы? Можа, таму, што аднойчы, махнуўшы рукою, маўляў, няхай будзе, як будзе, перасталі гаварыць пра тое, што ёсць добрае і благое, што з учынкаў праскочыць непрыкмечаным, спішацца на славутыя аб'ектыўныя абставіны, а што застанецца ў памяці?

Сённяшні лімаўскі суразмоўца заўважае, "што і ў вузкаспецыялізаваных выданнях вясковага профілю з'яўляюцца матэрыялы, скажам так, маральнай накіраванасці" ды звяртае ўвагу на цяпер ужо амаль хрэстаматыйныя прыклады выдатных майстроў нарыса. Мы ж заўважаем: дыялог працягваецца, і рэдакцыя па-ранейшаму чакае допісаў творцаў пра наша жыццё і з адказамі на пытанні анкеты пісьменніка.

Ірына ТУЛУПАВА, рэдактар аддзела публіцыстыкі
e-mail: Tulupova_05@mail.ru

# З вострым поглядам, з трапным словам

У адной з аршанскіх бібліятэк патрапіла мне на вочы кніга даўніх гадоў выдання вядомай беларускай пісьменніцы Алены Васілевіч з дзіўнаватай назвай "Першая жонка нябожчыка". Гэта літаратурна-біяграфічныя нататкі, нібы кніга ўспамінаў пра людзей, якіх яна добра ведала і якія калісьці яе чымсьці падзівілі.

Чатыры дзясяткі гадоў тым ці іншым чынам звязвалі маё жыццё з журналістыкай. Таму з асаблівай цікаўнасцю прачытаў вось гэтую нататку — пра знакамітую нарысістку і літаратуразнаўцу: "У сваёй крытычнай дзейнасці Вера Палтаран была заўсёды патрабавальнай, неабвержна доказнай і па-мужчынску лагічнай. Добразычлівасць і захопленасць яе нязменна былі раскватэчаны жыццядайным гумарам і разам з тым уважаным на вагах удумлівага і сур'ёзнага клопату.

А клопат яе нязменна быў пра чалавека і пра яго лёс. Пра яго будучыню.

— А вы па чым будзеце? — заўважыў нарэшце журналіста старшыня калгаса. — Па льну, ці па малаку, ці па мясу таксама?

Што было яму адказаць?

— Я па людзях.

Так, з гэтай не заўсёды ўдзячнай ношкай — "па людзях" — за плячыма і ў сэрцы прайшла яна ў нялёгкай хадзе па сваім жыцці.



І вось гэтае трапнае слова "па людзях" неадчэпна засела ў маёй памяці.

Апошнім часам шмат нязіраю і аналізую тое, як і хто піша пра вёску і вяскоўцаў. Бясспрэчна, больш цікавіць праблематыка і аналітыка такіх матэрыялаў, а не публікацыі з менеджментам рэкламнага характару, калі запыцца — атрымаў артыкул, нарыс, шматгалосае інтэрв'ю пра цяперашнюю пасляхоўскую прадпрыемства ці гаспадаркі.

Мне падабаецца, што цяпер рознапрофільныя вучоныя ўсё больш абвострана разважаюць пра эфектыўнасць і культуру вытворчасці, аб тым, якой яна павінна быць. У сцвярджэнне магу прывесці словы намесніка старшыні прэзідыума НАН Беларусі, акадэміка Уладзіміра Гусакова: "Вядома, што нельга будаваць перспектывы на "временщиках", якія не маюць мэт і імкнення "быць гаспадаром на зямлі". Эфектыўная эканоміка — гэта вынік мэтанакіраванай, зладжанай і граматнай работы".

У наш няпросты век веданне самога сябе асабліва патрэбнае. Галоўнае, каб усе мы пакрысе пазбаўляліся варожасці да іншых людзей, як бы ні жылі — беднавата ці багата. Паназірайце нават на побытавым узроўні, як не ўжываюцца паміж сабой сваякі, як часам паводзяць сябе сястрычкі альбо маці з дочкамі — нібы "лінію фронту" адбіваюць адна ў адной учэпістым і злым словам. І ў працоўным калектыве, і ў суседскім асяродку часта назіраем мы "вайну жаночых і мужчынскіх нерваў". Навошта ім гэта? Хтосьці падказаў, параіў бы ім, як у той прыказцы: "Не крычы, бо на лета за гуртовага пастуха пойдзеш".

> — А вы па чым будзеце? — заўважыў нарэшце журналіста старшыня калгаса. — Па льну, ці па малаку, ці па мясу таксама?
> Што было яму адказаць?
> — Я па людзях...

> Людзі часам скажаюць праўду для сваёй зручнасці, абараняючы саміх сябе, альбо дзеля любові. Аднак некаторыя ператвараюць хлусню ў казырную карту, скажаючы не праўду, а сваю сутнасць.

Звычайна наша шматграннае жыццё ахопліваецца нейкім усеабдымным словам-характарыстыкай. Спазнаеш такое слова — вывучыш і ўдасканаліш сябе, напоўніш сваё жыццё новым карысным зместам, будзеш больш радавацца яму.

Прызнацца, мяне парадавала тое, што і ў вузкаспецыялізаваных выданнях



вясковага профілю паяўляюцца рубрыкі — раздзелы з матэрыяламі, скажам так, маральнай накіраванасці. І гэтую добрую справу, у тым ліку з удзелам нашых беларускіх пісьменнікаў-нарысістаў, варта было б падожўжыць. Бачу, напрыклад, як шмат зрабіла і дапамагла часопісу "Белорусское сельское хозяйство" вядучая новага раздзела — рубрыкі "Важныя дробязі" кандыдат філасофскіх навук, дацэнт кафедры педагогікі і псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Надзея Кормнава. Запынюся на адным з яе артыкулаў "Увага: эмоцыі!", у якім яна звяртаецца да чытача наўпрост, нібы па-сваяцку: "Не дазваляйце дробязям кіраваць вашым жыццём. Вызначыце, што для вас галоўнае, і імкніцеся дасягнуць гэтага. Памятайце: чалавек не можа атрымаць усё і адразу, і за ўсё, што ён мае альбо хоча мець, ён павінен заплаціць чымсьці. Непрыемныя дробязі — гэта і ёсць самая малая плата за галоўнае ў жыцці. Дрэннае надвор'е, няветлівы погляд, прышчык на кончыку носа, зняўзнацку адарваны гузік і мноства іншых дробязей, здольных атруціць нам жыццё, на самай справе могуць стаць нашымі спадарожнікамі, калі навучыцца правільна да іх ставіцца".

З гэтай нагоды ўспомнілася мне кніга "Ваш імідж" Лідзіі Вечар, выдадзеная ў пачатку новага стагоддзя ў Мінску. Ёсць там невялічкі раздзел пад назвай "Хлусня ў нашым жыцці": "Людзі часам скажаюць праўду для сваёй зручнасці, абараняючы самiх сябе, альбо дзеля любові. Аднак некаторыя ператвараюць хлусню ў казырную карту, скажаючы не праўду, а сваю сутнасць". І хтосьці ж павінен сказаць ім гэтую праўду пра іх жа саміх — як кажуць, з вострым поглядам, з трапным словам.

З вялікай цікавасцю сачу цяпер і за тым, як шырока ў навуковым асяроддзі абмяркоўваюць вучоныя-аналітыкі праекты Канцэпцыі і Праграмы развіцця АПК на 2001 — 2015 гады. У прыватнасці, гаворыцца ў іх і аб стварэнні ў новай аграрнай пяцігодцы скразных самадастатковых кааператыўна-інтэграцыйных аб'яднанняў па прадуктовым (таварным) прынцыпе, у іх ліку і льнотаварнага. Пра лён пішуць сёння многія журналісты і пісьменнікі. Хацелася б, каб іх было яшчэ больш, каб пісалі дасведчана і ведаючы сутнасць справы і пераўтварэнняў у гэтай галіне. Таму і я, дзе і як толькі можна, спрабую даказаць вось гэтую, здавалася б, простую ісціну: ільнаводству патрэбен надзвычайна працавіты і кемлівы чалавек. Летась выдавецтва Беларускай Энцыклапедыі імя П. Броўкі выпусціла ўнікальнае выданне — энцыклапедыю "ЛЁН" (асаблівая ўдзячнасць за гэта Таццяне Іванаўне Жукоўскай і Людміле Валяр'янаўне Лоўчай). Цяпер мы рыхтуем да выдання кнігу максімальна практычнага плана пад простай назвай "Ільнаводства" — аб тым, што ёсць у практыцы і якой яна павінна быць.

Сапраўды, ільнаводства ўжо не пацерпіць няўмекаў. Падрыхтаваны да выдання ў кніжным варыянце і нарыс — даследаванне "Ільняную справу найперш палюбі". У ім расказваецца пра сённяшнюю сітуацыю на сусветным рынку льну, у краінах СНД (у прыватнасці, у Расіі і Украіне), у льнаводстве Беларусі і шляхах яго далейшага развіцця. Па ідэі, ён прызначаны спецыялістам-ільнаводам, а таксама людзям, якія здолелі б актыўна дапамагчы ў будучым станаўленні гэтай галіны. Інакш кажучы, тым, хто здолее рабіць, як у Веры Палтаран, паматаецце: цікавіцца пытаннямі і "па людзях", каб потым як след іх цаніць і паважаць.

Мікалай МАРКЕВІЧ,
навуковы супрацоўнік
інфармацыйна-аналітычнага
аддзела РУП "Інстытут ільну"

## Анкета пісьменніка

# Захаваць меру



1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, в я ш ч а л ь н і к а м ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў – міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі "вучыць жыць"?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?

Сяргей ТРАХІМЁНАК,
сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі:

1. Я ніколі не лічыў пісьменніка ні настаўнікам, ні ўрачом, ні тым, хто ведае ісціну ў апошняй інстанцыі. Для мяне літаратура, калі яна ўдзельнічала ў сацыяльным рэгуляванні, заўсёды была болем. Хаця пры пэўных умовах боль можа быць і настаўнікам, і ўрачом. Патрэбнасць у прысутнасці пісьменнікаў на ТБ ці ў газетах тлумачыцца зменай каштоўнасцей. Дакладней, настойлівай спробай падмяніць нашы каштоўнасці цывілізацыі "Праўды" каштоўнасцямі цывілізацыі "Выгоды". У гэтых цывілізацыях бухгалтар — фігура больш знакавая, чым пісьменнік.

А асоба пісьменніка ў нас была больш значнаю таму, што аб'ядноўвала ў сабе многія функцыі, дыферэнцыяваныя на Захадзе: апазіцыянера да ўлады, прарока, захавальніка і апекуна традыцыйных каштоўнасцей.

2. Пра падзенне нораваў можна гаварыць, калі мы можам вылучыць нейкія адзіныя крытэрыі маральнасці і параўнаць, абапіраючыся на іх, адну эпоху з іншай. Згадайма фільм "Сямнаццаць імгненняў вясны". Пастар Шлаг слухае па радыё песню Эдзіт Піяф і гаворыць: "Поўнае падзенне нораваў".

Кнігі не павінны прама вучыць жыць, як гэта робяць падручнікі і вучэбныя дапаможнікі. Аднак, як ні парадаксальна, яны не могуць не вучыць жыць, мастацкая проза дае ўзоры паводзінаў, якія прымае ці не прымае грамадства. Часам, апісваючы тое, што не падабаецца, мы задаём варыянт тугі па супрацьлеглых паводзінах. У літаратуры гэта называецца "тугой па ідэале". Менавіта яна лепшы настаўнік жыцця.

3. Па-рознаму. Ёсць пісьменнікі, якія могуць спалучаць грамадскую актыўнасць з літаратурнай творчасцю, а ёсць тыя, хто не можа адначасова быць актыўным у грамадскім жыцці і творчасці. Яму лягчэй займацца тым, што ў яго лепш атрымліваецца.

4. Я вызначыў бы ў якасці асноўнай рысы ўсяго нашага існавання барацьбу старых і новых каштоўнасцей. Ёю прасякнута літаральна ўсё. Нават тыя сферы, феномены якіх традыцыйна не могуць быць ацэненыя ў грашовым эквіваленце. Наша славянская ментальнасць успрыняла пераход да рынкавых адносін гэтак жа апантана, як раней адмаўляла іх. У выніку назіраецца эфект цара Мідаса. Усё, да чаго дакранаюцца чалавечыя рукі з жаданнем атрымаць выгоду і прыбытак, перастае іграць тую ролю, якую яно адыгрывала раней. І гэта досыць небяспечная тэндэнцыя. Зразумела, грошы — гэта кроў эканомікі і сацыяльныя арганізмы адчуваюць у іх патрэбу, хаця б для ажыццяўлення абмену. Аднак акрамя крыві ў сацыяльным арганізме павінны існаваць і іншыя складнікі. Наколькі хутка мы пераадолеем дзіцячыя хваробы, звязаныя з рынкам, наколькі захаваем меру паміж тым, што мае каштоўнасць і тым, што не мае яе, але фактычна бясцэннае для выжывання, настолькі менш нас будзе ліхаманіць у будучым.






Кніжная скарбніца Прынёманскага краю — Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага адсвяткавала сваё 180-годдзе.

# Тэрыторыя ведаў і дабра

## Бібліятэка ў цэнтры Еўропы

Па вуліцах і завулках старажытнай Гародні можна хадзіць штодня, 24 гадзіны запар. Хадзіць і ўдыхаць паветра, насычанае блізкім вам духам, перапоўненым пачуццём стрыманага ўсведамлення сваёй годнасці, патрэбнасці на нашай агульнай зямлі. Здаецца, гукні — і пачуеш галасы з мінулага, слаўных продкаў, што складалі агульны нацыянальны вялікі радавод. Тут валадарылі каралі, кіравалі дзяржаваю і ўсведамлялі сябе адказнымі за ўсё існае, наша, беларускае — як часткі Еўропы. Мы ў радаводным дрэве — недзе на маладым адгалінаванні, але спрычыненасць да падзей, якія разгортваліся тут раней і працягваюць непакоіць думкі сучаснікаў новымі адкрыццямі і паваротамі, зацягвае ў віхуры падзей ужо навейшай гісторыі. Балазе, і ў гістарычных памяшканнях цяпер віруе жыццё, вабіць нечаканымі знаёмствамі, сустрэчамі.

І ва ўстанове на Замкавай, 20, у сацыякультурным цэнтры горада і вобласці — Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага — таксама заўсёды шматлюдна. Тут вялікая база дадзеных, звестак, якія патрэбны кожнаму па інтарэсах. Неяк падлічылі: толькі ў аддзеле абанемента — каля 3 тысяч кіламетраў кніг! Яна ператварылася ва ўстанову, дзе збіраецца творчая інтэлігенцыя, навукоўцы, моладзь, ветэраны. "Даводзіцца толькі ганарыцца, што ў цэнтры горада — такая бібліятэка і носіць яна імя Яўхіма Карскага", — зазначыла на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Публічная бібліятэка ў кантэксце сацыякультурнай прасторы рэгіёна: два стагоддзі гісторыі" Ірына Сенчанкава, намеснік старшыні Гродзенскага гарадскога выканаўчага камітэта.

Як гэта часта бывае, дзелавы кірунак падчас святочных мерапрыемстваў насычаецца да неверагоднага, даклады перапоўнены новымі фактамі, грунтоўным аналізам і аўтарскай эксклюзіўнасцю. Гэта забяспечваецца ўзроўнем удзельнікаў — пачэсны юбілей збірае самых зацікаўленых. Распачаўшыся зранку, навуковая канферэнцыя, вядучым якой быў начальнік упраўлення ідэалагічнай работы Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Павел Скрабко, завяршылася апоўдні. Яе гасцямі сталі консул Рэспублікі Польшча ў Гродне Катаржына Гжэхнік, праўнук Я. Ф. Карскага, пісьменнік з Санкт-Пецярбурга Аляксандр Карскі, дырэктар Падляскай ваяводскай бібліятэкі імя Л. Гурніцкага, магістр, паэт Ян Леанчук, начальнік упраўлення культуры Паўночна-Заходняй адміністрацыйнай акругі г. Масквы Алена Кузняцова, начальнік упраўлення культуры Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Аляксандр Лойка. Сярод удзельнікаў канферэнцыі — навукоўцы Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, кіраўнікі і супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Брэсцкай абласной бібліятэкі, Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі, Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, кіраўнікі аддзелаў культуры і цэнтральных бібліятэчных сістэм рэгіёна ды інш. Разглядаліся розныя аспекты дзейнасці першай публічнай бібліятэкі на Беларусі: "Галоўная бібліятэка Гродзеншчыны і фарміраванне інтэлектуальнай эліты рэгіёна", "Прыватныя бібліятэкі Гродзеншчыны XIX — пачатку XX стст.", "Гісторыка-краязнаўчая праблематыка ў зборы кніг Дзяржаўнай установы культуры "Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага", "Эліза Ажэшка — творца культуры на Гарадзеншчыне".



Але перад канферэнцыяй быў яшчэ дзень адкрытых дзвярэй: па калідорах скарбніцы-імянінніцы шпацыравалі школьнікі ды заўзятары чытання — студэнты Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, Гродзенскіх дзяржаўных аграрнага, медыцынскага ўніверсітэтаў, Беларускага інстытута правазнаўства. Разгарнулася выстаўка "Невычэрпная крыніца мудрасці Прынямоння", свае знаходкі, фонды і тэматычныя выстаўкі прэзэнтавалі аддзелы абанемента, краязнаўства, перыядычных выданняў, інфармацыйна-бібліяграфічнай работы, бібліятэказнаўства, інфармацыйна-адукацыйны цэнтр…

## Сучасны кнігапіс

"Ваш юбілей — і наша свята, — зазначыў адзін з удзельнікаў дэбатаў, дэкан факультэта гісторыі і сацыялогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Эдмунд Ярмусік. — Таму што ў бібліятэку звяртаюцца студэнты, аспіранты, выкладчыкі, і знаходзяць не толькі патрэбную літаратуру, а любоў і павагу. Сумесна мы праводзім шэраг мерапрыемстваў".

"Бібліятэка ёсць хата, у якой жывуць кнігі, — прадоўжыў кандыдат філалагічных навук, прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксей Пяткевіч. — А кніга сілкуецца той энергіяй, што была закладзена ў іх творцамі-аўтарамі. Сярод аўтараў пераважна дзве катэгорыі: пісьменнікі і вучоныя. Усе астатнія, хто мае дачыненне да пісання кніг: журналісты, краязнаўцы прымыкаюць да гэтых двух катэгорый. Такім чынам, дзве групы таленавітых людзей пішуць кнігі. А хто чытае? — усе. Усе прыходзяць у гэту кніжную хату, гасцінна расчыненую заўсёды. Кнігапіс займае першую пачэсную прыступку на шляху да пазнання жыцця і сябе ў ім. Бібліятэка ж праз кніжныя веды фарміруе асобу".

## Яўхім Фёдаравіч Карскі на Гродзеншчыне

Прысутнасць на юбілеі праўнука Яўхіма Фёдаравіча Карскага — Аляксандра Карскага пазначыла яшчэ адну важную тэму размовы, а менавіта: даследаванне спадчыны першага беларускага акадэміка, заснавальніка беларускага мовазнаўства, этнографа, фалькларыста, ураджэнца вёскі Лаша Гродзенскага раёна.

Пісьменнік Аляксандр Карскі — жаданы госць на Гродзеншчыне. Сёлета ён прыязджае ў рэгіён другі раз. Апошнім часам напісаў некалькі артыкулаў пра дзейнасць Гогаля, — выйшаў на тэму, дзякуючы цікавасці да біяграфіі прадзеда. Але больш, зразумела, Аляксандр Аляксандравіч даследуе біяграфію Я. Ф. Карскага: ад пачатку жыцця да яго спачыну. Дзве часткі працы цяпер ужо напісаны і ахопліваюць перыяд да абрання Яўхіма Фёдаравіча акадэмікам. Застаецца ў працы апошняя частка. А перад гэтым у Гродне выйшла невялічкая кніга, складальнікам якой з'яўляецца Аляксандр Карскі. Кніга выдадзеная Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам і змяшчае інфармацыю пра навуковыя працы Я. Ф. Карскага і месцы, дзе Яўхім Фёдаравіч жыў і якія наведваў. "Але цяпер ужо ёсць дапаўненні", — гаворыць Аляксандр Аляксандравіч. Многія з іх з'явіліся пасля наведвання Гродзеншчыны. Некаторыя — пасля вывучэння матэрыялаў іншых крыніц: газет таго часу, якія пераважна знаходзяцца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу, прагляду "Русского филологического вестника", некаторыя з матэрыялаў якога, зразумела, належаць пяру Яўхіма Фёдаравіча. Уважлівы прагляд таго, што было надрукавана, дае падставы для высвятлення акалічнасцей іх напісання і жыцця даследчыка. Так паступова і распрацоўваецца біяграфія Я. Ф. Карскага. "Дагэтуль пра дзеда пісала мама, — распавядае Аляксандр Карскі. — Выйшла некалькі яе прац, прысвечаных, прыкладам, эпісталярнай спадчыне Карскага. Пасля смерці мамы гэты абавязак перайшоў мне. Я ўбачыў шмат белых плямаў у біяграфіі і дакументаў, якія невядомы. Уся літаратура ў нас дома ёсць. Выходзілі біяграфіі Яўхіма Фёдаравіча, мы іх набывалі. Але калі я стаў чытаць — знайшоў шмат недакладнасцей, многія дакументы ніяк не адлюстраваны. І зразумеў, што трэба глыбей разбірацца ў гісторыі. Стараюся паказаць чалавека, асобу, яго атачэнне. Калег, сваякоў, першага настаўніка, пра што раней не пісалі. Думаю, што трэба паказаць тую эпоху. Мамы Карскага нават імя і імя па-бацьку не ведалі. Цяпер усё ўстаноўлена, ведаюць яго дзеда і бабулю, братоў і сясцёр. Ёсць у новай кнізе і жывыя моманты з жыцця, успаміны маёй мамы, унучкі Яўхіма Фёдаравіча — яна з ім сустракалася, бо жылі побач, хадзілі да дзеда ў госці. Ён любіў хлеб сам рэзаць. Захаваліся ўспаміны жонкі Соф'і Мікалаеўны, зяця. Між іншым, мама ў гаворцы расказвала мне, якая магутная ў яго была памяць, да таго ж Яўхім Фёдаравіч меў фенаменальную памяць. Мама гаворыць, што стол дзедаў ніколі не быў завалены. Але ў яго было шмат кніжных паліц. І ён помніў, дзе, на якой паліцы што знаходзіцца, якую цытату яму трэба выкарыстаць і з якой старонкі. Ведаў усе славянскія мовы. Калі ён быў прыкаваны да ложка ўжо, цытаваў на памяць грэчаскіх і лацінскіх аўтараў, якіх ён вучыў у семінарыі і духоўным вучылішчы. Дзяліўся сваімі ведамі з наведвальнікамі"…



## Выток натхнення, ведаў і свята

Так назвалі Прынёманскую скарбніцу гарадзенскія творцы. Старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ Людміла Кебіч на святочнай вечарыне, якая адбылася пасля навукова-практычнай канферэнцыі, прэзэнтавала супрацоўнікам выданне з вершамі ў гонар бібліятэкі — "Да 180-годдзя Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага". Свае падарункі падрыхтавалі гарадзенскія мастакі — карціны з выявамі гарадскіх краявідаў і дзве ілюстрацыі Юрыя Якавенкі да кнігі М. Гусоўскага "Песня пра зубра". Віншавалі юбіляраў творчыя саюзы, грамадскія суполкі: Саюз палякаў на Беларусі, які прэзэнтаваў бібліятэцы "Вялікую польскую энцыклапедыю" (на польскай мове) у 7 тамах. Спрычыніліся да свята выдавецтвы, сярод якіх — рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва", якая адзначыла вялікі патэнцыял бібліятэкі ў папулярызацыі беларускай літаратуры. "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" падарыла фотаальбом "Зямля сілы. Белавежская пушча". Віншавалі калектыў скарбніцы вузаўскія бібліятэкі і цэнтралізаваныя бібліятэчныя сістэмы вобласці, прыватныя асобы. І, вядома ж, былі віншаванні ад Гродзенскага гарвыканкама і Гродзенскага аблвыканкама, якія адзначылі працу бібліятэкараў Ганаровымі граматамі. У бібліятэку прыйшло шмат кніг, у прыватнасці, 5-ы том збору твораў Гётэ – ва ўнікальным пераплёце. Так супольна гарадзенцы і госці Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага напісалі яшчэ адну старонку ў сучасным летапісе. Насамрэч, гісторыя бібліятэкі — гэта гісторыя людзей Прынёманскага краю.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: правае крыло Новага замка, дзе месціцца галоўны корпус Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага; юбілейная выстаўка кніг; начальнік упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама А. Лойка ўручае Ганаровую грамату дырэктару бібліятэкі Л. Мальцавай; будні кніжнай скарбніцы.

Фота аўтара



# Іграй, жалейка, іграй…

Выдатны майстар паэтычнага слова Уладзімір Карызна і ў сваёй новай кнізе "Лепяць ластаўкі гняздзечкі", якую выпусціла "Літаратура і Мастацтва", нязменна застаецца самім сабой. Гэта значыць, што, з'яўляючыся прыхільнікам традыцыйнай манеры пісьма, дакладна ўзважвае нават кожны радок, а кожнае слова, стараецца прамаўляць так, каб той ці іншы вобраз пры ўсёй сваёй арыгінальнасці не адшурхоўваў ад рэальнасці, ствараў выразны малюнак. Паколькі галоўная чытацкая аўдыторыя ў дадзеным выпадку — дзеці малодшага школьнага ўзросту, то кніга нясе ў сабе як пазнавальны, так і выхаваўчы аспект.

Аднак асаблівая ўвага паэта скіравана на тое, каб лішні раз напомніць дзецям аб тым, якая прыгожая і непаўторная наша радзіма Беларусь, як шмат хараства і мілагучнасці ў роднай старонцы, наколькі прыцягальныя краявіды бацькоўскай зямлі. Таму невыпадкова ягоная новая кніга адкрываецца хрэстаматыйным вершам "Люблю цябе, Белая Русь", які дзякуючы вядомаму кампазітару Юрыю Семяняку, што паклаў твор на музыку, даўно карыстаецца вялікай папулярнасцю не толькі на Беларусі, але далёка за яе межамі. Без перабольшання на гэтым творы выхавалася ўжо не адно пакаленне:

Жытнёвае поле,
лясы і азёры,
Крынічанька ў лузе
і ў небе жаўрук
Услухайся толькі,
усё тут гаворыць:
Люблю цябе,
Белая, Белая Русь.

Гэтым жа творам адначасова адкрываецца і першы раздзел кнігі, у якім прадстаўлены вершы. Ёсць таксама раздзелы "Загадкі" і "Казкі", што, безумоўна, лішні раз пацвярджае шматграннасць мастакоўскага таленту У. Карызны, але разам з тым сведчыць і пра іншае: У. Карызна, аддаўшы дзіцячай літаратуры не адзін дзясятак гадоў (першы ягоны зборнік вершаў для дзяцей "На сяле ў бабулі" выйшаў яшчэ ў 1975 годзе), разумее, што па-сапраўднаму зацікавіць маленькага чытача можна толькі тады, калі прапаноўваць яму творы, якія б не паўтаралі адзін аднаго, а ў лепшым выпадку нават былі б рознага жанру. Гэта выкліча да кнігі яшчэ большую цікавасць, жаданне чытаць яе не толькі твор за творам, а ў некаторых выпадках перагарнуць адну, другую старонку, калі ўбачыш такі твор, на які адразу кідаеш позірк. Пасля ж можна будзе вярнуцца і да прапушчанага, бо яно, калі ўнікнуць у сэнс напісанага, таксама варта ўвагі.

Скажам, пазнаёміўшыся з вершам "Люблю цябе, Белая Русь" (як вядома, кожнае новае пакаленне па-свойму адкрывае ягоную адметнасць і непаўторнасць), многім, бадай, захочацца хутчэй даведацца, а што ж гэта за твор, які даў назву ўсёй кнізе. Перагарнуўшы старонку за старонкай, на дваццаць першай яны і напаткаюць аднайменны верш:

Пад страхою каля рэчкі
Лепяць ластаўкі гняздечкі,
Насця воч з іх не спускае,
Насця ім дапамагае:
Хлеба, зерня ім выносіць,
А за гэта Насця просіць,
Каб, як стомяцца, не спалі,
Ёй на сон пашчабяталі.

На першы погляд, у творы арыгінальнага не шмат. Ды талент ёсць талент, таму ён абавязкова спрацоўвае ў любым выпадку. Уважліва ўнікнеш у сэнс гэтых радкоў, і адчуеш, як добра разумее паэт псіхалогію дзяцей. Прачытаеш верш, адразу стане відавочна, наколькі чуйная душа ў маленькага чалавека, якая спагадлівая яна, як прагне рабіць дабро.

Паколькі верш напісаны не ад першай асобы, такія думкі ў вусны дзяўчынкі ўкладвае сам паэт, але зроблена гэта надзіва непасрэдна, натуральна. Складваецца ўражанне, быццам усё гэта прамаўляе сама Насця. Дарэчы, гэткім жа шляхам У. Карызна ідзе і ў шмат якіх іншых вершах, героямі якіх з'яўляюцца тая ж Насця, а таксама хлопчык Ваня, найбольш любімыя ягоныя персанажы, якія хутчэй за ўсё маюць прататыпаў. Дый іншыя дзеці "прапісаліся" ў вершах. Як з ручайка пачынаецца рака, так і з тонкага псіхалагічнага спасціжэння душы дзяўчынак і хлопчыкаў, і нараджаецца да паэта давер.



Уладзімір Карызна па сутнасці не выдумляе свае вершы, хоць і мае багатую творчую фантазію, а як бы спісвае іх з натуры, толькі па-майстэрску ўзнаўляючы ўнутраны свет дзяцей, чуйна заўважаючы тое, што ў пэўнай сітуацыі можа з'явіцца ў іхніх думках. Адзін з самых характэрных прыкладаў таму – верш "Рукавічкі для сінічкі": "Звязала Насця // Для сінічкі // З пуховых нітак // Рукавічкі. // А як памераць іх — // Не знае: // Сінічка тая // Уцякае".

Калі ж чытаеш верш "Самая лепшая", няма ніякага сумнення ў тым, што ён "напісаны" самой дзяўчынкай, якая вельмі любіць сваю маму:

Весняй заранaчкай свеціць,
Лашчыць,
Як звон ручая,
Самая, самая лепшая ў свеце
Мама мая.

Па меры знаёмства з творам пачуццёвасць, настраёвасць яго ўзмацняюцца. Дзяўчынка знаходзіць усё новыя азначэнні таго, што значыць для яе самы дарагі на свеце чалавек: "Сонца парой залатою // Будзіць // У росных гаях, // Жаўранкаў просіць спяваць //Над Зямлёю…"; "З ёю весялейшыя песні, // Радасць мілей // Удвая!".

Аднак у кнізе змешчаны не толькі "сур'ёзныя" вершы, ёсць у ёй і гумарыстычныя, жартоўныя творы. Ёсць і лічылкі, а таксама небыліцы. Вершы, што адносяцца да апошняга жанру, калі яны дасціпныя, нязменна прыхільна сустракаюцца дзяцьмі. Несумненна, так успрымуць яны і гэтую небыліцу У. Карызны: "У вадзе расце капуста, // Рыба ў полі ходзіць густа. // Дрэвы ў клубе польку скачуць, // Аж са смеху мухі плачуць".

Арыгінальнымі атрымаліся і загадкі, у тым ліку і песенныя, аб'яднаныя назвай "Насця і Янка" (здаецца, нічога падобнага раней сустракаць не даводзілася). Што тычыцца казак, то ў зборніку прадстаўлены дзве разнавіднасці гэтага жанру: творы, у якіх, няхай і апасродкавана, прысутнічае фальклорная аснова, і казкі, што цалкам з'яўляюцца праяўленнем аўтарскай фантазіі. Але і ў першым выпадку У. Карызна, зразумела, па-свойму разгортвае сюжэт, таму гэта дае падставы і пра падобныя казкі сцвярджаць, што яны арыгінальныя.

Сімвалічна ўспрымаецца казка "Іграй, жалейка, не змаўкай…", якая завяршае кнігу. Яна — яшчэ адзін напамінак пра тое, што толькі аптымізм, жыццялюбства давалі сілы выжыць беларускаму народу на ветравейных скрзнняках часу, а гэтай барацьбе за выжыванне шмат дапамагалі народныя песні, мелодыі, увасабленнем якіх з'яўляецца жалейка. Пакуль яна будзе гучаць, датуль будзе жыць і Беларусь.

"Лепяць ластаўкі гняздзечкі" — для тых, хто па-сапраўднаму любіць роднае слова, неабыякавы да матчынай мовы, а да ўсяго разумее, што ў нашу ўжо не проста навукова-тэхнічную, а камп'ютарную эпоху, няма нічога лепшага, як сам-насам застацца з цікавай кнігай. У гэтым маленькія чытачы, безумоўна, упэўняцца, перагарнуўшы старонкі напісанага У. Карызнам, захапіўшыся цудоўнымі ілюстрацыямі Таццяна Беразенскай і Наталлі Каламейцавай. Дый мастацкае афармленне Аляксандрам Царовым выканана на высокім узроўні.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# У імкненні да ісціны



За 65 год падзеі Другой сусветнай вайны крыху забыліся, а замежныя і нашы лжэгісторыкі так сказілі і пераліцавалі іх, што школьніку ці студэнту стала няпроста разблытаць гэты клубок. А калі ў вышэйшых навучальных установах увялі спецкурс "Вялікая Айчынная вайна савецкага народа ў кантэксце Другой сусветнай вайны", стала зразумела, што беларускія гісторыкі зноў запатрабаваныя, што яны скажуць нешта новае і ўнясуць свае карэктывы. Так яно і адбылося.

Вось новая кніга — А. Каваленя, Б. Далгатовіч, Д. Хромчанка "З верай у Перамогу. Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне". Аўтары ўдала падабралі сто пытанняў, праз якія асвятляюцца, разглядаюцца па-новаму ці аспрэчваюцца важныя падзеі, факты, эпізоды Вялікай Айчыннай вайны на акупіраванай тэрыторыі рэспублікі. У кожнага з аўтараў знайшоўся свой багаж — свае знаходкі і гістарычныя працы, свае тэматычныя кірункі. Вядома ж, галоўным аб'ектам для ўсіх траіх быў чалавек, яго адданнасць радзіме, гераізм, талент абаронцы або яго здрадніцтва, слабасць, бездухоўнасць.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што аўтары ацэньваюць падзеі вялікай вайны не з пункта гледжання вульгарнай сучаснай палітычнай кан'юнктуры, а — навуковай метадалогіі, аб'ектыўна, улічваючы канкрэтныя гістарычныя ўмовы.

З хваляваннем і гонарам чытаем пра тых, хто паўтарыў подзвігі Мікалая Гастэла, Аляксандра Матросава, Аляксея Марэсьева. Уражвае і ваенны прафесіяналізм беларускіх палкаводцаў і камандзіраў. Двое з іх камандавалі франтамі (Ф. Кузняцоў, В. Сакалоўскі), арміямі, дывізіямі, палкамі. Мноства імён і фактаў упэўніваюць, што наш чалавек на вайне быў славуты сваім гераізмам і моцай сваёй думкі, навуковых адкрыццяў.

Змест кнігі, прызначанай "у якасці вучэбнага дапаможніка" выкладчыкам і студэнтам, з цягам часу, напэўна, будзе дапаўняцца ці скарачацца. Не пашкодзіла б, каб аўтары штосьці сказалі пра ўклад беларускіх вучоных, канструктараў, вынаходнікаў, якія стваралі сродкі абароны, чый творчы інтэлект працаваў на перамогу. Прыгадайце самалёт СУ-2, на якім здзяйсняліся подзвігі савецкіх лётчыкаў. Яго стваральнік Павел Сухі і разам з ім яшчэ двое беларусаў у 1943 годзе атрымаў Сталінскую прэмію. Мінчанін-акадэмік Уладзімір Міткевіч — за распрацоўку ў тэорыі электрамагнітнага поля, фізічных асноў электратэхнікі і перадачы электраэнергіі. І генерал-маёр медыцынскай службы з мястэчка Чарэя Міхаіл Файбіч — за вырашэнне важных надзённых пытанняў мікрабіялогіі і эпідэміялогіі. На год раней лаўрэатам стаў і палачанін Барыс Галёркін, які зрабіў неабходныя адкрыцці ў тэорыі пругкасці будаўнічай механікі. Іх інтэлект дапамагаў каваць перамогу.

Шкада таксама, што ў кнізе не згадваюцца беларускія пісьменнікі. А іх, хто да штыка прыраўняў пяро, было шмат, і іх роля на вайне была вялікай. Такія імёны, як М. Аўрамчык, П. Броўка, В. Быкаў, В. Вітка, А. Кулакоўскі, А. Куляшоў, М. Лынькоў, А. Махнач, П. Прыходзька, А. Савіцкі, М. Танк і шмат іншых, залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю змагання беларускага народа супраць германскіх захопнікаў. Янка Купала, успомнім, першым узняў свой голас: "Партызаны, партызаны, / Беларускія сыны!.."

Больш ста пісьменнікаў ваявалі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, працавалі на радыёстанцыі "Савецкая Беларусь" у Маскве, у падпольных партызанскіх газетах. Многія загінулі смерцю храбрых. І пасля Перамогі галоўнай тэмай нашых пісьменнікаў стала вайна, мужнасць і веліч духу беларускага чалавека-патрыёта. У 1949 годзе Іван Шамякін выдаў свой першы раман "Глыбокая плынь", у якім праўдзіва адлюстраваў жыццё беларускай вёскі ў гады нямецкай акупацыі, адважную дзейнасць партызан, ганебны твар здраднікаў і карнікаў, незвычайную складанасць барацьбы ў тыле ворага. За гэты твор 30-гадовы пісьменнік, былы франтавік-зенітчык, атрымаў Сталінскую прэмію і шырокую вядомасць.

Увогуле ж, тое, што зрабілі А. Каваленя, Б. Даўгатовіч, Д. Хромчанка, выклікае аптымізм і заслугоўвае ўдзячнасці. А тыя, хто імкнецца да ісціны, шануе дакладнасць гістарычных ведаў, даражыць інтарэсамі сваёй Радзімы так ці інакш вырашае найгалоўнейшае пытанне сучаснай гістарычнай навукі.

Эдуард КАРНІЛОВІЧ

# Шляхам згубы

Выйшла новая кніга прозы Барыса Бележэнкі "Затерянные путники", прысвечаная пошукам жыццёвых пуцявін, тым людзям, якія ўсё жыццё шукаюць і губляюць знойдзеныя шляхі, гоняцца часам за прывідным шчасцем, страчваюць сваю годнасць. Дый да чалавека добрай душы, да сапраўднага майстра адносіны з боку іншых людзей бываюць абыякавымі. Хіба няма такога ў жыцці, калі імя выдатнага майстра забываюць?

Структурна кніга "Затерянные путники" складаецца з аповесцей: "Поиски причала", "Зимние бесы", "Сказание о неприкаянной душе" і апавяданняў: "Два окна во мраке ночи", "Скрипач и горлинка" і "Колыбель над сугробами", хаця і ў азначаных аповесцях можна вылучыць нямала сюжэтаў, здольных быць асобнымі аповедамі.

Трэба адзначыць, што празаічныя творы, як і гумарэскі Б. Бележэнкі, атрымалі станоўчую ацэнку (прэмія імя У. Караткевіча, два дыпломы лаўрэата рэспубліканскага конкурсу ў намінацыях "Празаічныя творы" і "Сатыра і гумар"). У кнізе, пра якую вядзём гаворку, аўтару было не да гумару: ён з болем і заклапочанасцю піша пра гаротны лёс чалавека, які вінаваты ў гэтым сам, што пашаны не бывае без духоўнасці і працавітасці.

Імкненне да так званага "вольнага" жыцця часцей за ўсё прыводзіць да нікчэмных паводзін, а чалавек атрымлівае якую-небудзь ганебную мянушку. І тады, напрыклад, гучнае імя "Георгій" пераўтвараецца ў абразлівае "Плеш". Такі чалавек вандруе па жыцці сапраўды "без цара ў галаве". І як тут не ўспомніць словы мудрага філосафа старажытнасці Платона: "Няўжо чалавек падобны на камень? Для таго, каб яго запаліць, яго трэба ўдарыць".

І аўтар выводзіць у аповесці "Поиски причала" вобраз ідэальнага чалавека, называючы яго "Прышлым", нібыта прысланым да людзей звышнатуральнымі духоўнымі сіламі і ў той жа час ён — чалавек зямны і разумее людскія слабасці, хаця ён патрэбен для таго, каб слабыя духам людзі пад яго ўздзеяннем змаглі адрачыся ад бессэнсоўнага блукання па жыцці, каб не хадзілі ў дзверы, якія вядуць на руіны.

Здаюцца цікавымі і важнымі вобразы Чумазага і Ваські-Малатка. У іх сканцэнтравана канцэпцыя, так бы мовіць, сапраўдных людзей, майстроў сваёй справы і душэўнасці. Пасляваенны дзетдомавец Чумазы доўга блукаў па Русі, дакачаваўшы ажно да зямлі Комі. Там і набыў немудрагелістую прафесію пастуха. Але якім майстрам ён быў! Ведаў мову жывёлін, свістам супакойваў раз'юшаных быкоў. І меў цудоўнае сэрца. Вярнуўшыся на родную Беларусь, ён працягваў працаваць пастухом. Закаханы ў смяртэльна хворую дзяўчыну, наперакор усяму, ажаніўся з ёю. І пасля яе смерці не здрадзіў каханню.

Прываблівымі здаюцца нам вобразы Кацярыны і яе дачкі Волечкі, Любы — жонкі скрыпача, следчага Цімура Агранава — герояў апавяданняў і аповесці "Зимние бесы". На сапраўдных, мужных і добрых людзях трымаецца гэты свет. Да такой думкі падводзіць чытача аўтар "Затерянных путников".

Лілія ЯФРЭМАВА

# «Адвечныя пытанні» ці ўвага да сучаснасці?

Кніга Юрася Нератка "Закуцце" пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 2007 годзе. З тае пары мінула даволі часу, аднак гаворкі пра гэты зборнік апавяданняў у перыёдыцы чамусьці практычна не было. Тым не менш…




Дэбютны зборнік Юрася Нератка сведчыць, што за час захаплення літаратурнай творчасцю гэты аўтар здолеў шмат чаму навучыцца і шмат чаго дасягнуць. У першую чаргу трэба адзначыць здольнасць пісьменніка ствараць самыя разнастайныя вобразы — ад сучасных школьнікаў Мішкі Шпакоўскага і Антона Мутнага да сярэднявечнага алхіміка Балтазара-Белазора ці разведчыка Шарбітрона з далёкай планеты Арада. Ю. Нераток не заглыбляецца ў псіхалогію сваіх герояў, апісвае іх характары і перажыванні даволі лаканічна, але некалькіх трапных дэталей звычайна дастаткова, каб чытач уявіў персанаж і зацікавіўся ім. Так, у фантазіі "Дыверсія" Шпакоўскі-старэйшы, які "чамусьці заўсёды гатуе рыбны суп з кансерваў, калі прыходзіць на падпітку. І ніколі не есць тое, што маці прыгатавала на вячэру" застаецца для чытача не менш таямнічым, чым Вік Лонер з камп'ютарнай гульні.

Звышпільная ўвага да герояў, магчыма, не дазволіла б пісьменніку ствараць дынамічныя сюжэты, на якія Ю. Нераток таксама майстар. Сюжэты апавяданняў сапраўды захапляюць, прычым аўтар не перабольшвае з колькасцю і фантастычнасцю падзей. Крыху зацягнутай падаецца адно фантазія "Формула", якая не ўразіць арыгінальнасцю аматараў фантастыкі, а для іншых чытачоў будзе цікавай найперш іранічнымі характарыстыкамі 1970—1990 гг.: "Быў канец дзевяностага года мінулага тысячагоддзя… Тэлебачанне зачароўвала фінскімі тэхналогіямі, прыцягвала праграмай "Крок" і сеансамі масавых гіпнатычных лячэнняў, расчульвала першым серыялам пра танканосую рабыню Ізаўру, трошкі насцярожвала рэкламай гадзіннікаў "Алівеці" на праграме "Час".

У "Формуле" багата філасофскіх разваг, не новых для сучаснай беларускай літаратуры — і хаця па агульнапрынятай думцы "адвечныя пытанні ніколі не страцяць сваёй актуальнасці", кожны пісьменнік мае свой адмысловы талент. Хтосьці застаецца вядомым як пісьменнік-філосаф, хтосьці праз сваю неардынарнасць здзіўляе адметным стылем ці светабачаннем, а хтосьці ўражвае сучаснікаў здольнасцю заўважыць асноўныя тэндэнцыі эпохі, стварыць "героя свайго часу". Ю. Нераток якраз найбольш здольны да адлюстравання сучаснасці, выяўлення паталагічных сітуацый, якія сталі вынікам сацыяльных праблем пасляперабудовачнага грамадства.

Пісьменнік не стварае шырокіх панарам гарадскога ці вясковага жыцця, трагічныя здарэнні тычацца аднаго-двух чалавек, але пакідаюць чытача ў глыбокім роздуме. Шкада інжынера Міколу, што трапіў у вар'ятню хутчэй праз сваю адзіноту, чым праз членаў нямецкай партыі, шкада пяцідзесяцігадовага тэхнолага Моршына, які ў дзень юбілею мужна пракалоў сабе сэрца хлебным нажом… У апавяданні "Прашу разабрацца…" аўтар зазначае: "А як яму (Міколку) не быць уразлівым, калі з аднаго кута маці крычыць на бацьку "байструк дзетдомаўскі", а з другога бацька на маці — "парода кулацкая"? А ён стане між імі, каб не біліся, і слёзкі капаюць — абодва ж свае, родненькія!". У псіхапатычнай фантазіі "Юбілей" пісьменнік не падкрэслівае падставы складанага псіхалагічнага стану героя, але для чытача зразумела, што раўнівае стаўленне Моршына да дабрабыту свайго кіраўніка і яго маленькіх фінансавых злачынстваў невыпадковае. Менавіта праблемы постсавецкага грамадства вызначылі неўладкаванасць гэтых герояў.

Пры тым, што развіццё Ю. Нератка як пісьменніка будзе, верагодна, вызначацца яго пільнай увагай да сучаснага побыту, сённяшніх характараў, зменаў у ладзе жыцця і светабачанні беларусаў, большая частка фантазій у зборніку "Закуцце" прысвечана не толькі сацыяльнай тэме… З'яўленне і развіццё чалавецтва, яго ўзаемадзеянне з іншымі відамі жывых істот на планеце — вось галоўныя праблемы, якія цікавяць аўтара ў апавяданнях "Альгемоны", "Саранча", "Разведчык", "Формула".

У "Разведчыку" ініцыятарам развіцця чарговай — самаразбуральнай і самаўзнаўляльнай — чалавечай цывілізацыі робіцца жыхар Арады, выпраўлены на Зямлю з мэтай ацэнкі магчымасцей яе каланізацыі. У памяці чалавецтва Шарбітрон па іроніі лёсу застаецца сатаной; цікава, што людзі, з якімі кожныя два-тры стагоддзі сутыкаецца іншапланетнік, маюць настолькі падобныя характары, што разведчык увесь час блытае імёны. Але чаму людзі лічаць сябе дамінавальным відам? Яны рызыкуюць загінуць ад нашэсця саранчы (вельмі ўдалымі ў аднайменным апавяданні атрымаліся маналогі саранчы Астрыда і таполі Хімэль), яны пазбаўляюць права на існаванне разумных альгемонаў, што водзяцца ў каналізацыйных сістэмах (тут варта адзначыць цікавы вобраз сучаснага сантэхніка).

У апавяданні "Дыверсія" Ю. Нераток надзяляе свядомасцю героя камп'ютарнай гульні, дае яму магчымасць разважаць, адчуваць, аналізаваць свае ўчынкі. Адгадваючы падставы ўласнага з'яўлення і існавання, Вік Лонер прыходзіць да небяспечных высноў і ў выніку прапаноўвае свайму Творцу Мішку Шпакоўскаму кароткую і стратную для хлопца гульню. Задума ачалавечыць герояў камп'ютарнай стралялкі, бадай, прыходзіла ў галаву кожнаму больш-менш абазнанаму ў сучасных тэхналогіях пісьменніку. Ю. Нераток рэалізаваў гэту ідэю на належным мастацка-філасофскім узроўні: твор прымушае задумацца як над сэнсам камп'ютарных гульняў, так і над антрапалагічнымі пытаннямі.

Часам чытачу апавяданняў Ю. Нератка можа бракаваць вобразнасці, сэнсавай скандэнсаванасці, імкнення аўтара ўбачыць у прыватным выпадку штосьці сімвалічнае, тыповае, абагуленае. Аднак такое адчуванне пакідаюць толькі некаторыя творы пісьменніка: лепшым фантазіям Ю. Нератка ("Юбілей", "Разведчык", "Дыверсія") уласцівы глыбокі падтэкст, спалучэнне вобразнай і сэнсавай напоўненасці. Выдатны твор — апавяданне "Тыграняты" (калі скараціць яго на два апошнія абзацы), якое сваёй туманнасцю, няпэўнасцю, таямнічасцю нагадвае "Замак" Ф. Кафкі, апавяданні Э. А. По. Гэты тэкст можа выклікаць у чытача шмат разнастайных асацыяцый, і шкада, што нейкай побытавай, амаль банальнай канцоўкай пісьменнік развейвае містычны, напружаны настрой, створаны ў галоўнай частцы апавядання. На прыкладзе іншых (тых самых "лепшых") твораў адчуваецца, што Ю. Нераток умее недагаворваць і добра адчувае, дзе варта намякнуць, а дзе чытач зразумее і сам...

Няма куды падзецца ад стандартных сюжэтных схем ці паўтарэння агульнавядомых ісцін, але кожная эпоха мае свой антураж, жыццё змяняецца хутка… Сёння складана быць арыгінальным філосафам, але кожны праніклівы, назіральны пісьменнік здатны звярнуць увагу на актуальныя працэсы і з'явы ў сваім грамадстве. Таму варта думаць, што падчас працы над зборнікам Ю. Нераток зразумеў: каб вылучыцца і займець таго самага чытача, на якога мы ўвесь час спасылаемся, і які ў беларускамоўных пісьменнікаў апрыёры не шматлікі, трэба пісаць адметна, шукаць адметнае ў сабе альбо звонку — у навакольнай рэчаіснасці, якую можна трапна адлюстраваць і нават перастварыць на старонках мастацкага тэксту.

Здзіўляе, што ў часопісах апошніх трох гадоў, якія мінулі пасля выхаду першага празаічнага зборніка Ю. Нератка, не з'явілася ніводнага новага апавядання гэтага таленавітага аўтара. Адно ў "Маладосці" (№ 5, 2008) выйшла сапраўды добрая падборка яго сумнаватых вершаў, поўных меланхалічных заўваг творцы:

Што зроблена —
здаецца дробным,
А больш нічога не паспець...
Страты —
ні ў слодыч, ні ў горыч,
Стан — ні імпэт, ні знямога,
Нават і тыя, хто побач,
Не разумеюць нічога!

Варта думаць, між імпэтам і знямогай пісьменнік зрэшты абярэ першае: апрача некалькіх крытыкаў у Ю. Нератка гарантавана ёсць і іншыя чытачы, якія яго разумеюць…

Алеся ЛАПІЦКАЯ




# «…Залаты мой спрадвечны горад…»

Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" чарговы раз за год радуе нас цудоўным паэтычным фотаальбомам ці больш дакладна фотаілюстраваным зборнікам паэзіі ("ЛіМ" пісаў ужо пра першы фотаальбом "Непаўторныя імгненні" з вершамі Казіміра Камейшы). У кнізе "Я ад дрэва твайго…" вершы Навума Гальпяровіча (укладальнік Таццяна Жукоўская) цудадзейным чынам спалучаюцца з фотаздымкамі калектыву беларускіх фотамайстроў. Яны ствараюць адзіны твор, сучасную кнігу-летапіс горада Полацка, які сёлета аб'яўлены культурнай сталіцай краіны.

Для аўтара вершаў Полацк — "вялікая" радзіма. Тут пачаўся жыццёвы і творчы шлях Навума Гальпяровіча. "Полацк для яго — не толькі выток жыцця, калыска, крыніца натхнення, але і адпраўная станцыя на вялікім жыццёвым шляху да людзей", — піша ў прадмове да кнігі паэта пісьменнік Уладзімір Саламаха. Сімяон Полацкі, Прадслава, Францыск Скарына, Еўфрасіння Полацкая — гэта далёка не ўвесь спіс гістарычных асоб, якім прысвячае свае вершы Навум Гальпяровіч. Паэт адчувае адказнасць за сваю дзейнасць перад сваімі вялікімі продкамі. "Толькі прымроіцца ў прыцемку сінім / Позірк зямлячкі маёй, Еўфрасінні…".

Дарэчы, наконт дзейнасці: Навум Якаўлевіч не толькі паэт, але і слынны радыёжурналіст, публіцыст і эсэіст. Ён з'яўляецца галоўным дырэктарам радыёстанцыі "Беларусь" Беларускага радыё, а таксама вядучым і аўтарам шэрага радыёпраграм.

У адным з інтэрв'ю, якое Навум Якаўлевіч даваў з нагоды 80-гадовага юбілею Беларускага радыё, ён прызнаўся: "Мне падабаецца слова, якое гучыць, якое табой прамоўлена і звернута да людзей…".

Можа, таму вершы Навума Гальпяровіча вельмі мілагучныя, іх хочацца чытаць услых, а яшчэ лепш — чуць іх у яго ўласным выкананні. У іх дакладна выяўляецца вобраз аўтара, яго жыццёвая і грамадзянская пазіцыя. Лірычны герой твораў паэта — наш сучаснік, які любіць свой родны горад, сваю краіну, свой народ, чалавек, які памятае сваё мінулае, але ў той жа час адкрыты для ўсяго новага, а яшчэ, як сам аўтар называе сябе, вучань.

Я — вучань.
Я імкнуся разгадаць
Пергаменты нябёсаў,
кнігі жыццяў,
Валошкі сіняву ў паспелым жыце
І вусны, на якіх вякоў пячаць.

У гэтым вершы аўтар невыпадкова паўстае ў такім нязвыклым для сталага чалавека вобразе як вучань. Зрэшты, яму, як і кожнаму з нас, ёсць чаму вучыцца ў жыцці, у гістарычных асоб, у сучаснікаў, старэйшых пакаленняў, якія збераглі для нас дух народа, яго мову, культуру…

Герой верша — чалавек дасціпны, цікаўны, а самае галоўнае — неабыякавы да жыцця, рэчаіснасці. Для яго важна ўсё, што адбываецца ў грамадстве, як паводзяць сябе людзі, а самае галоўнае — ці правільна і справядліва да іншых ставіцца ён сам.

Мне так нялёгка,
я паспець хачу;
Звініць званок,
чуваць далёкі рокат…
І бачыцца,
што ў бездань я лячу,
І страшна,
што не вывучыў урока.

Вершы, сабраныя ў кнізе, даволі featuring розныя? 

Вершы, сабраныя ў кнізе, даволі разнапланавыя: тут і філасофская, і патрыятычная, і пейзажная, і нават інтымная лірыка. Да апошняга віду можна аднесці цудоўны, надзвычай шчыры і мілагучны верш, які "вучань" Навум Гальпяровіч прысвячае сваёй першай настаўніцы Т. Ф. Кананок.

Вучыла і песні, і вершы,
Не спала зусім давідна,
Бо ведала: ўрок гэты першы—
Пачатак вучобы для нас.

Ля школы суцішыцца крок:
Настаўніца любая, дзякуй
За той, для нас першы урок.

Калі гартаеш фотаальбом "Я ад дрэва твайго…", нібыта вандруеш разам з сябрам па горадзе Полацку. Паэт Навум Гальпяровіч, як своеасаблівы гід, паказвае табе Сафійскі сабор (І зноў над вежамі Сафійкі / Паваліць белы снег, / І пракладзе свой след ласіха, / Як сто гадоў раней); помнік Сімяону Полацкаму (Цені блукаюць у змрочных дварах, / Бруд і адчай, адзінота і голад… / Што ты там пішаш, маўклівы манах, / Што для Радзімы пратрубіць твой голас?); прыгажуню Дзвіну (Мокра. Ліст закружыўся асенні / над успененай жоўтай Дзвіной. / Нашых продкаў маўклівыя цені / ціха крочаць у нас за спіной). А вось школа, у якой вучыўся паэт (А часу імклівае кола / Імчыць па дарозе гадоў, / Ды толькі дзявятая школа / Прымроіцца некалі зноў).

Прыводзіць нас аўтар і да памятнага знака, які сведчыць пра тое, што Полацк з'яўляецца цэнтрам Еўропы (А тады нават мудры продак / І падумаць не мог ніяк, / Што паўстане ля плошчы просты / Гэтай велічы нашай знак).

Падчас прагулкі па Полацку паэт дае тлумачэнні некаторым паняццям, звяртае ўвагу на асобныя гістарычныя факты, робіць так званыя глосы, якія ўпершыню стаў выкарыстоўваць яго слаўны продак, палачанін Францыск Скарына.

Зрабіць вандраванне сапраўдным дапамагаюць фотаздымкі: яркія, жывыя, разнастайныя. Яны перадаюць веліч Полацка, яго прыгажосць і чысціню.

Пасля знаёмства з фотаальбомам пачынаеш разумець, чаму менавіта Полацк прызначаны першай культурнай сталіцай краіны. Бо гэты прыгожы, задумены горад, нібыта жывы, мае свой твар, свой адметны характар, сваю шматвяковую гісторыю. Вось і Навум Гальпяровіч піша: "Я ад дрэва твайго лісток, / Залаты мой спрадвечны горад…". Гэта значыць, аўтар — частка цябе, яшчэ адзін талент, народжаны табой, магутны горад Полацк.

Вольга НІКОЛЬСКАЯ





Уладзімір МАЗГО

## Вяртанне вялікага Анненскага кірмашу

Рэальнасць,
Прагнаўшы міраж,
На змену сумненням прыходзіць:
Вяртаецца ў Зэльву кірмаш
З далёкіх мінулых стагоддзяў.

З шыкоўнай карэты сышоў,
На плошчу спяшаецца пехам,
Каб лепшы адкрыць з кірмашоў,
Што Анненскім клічуць,
Сапега.

Дзябёлы,
Як бульбы капец,
Рахманы,
Як конь зацугляны,
Стаіць разамлелы купец
І строіць багатыя планы.

Гандляр, перагрэты,
Скрывіў
Ад спёкі асмяглыя губы —
Усмешкай саграэў краявід
У знак паспяховай рахубы.

Віруе кірмаш і гудзе.
Шчыруюць і людзі,
І коні...
Не ўчуеш такое
Нідзе,
Не ўбачыш такога
Ніколі.

Глыбока ўзараўшы пласты
Стагоддзяў,
Там конік з разбегу
У зэльвенскім скверы застыў,
Чакаючы князя Сапегу.

## Шведская гара ў Ваўкавыску

Відаць,
Бракуе ведаў,
Каб адшукаць сляды:
Няўжо гара ад шведаў
Патрапіла сюды?

Як пантэон герояў,
Што спяць адвечным сном,
Чужых і нашых вояў
Пад гэтым курганом...

Вятры ваўкамі выюць,
Шукаючы тут схоў,
І нешта Ваўкавыя
Шапоча між вякоў.

Падзей далёкіх сведка,
Як памяць ваяра,
Маўчыць
аб нечым Шведка —
Ці Шведская гара.

## Босая раніца

Да болю
Аб росы параніцца
На досвітку
Босая раніца.

Світае,
Як святая,
І срэбра слёз
Каўтае.

## «Млын моды»

Журбу перамеле
І радасць
"Млын моды" —
І зробіцца меней
Між нас антыподаў.

На подыум выйшлі
Красуні-мадэлі,
Што хмеляць,
Як вішні,
У звабліваі спелі.

Раз-пораз мяняюць
Адметныя строі,
Туман разганяюць
У светлым настроі.

Сучасныя моды
Падносяць яскрава.
Усплёск асалоды —
У воплесках:
— Брава!..

Нямала калекцый,
Як кажуць,
Ад Бога...
Не пойдзем улегцы —
Уражанняў многа.

* * *

На вуліцы музыку
У сціплы капялюш
Даруем,
Як пазыку,
Падзяку нашых душ.

Так радасна іграе
Ягоны саксафон,
Што сэрца паўтарае
Ўсе ноты наўздагон.

Гучаць апладысменты,
Нібыта вадаспад.
Гавораць кампліменты
Слухачкі неўпапад.

Іграй мацней,
Музыка!
Збірай цікаўны люд.
Няспынным ліўнем зыкаў
Змывай і сум,
І бруд.



Надзея ПАРЧУК

## ...Найлюбая радня

Зірнула сонца шчасцем,
Прастор заваражыў,
І расхінула насцеж
Свято маёй душы.

Вітаць я сонца рада
Сягоння і штодня:
Яно — мая спагада,
Найсветлая радня.

## Асуджаная

Недапісаны лісты —
На стале, на ложку,
І калі іх бачыш ты —
Папракаеш трошку.

Толькі як жа мне ў журбе
Без лістоты гэткай?!
Як не людзям, дык сабе
Стала я паэткай.

То ж лісты — мае сцягі —
Крылы за плячыма:
Не ўзлячу дзянёк-другі,
Трэці — немагчыма.

Мне без іх ужо — ніяк,
Хоць і локці ў дзірах,
Ці благі, ці добры знак,
Ды не выбар — вырак.

* * *

Жыццё — гэта шчасце.
Так лічаць усе,
І я гэты вырак аспрэчваць не буду,
Хаця і ніколі аб тым не забуду,
Што шчасце
даецца не ўсім па чарзе.

Да званых дык госцяй яно зазірне,
Да выбраных зойдзе,
бадай што, надоўга.
А вось ля майго пастаяла парога
І прэч адышло, усміхнуўшыся мне...

## Словы падзякі Аляксею Капацкевічу

Твой лёс не з лёгкіх, што й казаць.
Ды хто ж хацеў бы гэткага?!
А ты ўмудрыўся напісаць
Пра водар сонца светлага.

А ты прыгожа распавёў
Пра кветку ў небе з промнямі,
Пра весні сад, пра салаўёў
І пра блакіт над гонямі.

А ты цудоўна праспяваў
Пра дожджык па-над плёсамі,
Як сонны ветах спачываў
Між маладымі соснамі.

Дык дзякуй шчырае табе
За сэрца ў вершы кожнаму,
За твой прачулены напеў,
За оды сонцу Божаму!



Аляксей ГАЛАСКОК

## Берасцейская зямля

Сярод дзіўных азёр і рачулак,
Дзе бары узняліся з камля,
Нас сагрэла, дала нам прытулак,
Берасцейская наша зямля.
У якіх мы краях ні бываем,
Быццам птушкі, дамоў апасля
Да цябе мы назад прылятаем,
Берасцейская наша зямля.
Усё наша тут: нівы і межы,
Звон царкоўны, што кліча здаля,
Старажытныя белыя вежы, —
Тут радзіма, тут наша зямля.
Нам ніколі на ёй не згубіцца,
Продкаў нашых відна каляя.
Як яны, будзем мы ганарыцца
Нашай маці — табою, зямля!
Тым нам люба да самае смерці
Кожнай кветкай, лісточкам змала.
За цябе я аддам сваё сэрца,
Берасцейская наша зямля.

## Палешукі

Край палескі дзіўны, гожы,
Не зліччыць твае вякі.
Тут жыве народ прыгожы,
Мы з табой — палешукі.
Нам у працы няма роўні,
Не жывём бы лайдакі.
На вяселлі п'ём па поўнай,
Мы з табой — палешукі.
Мы на свята добра граем
Ладзяць бубен і смыкі.
Песняй край свой услаўляем,
Мы з табой — палешукі.
У Расіі з Украінай
Нас чакаюць земляні,
Сваякоў з іх палавіна,
Мы з табой — палешукі.
Шчыра ў госці запрашаем,
Падаём ручнік з рукі,
З чыстым сэрцам сустракаем,
Мы з табой — палешукі.

## Лес

Калі сэрца баліць, калі сумна,
Не прашу я спагады ў людзей.
Я за вёску іду: там, за гумнамі,
Лес чакае мяне, чарадзей.

Ён, гаючы, не здрадзіць ніколі,
Яму можна паведаць усё:
Пра сваю неспакойную долю.
Пра журботнае наша жыццё.

Хоць ён корміць усіх, саграве,
Ўсё, што мае, гатовы аддаць,
А не кожны яго паважае,
Бо імкнецца адно толькі ўзяць.

Прашчур наш сухастой вёз на дровы,
Мох з лісічкамі разам не драў.
Пруцік гібкі, на кошык лазовы,
Браў у рукі, а потым зразаў.

На скрыпучых вазах абмінаў
Той мурашнік і нават мурог, —
Берaглі для дзяцей, шкадавалі,
Не было ў лесе роўных дарог.

Мая бабка малітву шаптала
Перад тым, як заходзіла ў лес,
Прымушала і нас, і казала:
"Каб лясун да вас, дзеткі, не лез".

З лесу крочу я ў вёску, да гумнаў,
Ачуняў, стала сэрцу лягчэй.
Адзінока без лесу мне, сумна,
А вяртаюся зноў да людзей.

* * *

Дробны дождж. Цішыня і гаркота.
Жаль у сэрцы, яшчэ не глухім.
Падзялілі з табой адзіноту,
Толькі боль застаецца сваім.
Вецер сціх. На галінах сініцы.
Па пакоі блукае спакой.
На бярозах няма завушніцаў —
Рэшта іх абляцела зімой.
Дождж сячэ. Пашыраюцца лужы,
Воўнай белай туман над зямлёй
Свет шырокі чамусьці завужан,
І цябе няма побач са мной.
Не вярнуць нам ні дні, ні хвіліны,
Кажуць, рэкі назад не цякуць.
Як ні грэюць мяне успаміны,
Жар у сэрцы ніяк не раздзьмуць.
Шэры дзень. Сівы голуб за шыбай.
Хмары ў небе плывуць за акном.
Я жывы. І лічу, што шчаслівы,
Покуль разам з табою жывём.

* * *

Не шкадуюць мяне мае вершы,
Не даюць мне спакойна заснуць.
Вострым болем праходзяць праз сэрца,
У палон маю душу бяруць.
Каб паставіць ў радок побач словы,
Колькі трэба мне іх перабраць?!
Бо павінна матуліна мова
Па-сапраўднаму шчыра гучаць.
Не магу сваё сэрца прымусіць
Успрымаць, што навокал, працей,
Бо належыць яно Беларусі,
Яна маці ўсіх нас, дзяцей.
Сярод іх — не апошні, не першы —
Пасівелы ад думак стаю,
Ўсё турбуюць мяне мае вершы,
Я сумую па іх і пяю.



Фота Кастуся Дробава

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

1 кастрычніка 2010 г.

Выпуск 16

# Букіністычная крама: рэтра ці мадэрн?

Навошта існуюць букіністычныя крамы? Хто карыстаецца іх паслугамі? Класічных сітуацый, якія ілюструюць дзеянне механізмаў попыту і прапановы, некалькі. Кніга можа стаць непатрэбнай свайму гаспадару. Ён можа памыліцца ў выбары, памылкова набыць другі асобнік, або проста жадае вызваліць месца для навінак. Што тады рабіць з асобнікамі? Выкінуць на сметніцу — рука не падымаецца. Аддаваць у школьную або мясцовую бібліятэку? Выхад найбольш удалы, але калі хочацца атрымаць хаця б мінімальныя грошы, без букіністыкі не абысціся.

## Уваходжанне ў букіністычны свет

Беларускае кнігавыданне пакрысе, але няўхільна трапляе пад уздзеянне рынку. Між тым сфера букіністыкі збольшага развіваецца па старых законах. Букіністычны свет можна падзяліць на некалькі сектараў. Першы складаюць дзяржаўныя кнігарні. Акрамя іх існуе прыватны (букіністычныя "кропкі" на рынках) і віртуальны сектар (букіністычныя інтэрнэт-сайты і нават адпаведная інтэрнэт-крама). Тым не менш пакуль самым значным з'яўляецца дзяржаўны сектар, які, прынамсі, у Мінску прадстаўляюць кнігарні "Веды", "Вянок" і "Букініст".

Галоўны козыр "Ведаў" — іх пляцоўка. Раней, да рамонту букіністычны аддзел займаў вельмі малую прастору, з-за чаго асобныя выданні размяшчаліся ў два шэрагі. Зараз жа аддзел прадстаўляе ўсю прадукцыю і дзякуючы гэтаму прапаноўвае вялікі асартымент літаратуры. Там можна знайсці абсалютна ўсё: ад "класікаў" ленінізму да пісьменнікаў авангарда. Кнігарня "Веды" стала адзінай сярод буйных мінскіх кнігарняў, якая здагадалася стварыць у сябе спецыяльны букіністычны аддзел. Несумненна, такі ход дапамог як у пашырэнні папулярнасці крамы, так і ў павелічэнні аб'ёму продажаў асноўных аддзелаў.

Назва кнігарні "Вянок" нездарма паўтарае найменне адзінага прыжыццёвага зборніка Максіма Багдановіча. Траецкае прадмесце і бераг Свіслачы ствараюць настрой задуменнасці і рамантычнасці. Крама мае вельмі прыемны антураж, сюды асобныя мінчане нават прыводзяць на экскурсію сваіх сяброў. Тым больш, што "Вянок" пазіцыянуе сябе як пайнаварытасную букіністычную краму. Істотным плюсам крамы з'яўляецца спакойная атмасфера. У аддзеле на вуліцы К.Маркса адначасова можа знаходзіцца з дзясятак чалавек. У "Вянку", здаецца, ніштто не перашкаджае выбару ўпадабанай кнігі. Абедзве згаданыя кнігарні спецыялізуюцца на мастацкай літаратуры, кнігах і альбомах па мастацтве, зборах твораў.

"Букініст", які складаецца з двух аддзелаў, з'яўляецца фірменнай крамай Мінскай фабрыкі каляровага друку. Асноўны букіністычны аддзел мае асобны ўваход, але з'яўляецца такім маленькім, што вы-бар істотна абмежаваны. Беларускія выданні наогул займаюць адну паліцу. Каб трапіць да стэлажа, часам трэба чакаць некалькі хвілін: прагледзець яго адначасова двум наведвальнікам немагчыма. А вось у двух асноўных прасторных памяшканнях прадаюцца новыя выданні. З букіністыкі там прадстаўлены толькі зборы твораў. Думаецца, што крама цалкам яшчэ не рэалізавала свой патэнцыял.

## Правілы гульні

Працэс здачы кніг досыць складаны і вельмі расцягнуты па часе. Умовы ўсіх кнігарняў прыкладна аднолькавыя. Таму разбярэм іх на прыкладзе "Ведаў".

Для таго, каб трапіць на паліцы, букіністычныя выданні павінны быць ацэнены таваразнаўцам. Канчатковы кошт можа залежаць ад шэрага абставін і часам не паддаецца логіцы. Напрыклад, зборнікі паэзіі Максіма Багдановіча і Ларысы Геніюш з серыі "Беларуская паэзія XX стагоддзя" каштуюць ў "Ведах" па 25 тысяч рублёў. Кніга Петруся Броўкі — толькі 5 тысяч. Серыя і афармленне падобныя, стан выдання таксама. Няўжо таваразнаўцы вырашылі падкрэсліць, на свой погляд, розніцу ў маштабе творцаў? Але вось іншы прыклад. Збор твораў Льва Талстога ў "Вянку" ацэньваецца ў 45 тысяч рублёў, а вось Уладзіміра Караткевіча — ажно ў 130 тысяч! Прыкладна столькі ж каштуе ў "Ведах" шыкоўны альбом Анры Маціса — 125 тысяч. У "Букінісце" збор твораў З.Бядулі можна набыць за 15, Броўкі — за 20 тысяч рублёў. А вось замежнікі ацэньваюцца вышэй – Бальзак у 100 тысяч, Стэндаль — у 75. Пры гэтым шэраг кніг можна набыць амаль бясплатна: па 5—6 тысяч, а вось альбомы ацэньваюцца да некалькіх соцень тысяч беларускіх рублёў.

Уладальнік кніг можа прынесці на экспертызу адначасова не больш як 24 асобнікі. Гэта працэдура адбываецца толькі ў пэўныя дні, таму зранку на прыступках крамаў утвараецца чарга людзей са спартыўнымі сумкамі з кнігамі. Дарэчы, дасведчаныя букіністы рэкамендуюць прынесці спіс загадзя.

На паліцы трапляюць далёка не ўсе выданні. Таваразнаўцы могуць адхіляць тыя, якія ўжо маюцца ў асартыменце крамы, не карыстаюцца попытам, маюць






дрэнны выгляд (асабліва, калі адсутнічае вокладка) ці з бібліятэчным штампам або выдадзеныя ў бягучым годзе. Апошняя акалічнасць мае істотнае значэнне. З нadыходам новага года ў кнігарнях дзіўным чынам павялічваецца колькасць выданняў папярэдняга. Ці то чытачы масава расчароўваюцца ў набытых навінках, ці то аўтары прыносяць на продаж свае творы ў спадзяваванні знайсці шлях да чытача.

Кнігі, якія прайшлі экспертызу, прымаюцца на паліцы на пэўны тэрмін (у "Ведах" — на два месяцы). Калі праз месяц кніга не прададзена, са згоды яе ўладальніка (па афіцыйных дакументах — камітэнта) адбываецца пераацэнка ў бок змяншэння кошту. Калі яшчэ праз месяц выданне не знаходзіць гаспадара, яно вяртаецца дадому. У выпадку адмовы забіраць непатрэбную кнігу, яна захоўваецца ў краме яшчэ чатыры месяцы, пасля чаго правы на яе пераходзяць да кнігарні.

І толькі пасля продажу выдання яе былы гаспадар можа разлічваць на атрыманне грошай. Але калі ўлічыць тыя абставіны, што пэўную суму (звычайна 30 працэнтаў) забірае сама крама, а кошты ў шэрагу выпадкаў вельмі нізкія, застаецца здагадвацца, колькі грошай рэальна можна атрымаць за продаж кніг. І галоўнае, ці акупаюць яны страчаны час?

## Quo vadis, букіністыка?

Справа ў букіністычнай сферы сапраўды нагадвае сітуацыю савецкіх часоў. Але прызнаемся шчыра: ці існуюць перспектывы яе пераходу ў рынкавую сферу? Для выдаўцоў эфектыўней перавыдаць папулярную ў чытачоў кнігу, прыгожа яе аформіць і атрымаць прыбытак, чым перапрадаваць старыя выданні. Багатыя кнігалюбы арыентуюцца на шыкоўна аформленыя навінкі. Больш-менш заможныя чытачы шукаюць залатую сярэдзіну і набываюць кнігі на кірмашах, дзе і выданне новае, і кошт прыстойны.

Таму для букіністычных крамаў застаецца ўстойлівая катэгорыя насельніцтва, якая перыядычна змяняецца, але колькасна застаецца на нязменным узроўні: студэнты, выкладчыкі, пенсіянеры, якіх прывабліваe ў гэтай сферы кошт выданняў, калекцыянеры рэдкіх кніг, што ўжо не перавыдаюцца, тыя чытачы, якім раптам спатрэбілася пэўная кніга. І нарэшце, проста аматары, для якіх патрымаць кнігу ў сваіх руках, пагартаць яе старонкі, зачытацца ўпадабаным сюжэтам і забыцца пра ўсё на свеце — сапраўдная асалода. А паколькі такія людзі сустракаюцца ў кожным грамадстве, то букіністычным крамам, пэўна, забяспечана доўгае існаванне ў сваім ранейшым стане.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Фота Кастуся Дробава

## Прафесійны клопат



Якія думкі саміх прадаўцоў наконт букіністыкі? Якім кнігам яны аддаюць перавагу? Ці маюць крамы сваіх пастаянных пакупнікоў? За які час можна прадаць кнігу, здадзеную ў букіністычны аддзел? За кампетэнтным каментарыем мы звярнуліся да дырэктара кнігарні "Букініст" Вольгі РАМАНАВАЙ:

— Наша кнігарня прапануе пакупнікам літаратуру розных кірункаў: спецыяльную, мастацкую, гістарычную, тэхнічную літаратуру, альбомы па мастацтве, кнігі на замежных мовах (асабліва англійскай і нямецкай). Нядаўна набылі каштоўную бібліятэку па філасофіі. Асаблівым попытам карыстаюцца дапаможнікі па негуманітарных дысцыплінах. Яны неаднаразова перавыдаюцца з асобнікаў 1960 — 1980-х гадоў, але каштуюць у 5 — 10 разоў даражэй. А вось літаратура па тэхніцы, па праграміраванні хутка становіцца састарэлай з-за імклівага развіцця гэтых галін ведаў.

Тавараабарот нашай кнігарні складае ў дзень 1,5 — 2 млн. рублёў. Менавіта на такую суму мы набываем у пакупнікоў кнігі і прадаём іх. Зразумела, назіраецца нязначны працэнт вяртання. Але ў нас працуе таваразнаўца са стажам, якая добра арыентуецца ў кніжным рынку. Наогул, калі выбраць патрэбную кнігу, якая карыстаецца попытам у насельніцтва, і правільна паставіць кошт, яе можна прадаць літаральна за тыдзень. Магчыма, таму ў "Букініст" гадамі ходзяць кнігалюбы, іх мы ўжо ведаем у твар.

Занатаваў Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

На здымку: дырэктар кнігарні "Букініст" Вольга Раманава.

Фота Кастуся Дробава

## Погляд

# Ад кнігарні — да аддзела

Букіністыка як асобны культурны феномен яшчэ існуе, мае сваіх прыхільнікаў — аматараў-калекцыянераў, кнігалюбаў, а часам і проста выпадковых наведвальнікаў. У той жа час знікае феномен асобнай букіністычнай крамы, яна драбнее да памеру аддзела ў кнігарні ўніверсальнай. Прычына таму — эканамічна. Так, па словах намесніка дырэктара ААТ "Брэсткніга" Святланы Худзіцкай, букіністычныя аддзелы існуюць у чатырох крамах Брэста і ў кнігарнях Баранавіч і Пінска. Людзі завітваюць у іх па розных прычынах: камусьці новая кніга не па кішэні, хтосьці шукае літаратуру, якая сёння ўжо не выдаецца, часта класіку купляюць школьнікі ці проста выпадковыя наведвальнікі. З аднаго боку, кнігі запатрабаваны чытачамі, але асобную краму для іх зрабіць эканамічна неперспектыўна. Прадукцыя сама па сабе танная і вялікага прыбытку не прынясе. Кнігі ж попытам карыстаюцца, таму аддзел у кнігарні — лепшы варыянт для букіністыкі.

А можа, гэта і сапраўды так, кантрасты паміж новымі кнігамі адчуваюцца, ды і дух (і пах) старых кніг у правільна абсталяваным аддзеле захоўваецца. А можа, чытачы лічаць інакш? Які лёс і будучыня букіністыкі? Стане яна толькі дарагім хобі, экзотыкай ці канчаткова перамесціцца толькі на аўкцыёны? Запрашаем да размовы на гэтую тэму.

Марына ВЕСЯЛУХА

Новое имя




# О любви без «клубнички»

## «Облики любви» Дианы Гришукевич: по-новому, искренне и правдиво, о жизни и любви современных подростков

Даже тот читатель, который не знает хрестоматийного пушкинского "Здравствуй, племя молодое, незнакомое" (хотя трудно поверить, что найдутся такие), при чтении книги прозы Дианы Гришукевич "Облики любви", которая вышла в издательстве "Мастацкая літаратура" скорее всего воскликнет нечто подобное. Именно на такое, а не иное восприятие сборника рассказов и повести "Отражение" толкает уже то, что автор его не просто молод, а даже слишком молод: Диане исполнилось только двадцать лет, она студентка факультета международных отношений Белорусского государственного университета.

Однако по мере знакомства с книгой восхищение усиливается. Быстро убеждаешься, что перед тобой не просто юный дебютант, делающий свои первые, в чём-то… Нет, всё-таки не робкие, а осторожные шаги в литературе. Перед тобой уже прозаик, который, несмотря на свой совсем юный возраст, сумел как найти для себя наиболее привлекательные темы, так и обрести своих персонажей, определить собственное отношение к окружающей его (да и всех нас) жизни.

Некоторая же осторожность объясняется тем, что Д. Гришукевич, в чем убеждает её книга, — из тех, кто, взявшись за перо, хорошо понимает ту большую ответственность, которая ложится на писателя, если он с самого начала творческого пути хочет быть самим собой. В таком случае, может, быть, даже непроизвольно, срабатывает правило "не навреди". Самому себе не навреди. В том смысле, что не так и трудно пойти лёгким путем. Куда труднее самоутвердиться. Талант не позволяет Д. Гришукевич спешить, а что она человек талантливый, хорошо видно по её произведениям, объединенным под одной обложкой.

Все они — и рассказы, и повесть, что также примечательно, составляют собой именно книгу. Однако не только потому, что между ними присутствует внутренняя связь, отсюда как бы появление неких сквозных мотивов. О сборнике "Облики любви" можно (и следует) говорить как о книге и по другой причине. Это книга жизни того поколения, к которому принадлежит сама Д. Гришукевич.

Им, нынешним девчонкам и мальчишкам, хотя, видимо, правильнее сказать девушкам и юношам, о которых рассказывает она, — в пределах тех же двадцати лет. Кому немногим больше, кому меньше, но дело не в этом, а в том, что они и в самом деле — "племя молодое, незнакомое" для нас — пап-мам, дедушек-бабушек. Да, и в чём я ещё больше убедился, познакомившись с книгой "Облики любви", для некоторых современных писателей, которые с каким-то агрессивным наступлением начинают писать об "этом" или около "этого". Когда же плоды их творчества не попадают в печать, готовы обвинять сотрудников редакций в незнании жизни, поведения и интересов современных школьников, которые, если верить таким писателям, только тем и занимаются, что…

Конечно, книге Д. Гришукевич далеко до известной повести Рувима Фраермана "Дикая собака Динго". Как и до нашумевшего фильма конца 1950-х — начала 1960-х годов "А если это любовь", о которых, будем смотреть правде в глаза, сегодня, за редким исключением, вряд ли и слышали. Имею, однако, в виду не художественные качества, а то, как рассказывалось и в той повести, и в том фильме о любви подростков, и как это делает Д. Гришукевич. Как говорится, новое время — новые песни. Любовные песни в первую очередь. И не только в прямом смысле, а и имея в виду сюжеты произведений, составивших книгу "Облики любви".

Герои Д. Гришукевич современны. Если бы даже кому-либо захотелось, "паинькам" их ни в коем случае не назовёшь. Иногда девчонок даже в большей степени, чем мальчишек. Все же, не будем забывать, юная писательница, как это видно, тех, с кем была знакома, кого знала, делает прототипами своих персонажей. Но читаешь "Облики любви" и радуешься тому, насколько автору книги удается сохранить чувство меры.

Диана Гришукевич умеет передавать искренне и правдиво даже то, в чём некоторые дяди-писатели (от них не отстают и тёти-писательницы) готовы искать только "клубничку", а незнание жизни современных подростков пытаются компенсировать неудержимой фантазией, за которой, не посчитайте это грубым, видится обычное нездоровое смакование подробностей.

А вот то, о чём пишет Д. Гришукевич, это своего рода исповедь о жизни (следовательно, и о любви) своих одногодков. При этом исповедь искренняя. Эта искренность усиливается благодаря тому, что излюбленный приём писательницы — повествование от первого лица. Безусловно, "Я" героя в каждом конкретном случае нельзя отождествлять с самим автором. Да и не нужно даже предпринимать такую попытку. Но, тем не менее, присутствие личного начала в произведениях хорошо срабатывает в тех случаях, когда нужно как можно лучше проникнуть во внутренний мир того или иного персонажа, подсмотрев даже то, что находится у него глубоко в душе. Это касается как рассказов, представляющих собой как бы слепки (в хорошем смысле) с натуры, так и тех произведений, в которых богатая творческая фантазия приводит к появлению неординарных ситуаций.

В частности, рассказ "Последний день любви", открывающий книгу, радует авторским умением поочередно посмотреть на разрыв во взаимоотношениях молодых людей с позиции Её и Его. "На счёт три: раз, два…" — это нечто такое, во что трудно поверить, но оно как раз такое, что может встречаться в нашем сумрачно-противоречивом мире. В "Качелях" же опять-таки ситуации, близкая к реальности, хотя и, не сказать, чтобы она была из ряда ординарных: у девушки из богатой семьи погибают родители и она вынуждена начинать новую жизнь.

Да и в "Осколках души" материал, положенный в основу рассказа, срабатывает благодаря тому, что всё, о чём повествуется, автором не просто "прокручивается", а внутренне переживается, в результате чего "я-героиня" и сама рассказчица воспринимаются одним и тем же лицом. Это ведёт к тому, что правда жизненная и правда художественная приближаются друг к другу, составляя общую доминанту.

Конечно, в отдельных случаях, хотя бы в том же рассказе «Качели», требуется более глубокое проникновение в характер отдельных персонажей. К примеру, объяснения того, как дядя Вова отважился убить родителей "я-героини". Конечно, им двигала зависть, стремление обогатиться. Но это лишь свидетельство факта, а только его для полноценного художественного произведения мало.

Отрадно и то, что Д. Гришукевич уже в начале творческого пути стремится обживать не только "малый" прозаический жанр, которым, как известно, является рассказ. Во всяком случае, повесть "Отражение", хотя и не сказать, чтобы была написана на одном уровне, лишний раз свидетельствует в пользу того, что автор "Обликов любви" — писатель перспективный. В пользу повести говорит и то, что в этом произведении динамичен сюжет, да и ситуация, положенная в основу, позволяет Д. Гришукевич "удержать" читателя в поле своего притяжения, что сегодня, когда интерес к литературе, согласитесь, ослабевает, немаловажно. Но важно и то, что острота сюжетных поворотов идет не в ущерб художественности.

И так, остается подождать вторую книгу Д. Гришукевич, ибо, как свидетельствует литературная практика, она, эта вторая книга, как раз обычно и даёт ответ на вопрос, состоялся ли молодой автор как писатель. Я уверен, что ответ этот будет только положительный. По крайней мере, творческий фундамент, каким является сборник рассказов и повести "Облики любви", Д. Гришукевич заложен основательный. Да и её публикации в журналах "Российский колокол" (Москва), "Дон" (Ростов-на-Дону), "День и ночь" (Красноярск), "Новая Немига литературная" говорят сами за себя.

Алесь МАРТИНОВИЧ

# Восхождение на французский Парнас




Русская писательница Светлана Замлелова, автор романа "Блудные дети", нескольких повестей, ряда рассказов, интересных рецензий и чрезмерно эмоциональной, временами поверхностной публицистики, выступила в качестве переводчицы. В издательстве "Художественная литература" вышла её книга "Французские лирики XIX века в переводах Светланы Замлеловой".

Что привлекло автора к французской поэзии того времени? Пожалуй, уникальность её феномена. Традиционно расцвету в определённом жанре или направлении предшествует скрытый период роста и накопления творческого потенциала. Между тем французская литература до XIX века крайне непочтительно обходилась с поэзией. Как проницательно заметил литературовед Станислав Джимбинов, после Франсуа Вийона, великого поэта французского Средневековья, творившего в XV веке, и знаменитой "Плеяды" во главе с Пьером де Ронсаром (XVI век), на две-сти с лишним лет наступает странная пустота. XVII и XVIII века, подарившие миру, соответственно, драматургов Расина, Корнеля и Мольера, а также целую плеяду идеологов Просвещения, чрезвычайно бедны на поэтические открытия. Недаром лучшим поэтом Франции того времени долгое время считался Вольтер. И вот совершенно неожиданно, опираясь в лучшем случае на единственного лирического поэта XVIII века Андре Шенье, французская поэзия заявила о себе всему миру.

Светлана Замлелова выбрала для сборника достаточно необычный карманный формат, позволяющий книге вместиться в дамской сумочке или кармане пиджака. Переводчик объяснила свой подход тем, что "в наше суетное время у карманного издания гораздо больше шансов быть прочитанным, нежели у фолианта, под которым прогибается полка и чья тяжесть не позволяет читать на ходу (…)".

Переводчик выбрала для издания семь французских поэтов, "чьи имена возвышаются над поэтическим пространством Франции, как семь холмов Рима над стогнами Вечного города". Ведь "подобно тому, как по плодам лишь с нескольких деревьев пространного сада можно судить о саде вообще, так, прикоснувшись к творчеству поэтов, каждый из которых как веха на пути развития французской словесности, можно ощутить нерв одной из великих литератур (…)".

На страницах сборника представлены патриарх французской поэзии Виктор Гюго; представитель романтизма Альфред де Мюссе; парнасец Шарль Леконт де Лиль; Шарль Бодлер, опередивший время и выразивший черты декаданса, характерного для рубежа XIX — XX веков; "проклятый поэт" Тристан Корбьер; символисты Поль Верлен и Альбер Самен. Пожалуй, в продолжение явно напрашивается кандидатура Артюра Рембо, безусловно затмившего некоторых из представленных авторов. Но это уже дело вкуса переводчика и составителя.

Структура книги удовлетворит самого взыскательного читателя. Предисловие Светланы Замлеловой, в котором объясняются принципы отбора материала для издания и даётся краткая характеристика представленных в нём поэтов. Жизнь и творчество каждого из них представлено портретом, биографией, а также собственно стихами: на языке оригинала (французском) и в переводе на русский язык.

Удивительное чувство оставляет после себя этот сборник. XIX век останется в истории Франции временем революций и восстаний, периодом провозглашения республик и империй, временем Наполеона, Бурбонов, деятелей Парижской коммуны. Но звуки сражений, битв и баррикад лишь отдалённым эхом доносятся со страниц книги. Здесь царят поэзия и гармония, ведь и классики, и "проклятые поэты", в конце концов, взошли на Парнас.

Денис МАРТИНОВИЧ

Час чытаць

# Спачатку было кіно



Беларусы расказваюць пра свае чытацкія густы.

Анатоль Красінскі, галоўны навуковы супрацоўнік аддзела экранных мастацтваў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, адзін з пачынальнікаў беларускага кіназнаўства:

— Калі я вучыўся ў трэцім класе, мы жылі ў Расонах. Часта хадзілі ў кіно, глядзелі такія вядомыя стужкі, як "Трактарысты", "Ленін у 1918". Спачатку быў фільм, які перавярнуў жыццё, — пра Чапаева. Пасля яго цікава было прачытаць кнігу Дзмітрыя Фурманава і параўнаць, што ў кнізе і фільме не супадае. Фільм і кніга адыгралі значную ролю, калі пазней вылбіраў, куды пайсці вучыцца, чаму прысвяціць жыццё.

Чытаю сёння Міхаіла Салтыкова-Шчадрына і са здзіўленнем праводжу паралелі з сучасным жыццём – сустракаецца шмат падобнага. Перачытваю Івана Буніна. Знайшоў у яго ўспаміны аб сустрэчы з паэтам з вёскі Клеейка (у тагачаснай Віцебскай губерні) і захапленне тамтэйшымі жыхарамі, людзьмі, вельмі не падобнымі да расіян па побыце, звычаях. Магчыма, Буніну трапілася беларуская вёска. З дапамогай этнографаў хачу адшукаць гэтую вёску, на сённяшніх геаграфічных картах яе няма.

Кніга, якую я прачытаў апошняй, — біяграфічная кніга рэжысёра Уладзіміра Святлова "В лабиринтах жизни".

Запісала Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Пад гербам Мінска і сцягам маладосці

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі ў хуткім часе распачынае работу па падрыхтоўцы і выпуску дзвюх новых літаратурных серый: "Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі" і "Мінскія маладыя галасы". Пра адметнасці гэтых кніжных серый, задумкі і планы па іх стварэнні, развіцці і распаўсюджванні — наша гутарка з сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшынёй Мінскага гарадского аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым.**

— Міхаіл Паўлавіч, ці даўно з'явілася ідэя выпуску падобных серый кніг?

— Мінскае гарадское аддзяленне СПБ прымае актыўны ўдзел у грамадскім, творчым, літаратурным жыцці горада, супрацоўнічае з упраўленнем культуры, упраўленнем ідэалагічнай работы, Камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама. Пытанні аб падтрымцы выдання гэтых кніжных серый ставіліся перад уладамі горада дастаткова даўно, і вось нарэшце яны прыйшлі да станоўчага вырашэння. Фінансаванне гэтай серыі будзе часткова ажыццяўляцца Мінгарвыканкамам праз упраўленне культуры горада. Ужо створаны рэдакцыйныя савет, у які акрамя мяне ўвайшлі вядомыя паэты, празаікі, публіцысты, крытыкі, драматургі: Мікалай Чаргінец, Уладзімір Гніламёдаў, Уладзімір Карызна, Генадзь Пашкоў, Георгій Марчук, Міхась Башлакоў, Павел Саковіч і Наталля Касцючэнка.

— Калі ўжо можна будзе пабачыць першыя выданні "Бібліятэкі Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі"? Хто будзе іх аўтарамі? Ці часта чытачы змогуць знаёміцца з навінкамі "Бібліятэкі"?

— Кожны год, пачынаючы з наступнага, плануем выдаваць па чатыры кнігі, якія будуць прадстаўляць новыя творы, напісаныя апошнім часам пісьменнікамі — сябрамі Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Гэта проза, паэзія, публіцыстыка, літаратурная крытыка, драматургія, адным словам, лепшыя творы ў самых розных жанрах. Акрамя, хіба, дзіцячай літаратуры. Ужо ёсць першыя рукапісы, над якімі мы пачынаем працаваць. Так, свае творы ў серыю прапанавала знакаміты драматург і празаік Алена Папова, выявіла жаданне прапанаваць апавяданні пісьменніца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова. Рыхтуюць рукапісы вядомыя пісьменнікі Ніна Маеўская і Наталля Касцючэнка. Хочацца падкрэсліць, што задача "Бібліятэкі..." — паказаць усё самае лепшае, самае незвычайнае, што нараджаецца ў розных жанрах у творцаў Мінскай гарадской пісьменніцкай арганізацыі. Нават афармленне кніг серыі ёсць задумка зрабіць адметным, каб яна нагадвала і пра Мінск (для гэтага будзе выкарыстаны герб сталіцы). Над дызайнам вокладкі працуе Генадзь Говар, вядомы мастак і пісьменнік, які жыве ў Гомелі. У "Бібліятэку" мы чакаем прапаноў і ад Анатоля Казлова, Міколы Мятліцкага, Міхася Башлакова, бо творы гэтых выдатных аўтараў чытаюць не толькі ў Беларусі, але і за межамі нашай краіны. Мы не будзем абмяжоўвацца толькі беларускамоўнымі творамі, прадастаўім магчымасць надрукавацца і тым знакамітым пісьменнікам, якія пішуць па-руску.



— У "Бібліятэцы" будуць друкавацца новыя творы ці ўсё ж гэта будуць перавыданні самых знакамітых вершаў, аповесцей, апавяданняў? Ужо ёсць ідэі наконт прэзентацыі і распаўсюджвання кніжных навінак?

— Кнігі гэтай серыі будуць змяшчаць новыя творы, якія раней у асобных кнігах не выдаваліся. У перыёдыцы — так, гэта прынята заўсёды. Але ні ў якім разе не перавыданне кніг і не зборнікі выбраных твораў. У плане выдання гэтай кніжнай серыі плануем супрацоўнічаць з цікавым выдавецтвам "Чатыры чвэрці", якое ўзначальвае актыўны папулярызатар літаратуры Ліліяна Анцух. Плануем прэзентацыі як кожнай кнігі паасобку — у першую чаргу ў бібліятэках Мінска, у залах Дома літаратара, — так і ўсёй серыі цалкам падчас святкавання Дня горада, што адзначаецца ў верасні. Будзем разам з упраўленнем культуры Мінгарвыканкама, іншымі гарадскімі структурамі наладжваць вялікае літаратурнае свята, з удзелам пісьменнікаў, з выстаўкай і прэзентацыяй іх кніг. Выданні, безумоўна, будуць распаўсюджвацца па бібліятэках, у першую чаргу ў Мінску, але не толькі. Калі з'явіцца зацікаўленасць іншых бібліятэчных сістэм, то разам з выдавецтвам будзем займацца рэкламнай, маркетынгавай работай і прапагандаваць кнігі серый па іншых абласцях краіны.

— Мінскае гарадское аддзяленне СПБ актыўна працуе з маладымі літаратарамі, юнымі творцамі. Ці можна лічыць задумку серыі "Мінскія маладыя галасы" яшчэ адным крокам у гэтым кірунку?

— Сапраўды, мы праводзім вялікую работу па выяўленні юных талентаў, прапагандзе іх творчасці, далучэнні маладых аўтараў да літаратурнага жыцця. Кожны год мы арганізуем вялікія конкурсы юных літаратараў (яны задумваюцца як гарадскія, але часам пераўтвараюцца ў рэспубліканскія і нават міжнародныя), па выніках якіх заўсёды ў Доме літаратара ладзім свята з удзелам самых удзельнікаў, пераможцаў. Па выніках творчага спаборніцтва адбіраем лепшыя творы, дапамагаем іх аўтарам апублікаваць вершы ці апавяданні ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы. Ствараем студыі, літаб'яднанні, праводзім семінары, ладзім паэтычныя святы... Але нам падаецца, што ўсё-такі недастаткова яшчэ ўвагі да творчасці юных літаратараў. У свой час выдавецтвы "Мастацкая літаратура", "Юнацтва" падтрымлівалі маладыя літаратурныя сілы. Выдавалася "Першая кніга паэзіі", "Першая кніга прозы". Усё гэта ўлічыўшы і праверыўшы перамовы з кіраўніцтвам Мінгарвыканкама, вырашылі з 2011 года распачаць выпуск кніжнай серыі "Мінскія маладыя галасы". Так, на конкурснай аснове будзем штогод выпускаць пяць кніг маладых літаратараў ва ўзросце ад 15 да 25 год.

— Самі "маладыя галасы" праяўляюць зацікаўленасць тым , каб іх творы пабачылі свет?

— Безумоўна. Праз конкурсы і літаб'яднанні мы выяўляем таленавітых творцаў, Міхасём Башлаковым ужо падрыхтавана анталогія "Маладая Беларусь", у якой прадстаўлена 180 юных паэтаў нашай краіны, акрамя таго, "майстар-класы" ў кнізе вядуць ужо вядомыя творцы. Больш таго, кожны дзень да нас прыходзіць многа маладых аўтараў, з якімі мы працуем, кансультуем, падказваем і нават далучаем да ўдзелу ў нашых літаратурных святах. У серыі "Мінскія маладыя галасы" будуць прадстаўлены не толькі вершы, але і проза, мастацкая публіцыстыка. Мы ўжо аб'явілі конкурс, ён будзе праходзіць прыкладна з пачатку года да мая. Ужо ёсць журы, створана рэдкалегія, ідзе праца і над афармленнем кніг серыі, хочацца, каб яна была і адметнай, і ў чымсьці пераклікалася з "Бібліятэкай Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі". Аб'ём выданняў плануецца невялікі — прыкладна 48 старонак: некалькі апавяданняў, калі гэта проза, або дзясяткі два-тры вершаў. Кожны год на верасень-кастрычнік плануем выданне кніг гэтай серыі, каб пасля ў Доме літаратара ладзіць вялікае свята маладой літаратуры сталіцы з удзелам кіраўніцтва горада і Саюза пісьменнікаў Беларусі, канкурсантаў, пераможцаў, аўтараў, пісьменнікаў, галоўных рэдактараў літаратурна-мастацкіх выданняў, каб прыцягнуць да іх увагу нашай літаратурнай грамадскасці, усіх тых, хто зацікаўлены літаратурай. Выданне згаданых серый яшчэ раз сведчыць аб пастаянных клопатах кіраўніцтва краіны, улад сталіцы і нашага СПБ пра юныя таленты Беларусі.

Гутарыла
Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў.

Фота Кастуся Дробава

# Пачатак праекта — душэўны

**Выдавецтва "Чатыры чвэрці" з Саюзам пісьменнікаў Беларусі звязваюць шматлікія паспяховыя творчыя праекты. Многія творцы сталі сябрамі СПБ, выдаўшы кніжкі менавіта тут. Вось і новыя літаратурныя серыі Мінскага гарадского аддзялення СПБ "Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі" і "Мінскія маладыя галасы" пабачаць свет у выдавецтве, якім кіруе Ліліяна Анцух.**



"Яшчэ ў самым пачатку выдавецкага шляху, а гэта было каля дваццаці год таму, — расказвае Ліліяна Анцух, — у нас выйшлі кнігі многіх паэтаў і празаікаў, на той час ужо знакамітых, і тых, якія толькі пачыналі свой шлях у літаратуры. А кнігі сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі, што пабачылі свет у апошнія гады, можна пералічваць і пералічваць. Здаралася, аўтар, які ў нас выдаў першую кніжку, потым стаў сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі". Ліліяна Фёдараўна прыводзіць класічны для выдавецтва прыклад — літаратурны лёс пісьменніцы Надзеі Салодкай. Аднойчы ў выдавецтва патэлефанавалі з Полацкага манастыра і папрасілі звярнуць увагу на яе вершы. Так, адна за адной выйшлі пяць кніг. Пасля трэцяй аўтар спрабуе ўступіць у Саюз пісьменнікаў Беларусі, паэтку падтрымаў зямляк Навум Гальпяровіч... А потым — і песні пісаць сталі на яе вершы, і прэміямі шматлікімі ўзнагародзілі, і прысвоілі званне Ганаровага грамадзяніна Полацка. "Ад гэтага радасць — як сабе, — дзеліцца Ліліяна Анцух. — Дарэчы з Полацкам звязаны яшчэ адзін цікавы выдавецкі праект: кніга прозы Навума Гальпяровіча ў перакладзе на рускую мову Надзеі Салодкай і ў мастацкім аздабленні працамі таксама ўраджэнкі гэтага горада Нінэль Шчаснай. Сёлета гэта ўжо другая такая кніжка, і Надзея Салодкая даслала трэцюю, так, цэлая полацкая серыя кніг атрымліваецца".

Варта адзначыць, што праца выдавецтва "Чатыры чвэрці" і аўтара часам ацэньваецца не толькі на ўзроўні цікавасці для чытача. Так, у гэтым годзе за кнігу "Полёт над землёй", што пабачыла свет у гэтым выдавецтве, Аляксандр Сакалоў атрымаў вышэйшую ўзнагароду рэспубліканскага конкурсу за лепшы празаічны твор. Да слова, у мінулым годзе "Залаты купідон" атрымала Валянціна Паліканіна за кнігу "За плотью слов", над якой працавалі ў выдавецтве "Чатыры чвэрці".

У ліку аўтараў выдавецтва — сяброў СПБ Анатоль Аўруцін, яго кніга выйшла ў серыі "Личность и время". Ліліяна Анцух расказвае: "Яе мы ў свет адпраўлялі разам з аўтарам уступнага слова Уладзімірам Гніламёдавым. У цэлым, гэта цікавая серыя, плануем яе працягваць, расказваць пра людзей розных кірункаў дзейнасці, якія менавіта праз сваю прафесію і талент робяць унёсак у культуру, літаратуру. Зараз ідзе рэдакцыйная падрыхтоўка кнігі Міколы Макарцова "Творцы з гомельскай зямлі".

Знакавай можна назваць і серыю "Дети войны", прысвечаную 65-годдзю Перамогі. Менавіта дзякуючы "ЛіМу" на нашу прапанову людзі адгукнуліся, і партфель на яе ўжо падабраны. Але мы заўсёды чакаем новыя думкі, допісы новых аўтараў. Бо ў серыі змяшчаем не толькі творы, што рэгіструюць факты, успаміны сведкаў, гэта можа быць проза і паэзія, апрацоўка аповедаў сведкаў падзей.

Колькі слоў пра аўтараў выдавецтва... Не першы раз мы працуем з Сяргеем Трахімёнкам, які цяпер, як кажуць "на хвалі". Ён піша разумныя, цікавыя дэтэктывы. У ліку аўтараў — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, яго кніга прозы "Паміж радасцю і болем", амаль адразу ўсім тыражом апынулася ў чытачоў".

Канечне, ні на хвіліну не спыняецца ў выдавецтве праца над новымі кнігамі. Так, рыхтуецца да друку цікавая (нават рэцэнзент падгледзеў) кніга Генадзя Аўласенкі "Азы вершаскладання". "Сёння, ведаеце, у многіх рвецца з душы імкненне выказацца паэтычным словам, — заўважае Ліліяна Фёдараўна, — але не ўсе могуць гэта зрабіць граматна з пункта гледжання законаў вершаскладання. У нас ёсць падставы спадзявацца, што гэтая кніжка-падказка будзе цікавая і карысная для многіх. У серыі "Дети войны" рыхтуецца зборнік апавяданняў Васіля Гурскага "Цяжкая дарога". З Генадзем Пашковым абмяркоўвалі новы творчы праект, будзем спадзявацца, што ўсе задумкі рэалізуюцца. Не так даўно рабілі кнігу Янкі Сіпакова, і новая яго кніжка таксама ў нас. Да яго 75-годовага юбілею, думаю, паспеем. Спадзяюся на плённае супрацоўніцтва і з Зіновіем Прыгодзічам".

Сумесная праца выдавецтва з Саюзам пісьменнікаў Беларусі прасочваецца не толькі на ўзроўні выдання кніг сяброў СПБ. Так, дачка Канстанціна Заслонава Муза напісала кнігу "Фамилия", у якой расказвае пра бацьку, дзяцінства, пра сваю сям'ю і свой лёс. Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец — аўтар уступнага артыкула да выдання, якое ўжо рыхтуецца да друку.

Што да ідэі новых кніжных серый Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, Ліліяна Фёдараўна адзначае: "Падаецца, што гэтыя праекты — здзяйсненне маёй даўняй мары, таму што ўжо некалькі гадоў запар мы выдаём кніжкі маладых празаікаў і паэтаў, невядомых шырокаму чытачу, і кожная такая кніжка — гэта асобная гісторыя, як аўтара, так і яго асяроддзя і, зразумела, выдавецтва. З любоўю працавалі над зборнікам паэзіі сяброў валожынскага літаб'яднання "Рунь", арганізавалі яго прэзентацыю ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, а таксама на Дні беларускага пісьменства. Усё атрымалася вельмі душэўна, удзельнічалі і аўтары, і творчыя калектывы з Валожыншчыны.

Калі Міхась Пазнякоў звярнуўся да нас з прапановай сумеснага стварэння новых кніжных серый, ідэя ва ўнісон прагучала з тым матэрыялам, з якім мы раней працавалі. "Мінскія маладыя галасы" — цудоўная магчымасць для пачаткоўцаў выдаць першую кніжку. А ў звязку з кніжкай "Азы вершаскладання" Генадзя Аўласенкі — цэлы комплекс атрымліваецца. Ды і сама ідэя дарагога вартая, і ў будучым, думаецца, трапіць у гэтую серыю будзе справай гонару. Вельмі спадзяюся, што ў падрыхтоўцы новых серый наша выдавецкае плечыка тут будзе дарэчы.

Што да кніг з новых праектаў, падрабязна мы будзем пра іх гаварыць, калі з'явіцца дакладны вынік працы. Пакуль усё выглядае вельмі душэўна, а калі на такой ноце пачынаецца рэалізацыя праекта, так яна і павінна ісці далей".

Юзэфа ВОЎК

На здымку: дырэктар выдавецтва "Чатыры чвэрці" Ліліяна Анцух.

# Навінкі кнігавыдання

Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам

МАСТАЦТВА. ЗАБАВЫ. ВІДОВІШЧЫ. СПОРТ

Агульныя пытанні мастацтва

Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Дзяржаўная навуковая ўстанова «Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ім. Кандрата Крапівы»; [навуковы рэдактар: А. І. Лакотка; рэдактар-укладальнік: А. Г. Алфёрава]. — Мінск: Права і эканоміка, 2006.

Вып. 8. — 2010. — 560 с. — Частка тэксту на нямецкай і рускай мовах. — 150 экз. — ISBN 978-985-442-815-4.

Коммуникативные стратегии искусства: материалы республиканской научно-практической конференции (Брест, 16 апреля 2010 г.) / [редколлегия: О. В. Финслер (отв. ред.) и др. ]. — Брест: Альтернатива, 2010. — 79 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-521-169-4.

Архітэктура

Баня, колодец, погреб / [автор-составитель Николай Владимирович Белов]. — Минск: Харвест, 2010. — 287 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-16-5291-0 (в пер.).

Выяўленчае мастацтва. Маляванне і чарчэнне

Основы академического рисунка: 100 самых важных правил и секретов / [автор-составитель Надеждина Вера]. — Минск: Харвест, 2009. — 127 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-6203-2 (в пер.).

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Мастацкія промыслы

Мурзина, А. С. 100 способов эксклюзивного оформления и украшения подарков: [цветовое решение, инструменты и материалы, варианты бантов и упаковки] / А. С. Мурзина. — Минск: Харвест, 2009. — 255 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-7042-6 (в пер.).

Жывапіс. Графіка

Иван Хруцкий: жизнь, творчество, художественное наследие: в ознаменование 200-летия со дня рождения выдающегося художника Ивана Хруцкого (1810–1885): материалы международной научно-практической конференции, 2 февраля 2010 г., Минск, Белорусская государственная академия искусств / [составитель и редактор: А. Г. Шимелевич]. — Минск , 2010. — 78 с. — Часть текста на белорусском языке. — 30 экз.

Музыка

Пелагейченко, Э. И. Истоки современной белорусской школы пения: учебно-методическое пособие для студентов высших учебных заведений по направлению специальности 1-16 01 10-01 «Пение (академическое)» / Э. И. Пелагейченко; Министерство культуры Республики Беларусь, Белорусская государственная академия музыки. — Минск: БГАМ, 2010. — 187 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6837-60-2.

Сяо Ин. Обработка народной музыки в фортепианном творчестве китайских композиторов: пути эволюции и жанрово-стилевые особенности / Сяо Ин; [научный редактор Н. П. Яконюк]. — Минск: Энциклопедикс, 2010. — 199 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-6958-10-9 (в пер.).

Забавы. Кіно. Кінафільмы

Великая Отечественная война в киноискусстве Беларуси / [А. А. Карпилова и др.; редколлегия: А. А. Карпилова, О. Ф. Нечай, А. В. Красинский]; Национальная академия наук Беларуси, Институт искусствоведения, этнографии и фольклора им. Кондрата Крапивы. — Минск: Беларуская навука, 2010. — 339 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-08-1146-2 (в пер.).

Минский зоопарк. — Минск, 2010. — 15 с. — 3000 экз.

Тэатр. Сцэнічнае мастацтва. Драматычныя прадстаўленні

Таніна, Л. М. Тэндэнцыі развіцця акцёрскага мастацтва Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (1980-я гады XX – пачатак XXI стагоддзяў): манаграфія / Л. М. Таніна. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2010. — 103 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-6958-09-3.

Грамадскія забавы і святкаванні. Мастацтва руху. Танец

Сунь Цянь. Китайское танцевальное искусство XX века: взаимодействие национальных и западных традиций / Сунь Цянь; [научный редактор Н. Н. Ходинская]. — Минск: Энциклопедикс, 2010. — 200 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-69-58-06-2.

Спорт. Гульні. Фізічная культура. Спартыўныя гульні

Лыжные гонки. Теория и методика обучения: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по специальности «Спортивно-педагогическая деятельность (тренерская работа по лыжным гонкам)» / [Н. А. Демко и др.; под редакцией Н. А. Демко]; Министерство спорта и туризма Республики Беларусь, Белорусский государственный университет физической культуры. — Минск: БГУФК, 2010. — 298 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6953-15-9.

Прокопкина, С. В. Спортивные и подвижные игры: волейбол: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1 01-03 02 01 «Физическая культура» / С. В. Прокопкина; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2010. — 211 с. — 115 экз. — ISBN 978-985-531-056-4.

Сычевский, С. А. Плавание: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1-03 02 01 «Физическая культура» / С. А. Сычевский; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2010. — 338 с. — 85 экз. — ISBN 978-985-531-048-9.

МОВА. МОВАЗНАЎСТВА. ЛІНГВІСТЫКА. ЛІТАРАТУРА

Агульныя пытанні лінгвістыкі, літаратуры і філалогіі

Мова і літаратура ў XXI стагоддзі: актуальныя аспекты даследавання: матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі маладых вучоных, Мінск, 26 сакавіка 2010 г. / [рэдкалегія: П. І. Навойчык (адк. рэд.) і інш.]. — Мінск: Выдавецкі цэнтр БДУ, 2010. — 469 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 160 экз. — ISBN 978-985-476-825-0.

Мовазнаўства і мовы. Лінгвістыка

Головач, В. Н. Международная разговорная письменность «Валгол» (Универсальная международная письменность). Разговорник-словарь на десяти языках с новой универсальной транскрипцией / В. Н. Головач. — Минск: Минсктиппроект, 2010. — 239 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6735-69-4.

Мовы

Будзько, А. П. Нямецкая мова: вучэбны дапаможнік для 7-га класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання / А. П. Будзько, І. Ю. Урбановіч. — Мінск: Вышэйшая школа, 2010. — 285 с. — 10953 экз. — ISBN 978-985-06-1831-3 (у пер.).

Английский язык: практикум по формированию навыков употребления технических терминов для студентов уровня среднего специального образования 2-го курса всех специальностей / Министерство связи и информатизации Республики Беларусь, Высший государственный колледж связи, кафедра гуманитарных наук; [составитель М. А. Самута]. — Минск: ВГКС, 2010. — 47 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6938-40-8.

Английский язык: 4-й класс: выполненные упражнения к учебному пособию «Английский язык. 4 класс» авторов Л. М. Лапицкой, Т. Ю. Севрюковой, А. И. Калишевич и др. / [составитель М. А. Гонсиевская]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 143 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-222-2.

Английский язык: 5-й класс: выполненные упражнения к учебному пособию «Английский язык. 5 класс» в 2 ч. авторов Л. М. Лапицкой, Т. Ю. Севрюковой, А. И. Калишевич и др. / [составитель М. А. Гонсиевская]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 143 с. — 6200 экз. — ISBN 978-985-532-223-9.

Английский язык: 9-й класс: пособие для учащихся: к учебному пособию «Английский язык. 9 класс» автора И. И. Пановой / [составитель О. О. Булай]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 271 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-225-3.

Английский язык: 10-й класс: к учебному пособию «Английский язык. 11-й класс» для общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / [составитель Т. В. Астапенко]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 204 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-230-7.

Английский язык. Весь школьный курс в таблицах / [составитель Лабода Татьяна Евгеньевна]. — 6-е изд. — Минск: Современная школа: Кузьма, 2010. — 256 с. — 10050 экз. — ISBN 978-985-513-922-6 (Современная школа). — ISBN 978-985-453-310-0 (Кузьма).

Английский язык для студентов-экологов = English for ecology students: учебно-методическое пособие для студентов географического факультета БГУ / [составители: Т. В. Елисеева, И. Г. Шалимо, И. Л. Шарейко]. — Минск: БГУ, 2010. — 137 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-518-276-5.

Английский язык. Тексты для чтения. Страноведение: Соединенное Королевство Великобритании и Северной Ирландии: история, культура, города / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный технологический университет; [составители: Степанов Д. А., Бурдыко О. В.]. — Витебск: ВГТУ, 2010. — 68 с. — 158 экз.

Англо-русский словарь для перевода технической литературы / Министерство связи и информатизации Республики Беларусь, Высший государственный колледж связи, Кафедра гуманитарных наук; [составители: С. Т. Иванова, Н. В. Ковалевич]. — Минск: ВГКС, 2010. — 78 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6938-41-5.

Будько, А. Ф. Немецкий язык: учебное пособие для 7-го класса общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / А. Ф. Будько, И. Ю. Урбанович. — Минск: Вышэйшая школа, 2010. — 285 с. — 14103 экз. — ISBN 978-985-06-1830-6 (в пер.).

Верниковская, Т. В. Популярная грамматика польского языка: учебно-методическое пособие по курсу «Польский язык»: в 2 ч. / Т. В. Верниковская. — Минск: Издательский центр БГУ, 2010. — ISBN 978-985-476-809-0.

Ч. 1: Глагол и существительное. — 2010. — 142 с. — 320 экз. — ISBN 978-985-476-810-6.

Гонсиевская, М. А. Английский язык: 6-й класс: выполнение упражнений по учебному пособию «Английский язык. 6 класс» авторов Н. В. Юхнель, Е. Г. Наумовой / М. А. Гонсиевская. — Минск: Юнипресс, 2010. — 142 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-224-6.

Демьяненко, Т. А. Практика устной и письменной речи: профессионально ориентированный тренинг для будущих преподавателей английского языка = English speech practice course: teacher training sessions: учебно-методическое пособие: [для преподавателей] / Т. А. Демьяненко; Министерство образования Республики Беларусь, Минский государственный лингвистический университет. — 2-е изд., исправленное. — Минск: МГЛУ, 2010. — 111 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-460-372-8.

Детективные истории = Crime stories: учебно-методическое пособие по аудированию / Юридический колледж Белорусского государственного университета; [составители: А. В. Савина, О. М. Пирская, Н. В. Лихачева]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2010. — 124 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-476-821-2.

Жукова дэ Бовэ, С. П. Английский язык ведут... колобки / Сусанна Жукова дэ Бовэ. — Минск: Белпринт, 2010. — 101 с. — 15 экз. — ISBN 978-985-459-178-0.

Жукова дэ Бовэ, С. П. Цветные схемы структуры английского языка. Матрица языка / Сусанна Жукова дэ Бовэ. — Минск: Белпринт, 2010. — 57 с. — 15 экз. — ISBN 978-985-459-179-7.

Калашникова, Е. А. Учение – путь к умению = Lerne was, so kannst du was: практикум по грамматике немецкого языка: [для слушателей] / Е. А. Калашникова, И. Г. Осмоловская; Министерство образования Республики Беларусь, Минский государственный лингвистический университет. — Минск: МГЛУ, 2010. — 135 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-460-371-1.

Нестер, Н. В. Латинский язык и народная латынь: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1-21 05 06 «Романо-германская филология»: в 2 ч. / Н. В. Нестер; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2010. — 45 экз. — ISBN 978-985-531-060-1.

Ч. 1. — 163 с. — ISBN 978-985-531-061-8.

Ч. 2. — 271 с. — ISBN 978-985-531-062-5.

Славянские языки: системно-описательный и социокультурный аспекты исследования: материалы IV Международной научно-методической конференции, Брест, 25–26 ноября 2009 г.: в 2 ч. / под общей редакцией О. Б. Переход. — Брест: БрГУ, 2010. — ISBN 978-985-473-551-1.

Ч. 1. — 258 с. — Часть текста на белорусском, польском, словацком и украинском языках. — 70 экз. — ISBN 978-985-473-552-8.

Ч. 2. — 205 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 75 экз. — ISBN 978-985-473-553-5.

Упражнения и тесты = Übungen und Tests: [пособие для учащихся] / Юридический колледж Белорусского государственного университета; [составитель Е. Т. Дембицкая]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2010. — 77 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-476-822-9.

## Исповедь уходящего




В рамках одной жизни, словно в причудливом зеркале, может отобразиться уродство целой эпохи. И за скупыми строчками мемуаров оно предстаёт перед читателем, поражая воображение. Жизнеописание — так определил жанр своей книги "В лабиринтах жизни" режиссёр Владимир Светлов. Тот самый Светлов, снявший вместе с Николаем Калининым культовые фильмы "Кортик" и "Бронзовая птица", автор многих телевизионных сценариев, член Белорусского союза кинематографистов. Сдержанно повествует: чтобы не угнали в Германию, мать пристроила его, 16-летнего, на работу в театр — с одним условием — чтобы негромко ударять по струнам цимбал, потому что играть был не обучен. И где он с юношеской отвагой, копируя героя пьесы, крикнул навстречу гауляйтеру Кубе: "Я — беларускі юнак!" В восемнадцать за "активную антисоветскую пропаганду" приговорён к 10 годам исправительно-трудовых лагерей, отправлен в Воркуту, где судьба сводит его с Алексеем Каплером, сценаристом, одним из создателей фильмов "Ленин в Октябре", "Ленин в 1918 году", Соломоном Генфельдом, профессором Института красной профессуры, посмевшим написать Сталину письмо в защиту академика Марра, Иваном Гронским, бывшим советником Сталина по культуре. Эти люди стали его "первыми университетами".

Впереди в лабиринтах жизни незаконное увольнение с телевидения в 1968 году в связи с пражскими событиями и развод с женой, которой прозрачно намекнули, что из-за биографии мужа она может не пройти по конкурсу как преподаватель вуза. Он добился полной реабилитации только в 1971 году. И ещё успел написать об этом.

В субботу, 18 сентября 2010 года, автора этой книги, вышедшей в издательстве "Кнігазбор" тиражом 60 экземпляров, проводили в последний путь.

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

# Шкляны мост



Мікола БУСЬКО

## Згадкі з мінулага

Мікола Бусько нарадзіўся 30 верасня 1940 года ў вёсцы Пагарэлка Карэліцкага раёна, а жыве і працуе ў г. Баранавічы. Да свайго юбілею пісьменнік прыйшоў з багатым творчым набыткам. На яго рахунку шматлікія кнігі для дарослых і дзяцей, у тым ліку — "У Нёмна на плячах", "Сузор'е Шаляў", "Паэзія баразны", "Ад галінкі да сучка…", "Шасцікрылец Хмарагон", "Бабрыная навука".

I

Прыземістыя хаціны і хаткі вёскі Янкавічы, што за некалькі дзясяткаў вёрст ад Стоўбцаў, патанаюць у затканай імжой нізіне ракі Шуры. Крыху на захад, каля Налібак, па нязмернай прасторы сваволіць нязменная суседка Шуры — Лебяжода, альбо Ашмянка, — назва, адсунутая часам у мінулае. Сама ж Лебяжода — правы рукаў рэчкі Кроманкі, якая пачынаецца ручайком з возера Кромань.

Добрая Лебяжода, зрабіўшы крук на вёрст пяць, вымалёўвае на поплаве каля Налібак выразны сілуэт сэрца і, крыху прытаміўшыся, нясе зялёную ад раскі ваду, выконваючы сваю спрадвечную функцыю, наканаваную ёй лёсам, — паіць зямельку.

Хаты, рубленыя вясковымі майстрамі са смалістага бярвення, трывалыя і цёплыя: не падпускаюць да сябе нават праніклівы хрышчэнскі мароз, і каб адпужнуць яго — патрэскваюць вугламі. Лесу хапала, балазе, было з чаго выбіраць ды будаваць. Ва ўрочышчы Румок існаваў буйны тартак, да якога з Налібак пралягала вузкакалейка.

Навакольныя лясныя паселішчы узростам падбіраюцца да XV стагоддзя. Князі Радзівілы ўзвялі слынную ў той час гутную мануфактуру, перапрацоўваючы чысты пясок ракі Лебяжоды.

Сцежкі і дарогі нашых бацькоў яшчэ прыкметныя, хоць і пакрысе выветрываюцца з памяці, але застаецца іх досвед. Сяляне жылі дружна паміж сабою, суладна з прыродай, вучыліся ў яе, усведамлялі важнасць такіх жыццёвых кантрастаў, як дабро і зло, святло і цень — процілегласці адзінства, як мужчына і жанчына ў каханні — адзінае цэлае. Гадавалі дзетак, цешыліся імі, прывучалі да працы, а ранішняе сонейка, што выкочвалася над лесам, будзіла ўсіх, вітаючы людзей пад акампанемент птушак:

— Дабрыдзень, вёска, пара за працу!

І да весялосці быў здольны чалавек, саграваў душу самагонкай і песняй. Летам, у святочныя дні, збіраліся пад дубам, які не змаглі абняць сямёра дзецюкоў. Магутнае дрэва, набраклае сілай, неаднойчы паласавалі маланкі, але ён, дуб, выстаяў, не здаўся. А некаторыя людзі ідуць міма, не звяртаючы ўвагі на яго. Некаторыя, толькі не Язэп — сялянскі хлопец. Ён, уцякаючы ад нудных гаспадарчых спраў, паміж раніцай і днём знаходзіў тут прытулак свайму захапленню: маляваў, выдзёўбваў чаўны па ўласных чарцяжах, плёў кашы і лапці, высякаў капылы. Ён выдумляў тое, што не ў стане прыдумаць нічыя фантазія: у небе над вадой кружляюць чайкі, а над імі — анёлы. Укленчыўшы перад дубам, хлопец жагнаўся, клікаў Бога, вымольваў здароўя для маці і працу для сябе. "У Бога выпрасіш, а ў чалавека — не", — казала яму калісь маці.

Вось адсюль і пачынаецца гісторыя — праўдзівая, хоць і вельмі даўняя.

II

— Кра-а-ак! — азвалася перад акном на яблыні чорная, як бяда, варона.

— Нейкі знак?..

Колькі разоў Язэп даваў сабе зарок: адмахнуцца ад незычлівых сялян, як ад сляпнёў, не слухаць іх просьбы, а болей дапамагаць маці, шукаць паратунак, абысці няўдачы, папярэдзіць… А што з мамай?..

Хвароба бязлітасна ішла ў наступ, але маці не хацела класціся ў бальніцу: доктар запэўніў, што адчайвацца не варта, хвароба адступіць праз нейкі час. Калі?..

Дрыжыць-патрэсквае кволы агеньчык памінальнай свечкі, жыццё, як воск, сплывае ўніз, раствараецца, і на могілках застаецца грудок пяску колеру воску: "А што ж такое жыццё? — разважаў сын. — Гэта набыткі, знаходкі і — увесь час страты: бацькоў, маці, братоў, сясцёр, сяброў…" Штодзень наша жыццё змяняецца, як колер на небе.

Страшна быць аднаму ў першыя дні самоты, свет звузіўся да сцен цёмнага пакойчыка. Хлопец адчуў млявы ўпадак духу і не жадаў быць паміж людзьмі. У хаце, на покуце, відаць самая галоўная каштоўнасць — абраз Міколы Цудатворца. Язэп не быў веруючым, але адчуваў да яго дзівосную прыналежнасць, і, калі дакранаўся да абраза ў хвіліны адчаю, адлятаў страх, прыходзіла ўпэўненасць.

Атрымаць адукацыю ні часу, ні магчымасці пасля страты маці не выпадала, але Язэп стараўся жыць з поглядам у будучыню. Ён не быў шматслоўным, ні з кім з вяскоўцаў не дзяліўся сваёй скрухай, спадзяваўся на сябе — трэба самому знайсці сцяжынку ў жыцці. Дома рабіў алоўкам накіды кухонных прадметаў, птушак. Асабліва любіў маляваць статуэтку, што засталася ад маці.

Язэп разважаў, стоячы ля акна, паглядаў у туманістую далеч, на дрэвы, што памяншаюцца на даляглядзе, затым перавёў позірк на неба: "Гэта там душа мамы злучаецца з вечнасцю".

За акном жыццё ўспрымаецца як намаляваны акварэллю пейзаж. Хлопец выйшаў з хаты з адчуваннем цяжару перажытага, закінуў заплечнік, у якім змясцілася б усё яго жыццё.

— Здарова, рэчка!

Чэрціць човен мудрагелістыя крывыя, вясляр углядаецца ў чараты, яго вока вабіць устойлівы інтарэс да гэтай мясціны. Човен прытуліўся да кусціка, хатуль павіс на плячы. Раскладзены пэндзлі, алоўкі, папера. Хлопец зляцеў з увагнутага, як трамплін, берага на мелкаводдзе. Паміж каменьчыкамі вада яшчэ сонная, толькі раніца спалучае ўсе колеры, адценні ў адну гаму. Язэп любіць гэтую пару. "Дзень пачынаецца з раніцы, а знаёмства са шклянкі", — гаварыў калісь бацька. Сапраўды, раніца — цудоўны час! Цемра яшчэ не аддзялілася ад святла, паветра зараджаецца азонам і свежасцю, неба празрыстае, чыстае. Людзі заўсёды раіліся з небам, прыслухоўваліся да яго голасу, бо ведалі: з небам спрачацца грэх. Вышэйшае кіруе ніжэйшым: неба — зямлёй, галава — целам… І кожнаму з нас прырода выдзеліла сваё месца.

Хлопец набраў вады, перажагнаўся, нібыта выконваў нейкі рытуал, і пацягнуўся да паперы. Некалькі хвілін ён вывучаў пейзаж, адчуў, што любоў да сваёй зямлі яшчэ не ўсё, не тое, што перад вачыма, а менавіта тое, што ўтойваецца, што трымаецца ў сакрэце, і за паўсядзённым каларытам часу бачыцца штосьці іншае.

Праз скарынку жвіру прабіваецца атожылак: тонкая, бы спіца, сцяблінка, над ёй залацістая гронка піжмы, цешыцца сонейкам, люструецца ў вадзіцы, а цені ад кустоў кладуцца на пясочак чароўным малюнкам пад мажорныя пералівы птушак.

— Вось і эцюд! — поўны вясёлкавых надзей, узрадаваўся Язэп.

Лёгкія ўзмахі рукі, мяккія штрыхі кладуцца на паперы, схематычнае размеркаванне дрэў, кампазіцыйна ўраўнаважаныя дэталі, ледзь бачныя пераходы святла і ценяў — радасныя пачуцці нараджае малюнак. Раз-пораз пераводзіць позірк, звярае з натурай, запрашае на паперу.

III

Цішыня — аж звініць, надвор'е спрыяе творчасці, толькі дакучаюць раўнадушныя да мастацтва сляпні. Хлопец нешта мармыча сабе пад нос, чэрціць, закрэслівае, папраўляе.

Недзе з боку пачуўся шолах лісця, патрэскванне галля, і знячэўку здзівіў чыйсьці голас:

— Бог у помач!

Позірк, як стоп-кадр, злавіў імгненне.

— Трэба ж мяшаць… — пагляд упаў на дзявочую постаць.

— Табе не да твару злавацца, — мякка спыніла дзяўчына. — Нядрэнна, малюй, малюй…

Гэта была першая ацэнка яго таленту, і тым болей, што яе словы не былі выпадковымі. Вочы хлопца ажывіліся.

Грацыёзны рух цела, выдатна складзеная пастава, лёгкі і белы твар, чароўная ўсмешка — партрэт, напісаны алеем. Складана супрацьстаяць такой прыцягальнай сіле!

— Ты павінен вучыць людзей мастацтву…

— Разумна, — хлопец глянуў на дзяўчыну, перавёў позірк на паперу і падумаў: "Так рэдка бывае ў жыцці, што прыгажосць ужываецца з розумам".

— Нядрэнна, — яна бліснула яснымі, як зоркі, вачыма.

Пахвальныя словы былі толькі зачэпкай да знаёмства. "А можа, гэтае хараство ў яркай упакоўцы", — падумалася хлопцу.

— Ты варты лепшага жыцця, — з нейкім далікацтвам падбадзёрыла яго.

— Я не выбіраю жыццё, у бедных няма выбару…

Язэп усведамляў, што кідацца апантана на ўсё бліскучае непрыстойна.

— А можа, я пакажу малюнкі інтэнданту, — гамонка над паперай лунала, нібыта ластаўка перад дажджом.

— А што, ён знаёмы?

— Тата працуе ў гуце.

Язэп памаўчаў, паглядзеў на неба, хацеў параіцца:

— Ты прабач мне, лепей я сам, — і паклаў альбом.

Хлопец разумеў, што патрэбны вёсцы, але зрушыць з месца аднаму складана, тым болей, калі няма ў чалавека бацькоўскай глебы пад нагамі, ні компаса, які паказвае напрамак. Але кірунак ужо вымалёўваўся, хоць пакуль яшчэ расплыўчатымі сілуэтамі.

IV

Ад цёплага подыху раніцы падымаецца трава, і мякка прымае мужчынскія крокі. Сонца асвяціла прастор, і туман жоўты, здаецца, растае, як марожанае.

Фальварак сустрэў хлопца высокай брамай, цяжкімі сценамі, варотамі з кованага жалеза.

— Стой! Ты куды?! — строгія вочы выглянулі з акенца.

— Я тут малюнкі прынёс, паказаць хачу… — на душы ў хлопца зрабілася вусцішна і трывожна.

Недзе з паўгадзіны таптаўся ён каля дзвярэй, затым прыйшоў аканом і павёў яго ў канцылярыю.

— Вы пане такі блазне… — пачуў Язэп вінегрэт з беларускіх і польскіх слоў і выцягнуў малюнкі.

Плячысты, як дуб, гаспадар перанёс грузную постаць на дзве нагі, упяўся вачыма ў малюнкі, разглядаў, затым падняў указальны палец і працяжна сказаў:

— Працуй і маліся.

— Дзякую, пане, — сагнуўся ў паклоне Язэп.

Раніцай наступнага дня аканом завёў хлопца ў інтэнданцкі склад. Язэп пераводзіў здзіўлены позірк з аднаго твора на другі. Яркія бліскучыя келіхі з залатым абадком. Бляск, цені, рэфлексы… Святло дае волю і палёт шкляным анёлам.

— Апагей майстэрства і фантазіі!

— Паглядзі, які глушэц з малочнага шкла! Якая дынаміка! Чароўная лінія крыл, суладная з прыродай. Якасць са знакам плюс!

— А цяпер сюды паглядзіце, — учарашнія малюнкі, свежыя…

— Ах ты, налібоцкі зух! — здзівіўся аканом. — Гэта ж трэба так дакладна мясцовую красу перанесці на ліст.

Аканом правёў Язэпа ў доўгі мураваны будынак: шклаварны цэх — сэрца гуты. У твар дыхнула гарачым паветрам, з тыгляў патыхае жарам. Жмурыцца майстар, чаруе, паступова ў яго руках згустак шкла ператвараецца ў мастацкі твор, як пераходзіць ночка ў дзень.

Язэп цяпер ведаў, для чаго трэба жыць. Нейкі час працуе вучнем шкловыдзімальшчыка, затым ужо самастойна. Ён быў удзячным вучнем, пасля паспяховым выканаўцам чужых ідэй.

Ішлі для майстра радасныя дзянькі: ён размаўляе са шклом, як жывы з жывым, тое, што ўразіла, адкладася ў памяці, ператвараецца ў каштоўнасць, непадуладную часу. Дні праляталі хутка, незаўважна, можа, таму што быў напружаны графік.

Ужо крыўдзіцца на матэрыяльнае становішча яму не выпадала, але іншы раз адчувалася стомленасць, падступалі пакуты ад недахопу волі, хацелася спавядацца, пагаманіць са святаром, пераканацца, што ніхто не мае ніякага права валодаць істотай, створанай па вобразу Бога.

Аканом паважаў яго талент, адносіўся да Язэпа з бацькоўскім пачуццём і аднойчы прапанаваў яму:

— Ёсць магчымасць табе пабыць у Міры.

V

У вясёлкавым павуцінні вячэрняга сонца паўзе пузатая фурманка, нагружаная каштоўным таварам. Дзень губляе сваю празрыстасць. Ноздры каня ловяць вечаровую свежасць. Уперадзе сядзіць фурман сталага веку. Язэп усеўся ззаду, накрыўшыся доўгай сярмягай.

— Мы дагонім вас за мостам. Уперад! — загадаў ахоўнік-казак.

Рытмічнае тупанне капытоў набывае мажорную мелодыю. Адкрытае поле даймае сваёй панылацю, і неўзабаве палявая дарога пераходзіць у лясную. Перад самай мызай каня прамільгнуў заяц.

— Ах, каб цябе ваўкі!

Мужчыны доўга гаманілі, успаміналі, затым размова пачала слабець, перарывацца частымі і працяглымі паўзамі.

Конь пафырквае, углядаецца ў непраглядную далеч. Якая сумная ноч! Неба схілілася над дарогай у пякучым маўчанні. Цемра ўзбуджае псіхіку, дабаўляе маральныя і фізічныя перагрузкі. Наўкол пануе задумлівая цішыня, уласцівая часу, калі раздзеты лясы.

Язэп сцішыўся, у галаву лезуць тужлівыя думкі. Чорная вада, ірвуць адзенне рыбы, цягнуць на дно. Над вадою праплывае яшчэ адна рэчка — рэчка часу. Ідзе чалавек, паглядае ўперад. Але ці ідзём мы ўперад? Крочым па крузе, паўтараючы адны і тыя ж памылкі. А яны з часам забываюцца, знікаюць. Усё ў прыродзе недзе знікае… А куды?..

Дарога вытрасае душу. Ад доўгага сядзення дзервянеюць ногі, і фурман спыніў каня:

— Што, замарыўся? Яшчэ адзін рывок, за горкай — мосцік і перадых.

Залётны птах пранёсся ў недасяжнай вышыні.

Дзядзька наматаў лейцы на біла і вольна пусціў каня.

— Язэп, давай закурым, — яны задымілі цыгаркамі, пастаялі крыху і патупалі ўслед.

З глыбіні лесу данеслася працяглае жудаснае выццё. Гук то прыбліжаўся, то знікаў зусім, збоку чулася падвыванне. Звяры пераклікаліся, абменьваліся інфармацыяй, іх "канцэрты" жахліва ўздзейнічаюць на ўсё жывое, а дрэвы, асабліва асінкі, уганяюць у дрыжыкі. Ніводзін сабака не зможа спаборнічаць з воўкам у вынослівасці і ў хватцы, роўных яму сярод сабак — няма. Гэта ідэальны звер.

На адкрытым узгорку вырасла фурманка. Ваўкі выбралі зручны паток ветру, слізганулі з адхону і стрымгалоў кінуліся напярэймы. Іх паводзіны сталі зразумелымі.

Перад мостам дарога ямістая, фурманка падскоквае, хістаецца.

Адчуўшы небяспеку, конь нясецца з усіх капытоў. Звяры ўсё бліжэй і бліжэй… Бліснулі дзве пары жывых зялёных агеньчыкаў. Конь рэзка павярнуў галаву, на імгненне ўпёрся нагамі ў край моста, як бы клічучы: "Дзе вы, мужыкі!" Але фурманка, набраўшы разгон, з трэскам кульнулася ў раку.

Б'ецца ў жудзе конь, яго галава то апускаецца ў ваду, то падымаецца. Ён натужыўся, пярэднія ногі ступілі на ўскраек берага, але цяжар на возе не пускае, цягне назад. Глыбіня дастатковая: цалкам закрые цела каня. З вады вытыркаецца толькі задняя вось кола, што яшчэ па інерцыі пакручваецца.

Язэп шпурнуў сярмягу, выхапіў нож, набраў поўныя грудзі паветра і шугануў з моста. Ён абмацаў аглоблю, пацягнуў яе ўверх, конь падняў галаву на паверхню. Хлопец намаганнем волі, імпэтным рухам разрэзаў гуж. Дуга, нібы спуджаная птушка, пстрыкнула з вады. Рэзкі скачок. Адзін, другі і — конь на беразе. Ён страпянуўся ўсім магутным целам, нібы вытрасаючы зло, і паскакаў уздоўж ракі, саграючы кроў, а праз хвіліну вярнуўся.

Хлопец вылез на бераг, ледзяная вада сціснула цела. Скінуў мокрае адзенне, закутаўся ў сярмягу.

— На яшчэ мой жупан.

Праз хвіліну разгарэлася вогнішча, пасылаючы выратавальнае цяпло.

Фактар нечаканасці адыграў злую ролю. Фурман не паспеў уцяміць, як хутка ўсё адбылося, а калі ачомаўся, то схапіўся за галаву і заплакаў:

— Што ж цяпер мне будзе? Добра, што хоць конь жывы…

Дзядзька падварушвае вогнішча, аддае агню ламачча і напружана ўглядаецца ў лес. І вось яго позірк зачапіўся за кусты, над якімі выраслі рухомыя постаці трох коннікаў.

— Нарэшце…

— Як вы дапусцілі такое! — разгневана крычыць казак, падыходзячы да мужчын.

— Паглядзіце, — паказваючы на разарваную шыю каня, лямантуе фурман. — Якая рана, слава Богу, хоць не смяротная. Нос у нос з ваўкамі…

Яго вялікія губы колеру жывой крыві з навіслымі над імі шчацінкамі, дрыжаць у невыказнай крыўдзе.

— Мы спазніліся, была ў нас сур'ёзная размова ў канцылярыі, — апраўдваючыся, сказаў унтэрафіцэр.

— Мы чакалі вас, — падтрымаў дзеда Язэп.

— Язэп, скачы на каня, і за мной, а вы заставайцеся, чакайце, там абмяркуем, як дастаць шкло з вады, — ваяўніча махнуў рукою казак і тузануў каня.

Дзядзька крыху супакоіўся, хаця яшчэ галава кружылася, праводзіў вачыма два сілуэты, што мільгалі паміж дрэвамі і дастаў самакрутку. "Не ўсё ж разбілася, заўтра дастануць, ды і казакі вінаватыя, — суцяшаўся ён. — Што тут зробіш, ужо нічога не паправіш, і так усё ясна". Ён падкідае галлё, пазірае на агонь, а ў полымі нібы згарае калючы страх. Весела патрэскваюць сучкі, падбадзёрваюць: вось, маўляў, цяпер чуткі пра гэтае здарэнне разнясуцца імгненна, і людзі будуць казаць: там, дзе Шкляны мост…

…Летняя кароткая ночка пачала асвятляцца сінім святлом, аднекуль над ракой праляцелі два самалёты, іх белапенныя сляды, як лейцы, правіслі над мостам. Тым самым — Шкляным.

XV Міжнародны тэатральны фестываль "Белая Вежа", які прайшоў у Брэсце, быў прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння вялікага рускага класіка літаратуры Антона Чэхава.



# Чэхаў, soundrama і...

На традыцыйнае для горада над Бугам тэатральнае свята з'ехаліся майстры сцэнічнага мастацтва з Арменіі, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Германіі, Ірана, Італіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Румыніі, Славеніі, Узбекістана, Украіны — усяго з 19 краін. Беларусь была прадстаўлена тэатральнымі калектывамі Брэста, Віцебска, Гродна, чатырма тэатрамі Мінска. Як адзначыў падчас адкрыцця "Белай вежы" старшыня Брэсцкага аблвыканкама, старшыня аргкамітэта фестывалю Канстанцін Сумар, адзін з галоўных міжнародных форумаў краіны паспрыяе ўмацаванню дружбы і культурнаму абмену паміж краінамі — удзельніцамі фестывалю. А першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі назваў гэты фэст крыніцай новых творчых ідэй і натхнення, прыкметнай старонкай у культурным жыцці не толькі Брэста, але і ўсёй рэспублікі.

Упершыню тэатральнае свята праходзіла акрамя Брэста, у Пінску, Пружанах, Кобрыне, Баранавічах, Камянцы. Сярод удзельнікаў яго праграмы былі госці з Індыі — арт-група "Акіян". Самабытнае мастацтва гэтай усходняй краіны ўпершыню было прадстаўленае на "Белай Вежы". Таксама ўпершыню ў яе межах ладзіліся канцэрты брэсцкіх рок-музыкаў — гуртоў "СТПТЦ" і "Байкі BY", а таксама вядомага венгерскага джаз-бэнда "Djabe". Наогул, слова "ўпершыню" даволі часта гучала на сёлетнім фестывалі. Так, Львоўскі тэатр "Уваскрэсенне" прадставіў дзве версіі аднаго спектакля "Вішнёвы сад" — вулічную і сцэнічную. Упершыню ў Брэсце была асвоена мастацтвам яшчэ адна сцэнічная пляцоўка — у гарадскім парку імя 1 Мая. Упершыню брэсцкім гледачам быў прапанаваны і новы для іх жанр — саундрама: такі незвычайны спектакль "Вяселле" паводле аднайменнай п'есы А. Чэхава паказаў на ўрачыстым адкрыцці свята Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

У гэтай пастаноўцы, ажыццёўленай маскоўскім рэжысёрам Уладзімірам Панковым, знайшлося месца для элементаў драматычнага мастацтва і мюзікла, ёсць непасрэдны ўдзельнік сцэнічнага шлюбу па розліку — жывы вясельны аркестрык з музыкамі-маракамі. Уведзеныя персанажы-копіі, гэткія прыстасаванцы, якія паўтараюць адны і тыя ж фразы, рухі, агаляючы сваю пошласць, мяшчанства, бездухоўнасць — тое, супраць чаго выступаў у сваёй творчасці Антон Паўлавіч Чэхаў.

Менавіта яго юбілею прысвячаўся сёлетні фестываль. Падумаць толькі: прайшло больш як 100 гадоў з часу напісання знакамітай фразы "Мне душна! Дайце мне атмасферы!", а сярод нас па-ранейшаму жывуць Змяюкіны, ад якіх моташна і душна. І сёння Чэхаў сучасны. Вось чаму на "Белай Вежы" гледачы з непрыхаванай цікавасцю наведвалі спектаклі, пастаўленыя паводле яго твораў. "Тры сястры" Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы, "Чайка" Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра і "Чайка" Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, "Вішнёвы сад" Львоўскага тэатра "Уваскрэсенне", камічная опера Сяргея Картэса "Мядзведзь" у выкананні салістаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі ды сімфанічнага аркестра Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Аляксандра Сасноўскага, — усё гэта даніна чэхаўскай тэме. У большасці пастановак псіхалагічна тонкая драматургія пісьменніка звездала нямала эксперыментатарскіх змен, але захавала шчыры і цёплы голас Чэхава. Творчае наватарскае прачытанне рускага драматурга адчувалася ў монаспектаклі. "Мая Арыядна" Тэатра жывой паэзіі "Эмпірэй" з Мельбурна (Аўстралія). У аснове спектакля аднаго акцёра — гісторыя пра каханне з радасцямі і расчараваннямі. Унікальнасць сцэнічнай версіі ў тым, што прозу Чэхава дапоўніў сваёй вершаванай лірыкай, сугучнай перажываннем героя, сам выканаўца — Вячаслаў Мілер. Пастаноўшчык спектакля, ён таксама падабраў да яго музычнае афармленне і сыграў ролю — адзіную і непаўторную.

Зрэшты, смелы дух наватарства прысутнічаў і ў шэрагу спектакляў, пастаўленых не толькі паводле А. Чэхава: у іншых сцэнічных работах новае тэатральнае аблічча набылі Авідый, МакДонах, Цвейг, Бугаёў, Санаеў. Публіку захаплялі пераканаўчыя эмоцыі і пластычнае вырашэнне вобразаў, гарачая ігра без фальшу і майстэрства таленавітых артыстаў з розных краін. За восем фестывальных дзён на 13 сцэнічных пляцоўках выступілі 33 тэатральныя калектывы і паказалі 39 цікавых захапляльных спектакляў! Так што журы, якое ўзначальваў Алег Піваварaў — заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, сапраўдны член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі інфарматызацыі, галоўны рэдактар часопіса "Театральная жизнь", нялёгка было выбраць лепшага з лепшых.

Удзельнікам "Белай Вежы" было ўручана 15 дыпломаў. З іх чатыры ўзнагароды дасталіся беларускім артыстам: Васілю Мінічу за ролю настаўніка Медзвядзенкі ў спектаклі Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра "Чайка"; Вользе Жук за ролю Ірыны ў спектаклі "Тры сястры" Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы; рэжысёру спектакля "Чайка" Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Валерыю Анісенку — "За арыгінальнае асваенне новай мастацкай прасторы". Дыплом лаўрэата фестывалю "За маладзёжны эксперымент у сучаснай харэаграфіі" атрымаў Тэатр танца "Karakuli", Мінск. А Гран-пры "Белай вежы-2010" за спектакль "Калека з Іншымана" павёз у Расію Пермскі тэатр "У Моста".



Варта сказаць і пра жанравую разнастайнасць фестывалю. Афіша прапанавала гледачам абстрактны пластычны спектакль і тэатральна-харэаграфічную пастаноўку, пластычна-драматычную фантастыку і лялечнае відовішча, візуальна-мімічнае прадстаўленне, спектакль-розыгрыш, камічную оперу... І нават экстрэмальную псіхатэрапію: менавіта гэтак вызначыў жанр свайго спектакля "Top dogs, або Новыя гульні дарослых" рэжысёр Маскоўскага новага драматычнага тэатра Вячаслаў Далгачоў. Ён зрабіў пастаноўку паводле твора Урса Відмера. Празорлівы швейцарац напісаў гэтую п'есу 12 гадоў таму, нібыта прадчуваючы з'яўленне глабальнага эканамічнага крызісу, а разам з ім — трагічныя наступствы масавых звальненняў. "Бізнес — гэта вайна, здатная знішчыць твайго партнёра, разбурыць твае мары і свет вакол цябе", — з горыччу заўважае адзін з герояў спектакля. Дакументальная драма трывожыць і прымушае задумацца над рэаліямі сённяшняга дня — вешчуна будучыні. У крызісе чалавек нешта губляе, але і нешта набывае. Бо, акрамя прэстыжнай працы і вялікіх грошай, ёсць безліч іншых цікавых рэчаў і спраў, прынамсі, агульначалавечыя каштоўнасці. Менавіта пра іх — вечных, як само жыццё, — пісалі для нас Чэхаў і яго сабраты па пяры.

"Вы — шчаслівыя! — сказаў, звяртаючыся да публікі, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Літвы, член журы фестывалю Альгірдас Лаценас. — Увесь свет прайшоў перад вачамі Брэста. Не кожны горад можа дазволіць сабе 15 гадоў запар ладзіць міжнародны фестываль. Дзякуй за тое, што вы любіце тэатр!"

Алена КАПАЧОВА
г. Брэст

На здымках: сцэны са спектакляў "Чайка" Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі і "Вяселле" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Фота Валерыя Патапенкі і Аляксандра Дзмітрыева

## Радуемся разам

Эксперыментальны клас для ансамбля "Харошкі" фарміруецца на базе мінскай дзіцячай харэаграфічнай школы №2. Ініцыятыву знакамітага Беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля, за якім замацавалася трапнае званне — "Тэатр танца Валянціны Гаявой", падтрымалі Міністэрства культуры краіны ды ўпраўленне культуры Мінгарвыканкама. Займацца ў гэтым класе будуць дзеці 13-14 гадоў: з іх народная артыстка Беларусі, мастацкі кіраўнік "Харошак" В. Гаявая плануе рыхтаваць будучых артыстаў менавіта для свайго калектыву. Як паведамілі нам з Міністэрства культуры, усе выкладчыкі эксперыментальнага класа — у мінулым артысты гэтага ансамбля. Іх задача — перадаць выхаванцам не толькі сваё майстэрства, але і традыцыі, "фірмовы" стыль "Харошак" і, вядома ж, самаадданае захапленне беларускім народным танцам.

Вядомаму скульптару Анатолю Арцімовічу споўнілася 70. У яго былі выдатныя настаўнікі, карыфеі айчыннай мастацкай школы: А. Глебаў, А. Бембель. Захоўваючы лепшыя традыцыі сваіх старэйшых калег, Анатоль Яфімавіч дзеліцца прафесійным досведам са студэнтамі (выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў) і



плённа працуе — асабліва ў галіне манументальнай скульптуры. Яго творчы ўнёсак ёсць і ў знакамітым "Кургане Славы" пад Мінскам; і ў мемарыяле "Брэсцкая крэпасць-герой"; і ў комплексе Славы, прысвечаным героям мінулай вайны, у горадзе Алма-Аты (Казахстан). Вядомы А. Арцімовіч як аўтар помніка Герою Савецкага Саюза А. Гараўцу ў Віцебску, скульптурнай кампазіцыі, прысвечанай Рагнедзе ды Ізяславу, у горадзе Заслаўі, манументальнага рэльефа "Салідарнасць" на фасадзе аднаго з будынкаў па праспекце Пераможцаў у Мінску.

Персанальная выстаўка Аляксандра Кошалева "Карані", прымеркаваная да яго 50-годдзя, прайшла ў сталічным Палацы мастацтва. Наведвальнікам адкрыўся глыбокі і някідкі творчы свет шчырага і сціплага чалавека, які надзвычай чула ўспрымае і тонка перадае ціхае жыццё беларускай прыроды. Ці то афорты, ці то тэмперны жывапіс — незалежна ад тэхнікі пісьма творы А. Кошалева ўражваюць пранікілівай адухоўленасцю, ненадакучлівасцю філасофска-паэтычных абагульненняў, тонкай гармоніяй душэўнага стану і наваколля. Нязменная крыніца яго натхнення — краявіды роднай Брэстчыны.

"Детидетей" — гэта ўжо ў мінулым. Папулярны маладзёжны гурт, у якім вялі рэй артысты-купалаўцы Ганна Хітрык, Міхаіл Зуй і Дзмітрый Есяневіч, распаўся. Заўтра, 2 кастрычніка, у Рэспубліканскім палацы культуры ветэранаў Ганна Хітрык прэзентуе свой новы калектыў і новы праект — "Сундук (S*unduk)".

Лана ІВАНОВА

На здымку: "Прысвячэнне Курапатам" (бронза, граніт) — новы твор Анатоля Арцімовіча, датаваны 2010 годам, прадстаўлены на рэспубліканскай выстаўцы "Зямля пад белымі крыламі", што працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

Фота аўтара




25 верасня споўнілася 245 гадоў з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. З гэтай нагоды ў вёсцы Залессе на Смаргоншчыне, у яго сядзібе, што набыла легендарную славу пры жыцці свайго колішняга гаспадара, ладзілася свята. З раніцы сюды з'язджаліся госці: балазе, у тую суботу неба падаравала нам дзівоснае верасьнёвае лета. Свята, напоўненае музыкай, жыло ў прыгожай прыродзе гэтага смарагдавага раю, які восень яшчэ не паспела размаляваць сваімі кваецістымі фарбамі; жыло ў цёплай атмасферы пагодлівага дня і шчырых людскіх стасункаў...



# Па той бок вясёлкі

З Маладзечна сюды завітаў Мінскі абласны драматычны тэатр і паказаў свой фірмовы спектакль паводле заснаванай на дакументальным матэрыяле п'есы У. Драздова "Фантазія ля мінор", у новай пастановачнай версіі вядомы як "Паланэз на развітанне. (Драматычныя варыяцыі на тэмы М. Кл. Агінскага)". На зялёнай траве ў лёгкай засені ліп ажылі каларытныя персанажы батлейкі. Ля пасвяжэлых мураваных сцен абноўленага вадзянога млына, вызваленых ужо ад леташніх рыштаванняў, прыладзіліся смаргонскія музыкі. Моладзь з Міншчыны і Гродзеншчыны ладзіла рэканструкцыю шляхетнага балю XIX стагоддзя; спявала песні філаматаў...

На свята ў Залессе я ехала разам з Ансамблем салістаў "Класік-Авангард" Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Даведаўшыся ад яго мастацкага кіраўніка Уладзіміра Байдава, што канцэрт мае адбыцца ў самім палацы, засумнявалася: няўжо здарыўся цуд і неацэнная залацінка нашага духоўнага багацця, даведзены да заняпаду, занядбаны помнік нашай гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны ператварыўся ў той казачны куток даўніны, што паўстае ў не такіх ужо і фантастычных марах многіх беларусаў? Няма патрэбы распавядаць пра леташні візіт лімаўцаў у Залессе, пра сустрэчу са старшым навуковым супрацоўнікам музея-сядзібы, выпускніком Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, музыкам-самавукам, педагогам, знаўцам гісторыі Сяргеем Верамейчыкам: у "ЛіМе" была наша публікацыя (гл. нумар за 4. 09. 2009 г.). Магу толькі дадаць, што "сядзіба муз" Міхала Клеафаса з таго часу амаль не змянілася, але прагрэс усё-ткі ёсць.

Менавіта ў самім палацы, у памяшканні, якое толькі ўмоўна можна лічыць канцэртна-тэатральнай залай, "Класік-Авангард" разам з абаяльнай салісткай Яўгеніяй Каральчук наладзіў шыкоўны канцэрт, які суправаджала захапляльным асветніцкім каментарыем музыказнаўца Святлена Немагай, аўтар выбітнай навуковай кнігі "Жыццё і творчасць М. К. Агінскага ў каардынатах яго часу і культурнага асяроддзя". Мяккая выразная акустыка



выяўляла вартасці гучання сапрана сола і кожнага інструментальнага голасу: яркасць скрыпак, праніклівасць габоя, стрыманую пачуццёвасць фагота, далікатнасць ударных, тактоўнасць акцэнтаў "цяжкай" медзі... Публіка не зважала на няпручнасці, забывалася, што знаходзіцца ў цьмяным халодным памяшканні — быццам была зачараваная той нябачнай двухбаковай "духоўнай вясёлкай", пра якую гаварыла вядучая праграмы і якая адчувалася ў музыцы. Вясёлка, што перакінулася між Залессем Агінскага і Жалязовай Воляй юнага Шапэна, у самым першым фартэпіянным опусе якога прагучалі інтанацыі папулярнага твора яго куміра. Гэты твор — Паланэз ля мінор, створаны М. Кл. Агінскім у Залессі, а пазней названы "Развітанне з Радзімай"... Зрэшты, тут няма нічога дзіўнага ці выпадковага. Даследчыкі ўжо даказалі, што менавіта фартэпіянныя паланэзы Агінскага паўплывалі на развіццё гэтага жанру ў творчасці Шапэна.

Віртуозная сюіта найярчэйшых вобразаў М. Кл. Агінскага "Паланэз", кранальныя вакальныя інтэрпрэтацыі яго п'ес, а яшчэ нямала іншай рамантычнай музыкі — у тым ліку творы Напалеона Орды, з якім сябраваў Фрыдэрык Шапэн, і Войцаха Жыўнага, які быў першым настаўнікам польскага генія... Калі музыка захапляе, гаварыць пра яе немагчыма: лепей адзін раз пачуць. І не думаць пра адваротны бок сімвалічнай вясёлкі — арганізацыйна-фінансавыя праблемы, звязаныя з рэстаўрацыяй "Паўночных Афін"...

Начальнік аддзела культуры Смаргонскага райвыканкама Таццяна Ражава, падзякаваўшы музыкантам за канцэрт, выказала надзею на хуткую сустрэчу ў адрэстаўраванай зале палаца.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: знакавы камень з надпісам "Cieniom Kosciuszki" — сядзібны мемарыял гаспадара "Паўночных Афінаў" у гонар загінулых п а т р ы ё т а ў - п а ў с т а н ц а ў; Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава і спявачка Яўгенія Каральчук падчас канцэрта ў зале палаца; мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання "Беларуская Капэла", заслужаны артыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Віктар Скорабагатаў і старшы навуковы супрацоўнік музея-сядзібы "Залессе" Сяргей Верамейчык; палац Міхала Клеафаса Агінскага ў чаканні рэстаўрацыі.

Фота Віктара Кавалёва і аўтара



На пачатку гэтага тыдня Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" выступіў з канцэртам "Вянок Шапэну" ў Варшаве. У праграму, апроч твораў геніяльнага польскага кампазітара, чыё 200-годдзе адзначаецца сёлета ва ўсім свеце, нашы выканаўцы ўключылі музыку Войцаха Жыўнага, Антонія Арлоўскага, Мечыслава Карловіча, Станіслава Манюшкі, Напалеона Орды і, вядома ж, Міхала Клеафаса Агінскага. Канцэрт калектыву пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава, прысвечаны Году Шапэна і яго юбілею, ладзіўся па запрашэнні Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы. Музыканты выступалі ў прыгожым, па-каралеўску шыкоўным інтэр'еры Вілянаўскага палаца ў Варшаве, дзе іх слухала дыпламатычная эліта, прадстаўнікі многіх дзяржаў, акрэдытаваныя ў суседняй краіне. Як паведамілі нам з Міністэрства культуры Беларусі, гэты канцэрт, безумоўна, паспрые далейшаму развіццю беларуска-польскіх стасункаў, захаванню традыцый айчыннага класічнага выканальніцкага майстэрства.

# Музыка святкуе...

Сёння, у Міжнародны дзень музыкі, адкрывае свой XXII сезон Віцебская абласная філармонія: тут адбудзецца канцэрт Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь. А ў сталічнай філармоніі свята музыкі пройдзе з удзелам французскіх гасцей Магалі Лежэ (сапрана) і Рэмі Кардынaль (фартэпіяна). Прагучаць мазуркі Фрыдэрыка Шапэна і Паліны Віярдо — папулярныя фартэпіянныя п'есы ды іх перакладзенні для голасу. Святочны канцэрт, прысвечаны Міжнароднаму дню музыкі, адбудзецца заўтра пад кіраўніцтвам маэстра Віктара Пласкіны на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. У праграме "Сімфанічны Вялікага прадстаўляе..." — уверцюра з оперы Карла Марыі Вебера "Аберон" і Рэ мінорны канцэрт Яна Сібеліуса для скрыпкі з аркестрам. Саліраваць будзе вядомая ў свеце 16-гадовая скрыпачка, лаўрэат міжнародных конкурсаў Эстэр Юу. Нарадзілася яна ў ЗША, музыкай займаецца з 4,5 гадоў, сёння — салістка Лонданскага філарманічнага аркестра і студэнтка Мюнхенскай вышэйшай школы музыкі, адначасова ўдасканальваецца ў прафесіі, наведваючы класы выдатных майстроў, вывучае сальфеджыа і тэорыю музыкі, захапляецца спевамі, шмат гастралюе.

Лана ІВАНОВА

Ад прадзедаў...

## Слова краязнаўцы

Галіна Кавальчук, старшы навуковы супрацоўнік Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея, расказвае пра краязнаўцаў-землякоў:

— На Навагрудскай зямлі шмат цікавых людзей, якія даследуюць гісторыю роднага краю, збіраюць звесткі, удзельнічаюць у раскопках, дапамагаюць і спрыяюць працы краязнаўчага музея — М.Вінар, Р.Лецка, Т.Царук, М.Гайба. Можна смела сказаць, што яны прысвяцілі жыццё і працу вывучэнню гісторыі Радзімы. Дзякуючы энтузіязму і намаганням Н.П.Шурак распачаў сваю працу наш краязнаўчы музей. Яна, актыўны збіральнік і захавальнік гістарычных скарбаў, прыклала шмат намаганняў для аднаўлення культурных каштоўнасцей роднага краю. Жанчына многа ездзіла, а то і хадзіла па вёсках, гутарыла з людзьмі, запісвала расказаныя імі гісторыі. Усе жыхары ваколіц, у каго ні спытайся, ведаюць яе як добрую і шчырую жанчыну.

Хоць музей адносна малады (заснаваны ў 1987 годзе), яго фонды налічваюць больш за 20 тысяч адзінак, сярод якіх шмат прадметаў, прынесеных жыхарамі Навагрудка і ваколіц. Супрацоўнікі музея імкнуцца падтрымліваць кантакты з людзьмі, якія цікавяцца мінуўшчынай краю і любяць гісторыю. Часта людзі, не з'яўляючыся прафесійнымі гісторыкамі, краязнаўцамі, музеязнаўцамі, сумленна і плённа дапамагаюць у працы музея як пазаштатныя супрацоўнікі. Мы праводзім краязнаўчыя семінары з настаўнікамі гісторыі і работнікамі культуры Навагрудчыны, займаемся адукацыйнай дзейнасцю, распрацоўваем дэталёвыя экскурсійныя маршруты па ваколіцах Навагрудка і па Гродзенскай вобласці. Нашы супрацоўнікі праходзяць стажыроўкі ў Польшчы, падчас якіх дзеляцца вопытам з замежнымі калегамі, пераймаюць усё самае лепшае.

## Працяг лунінецкай «Памяці»

Журналістка з Лунінца Тацяна Канапацкая — вядомы на Берасцейшчыне і ў Беларусі краязнаўца. У свой час дзякуючы яе ініцыятыве пабачыла свет гісторыка-дакументальная хроніка Лунінецкага раёна "Памяць". Але на гэтым даследчыцкая, збіральніцкая праца Тацяны Васільеўны не спынілася. Развіццю краязнаўчай прасторы ў рэгіёне садзейнічалі штогадовыя дні памяці Аляксандра Блока і пісьменніка-земляка Міколы Калінковіча, а таксама літаратурна-краязнаўчыя і навукова-практычныя канферэнцыі памяці Міколы Калінковіча, па выніках якіх выдаюцца краязнаўчыя зборнікі з агульнай назвай "Лунінецкая памяць".

Сёлета ў Мінску пабачыла свет чацвёртая па ліку кніга лунінецкіх гісторыка-краязнаўчых доследаў. Па традыцыі запіс успамінаў, рэдагаванне і ўкладанне належаць Тацяне Канапацкай. На старонках зборніка чытач адкрые для сябе падрабязнасці будаўніцтва ў Лунінцы праваслаўнага храма напрыканцы XIX стагоддзя, жыццяпіс чыгуначных цэркваў станцыі Лунінец, лёсы святароў, якія нарадзіліся альбо служылі ў гэтых мясцінах. Укладальнік зборніка "Лунінецкая памяць. Дадатак 4: Духоўнасць" прапануе ўвазе чытачоў і шраг выступленняў з розных перыядычных выданняў. Яны лагічна дапаўняюць карціну праваслаўнага жыцця ў палескім краі.

Новы "дадатак" да лунінецкай "Памяці" — важкі ўнёсак у краязнаўства Берасцейшчыны, увогуле ў праваслаўнае краязнаўства Беларусі.

Сяргей ШЫЧКО

Музейны ўнікат

# Рарытэты з дома Багушэвічаў

Імя Францішка Багушэвіча добра вядома на ашмянскай зямлі, бо непадалёк ад Ашмян, у вёсцы Кушляны, якая, як і горад Смаргонь, уваходзіла калісьці ў Ашмянскі павет, нейкі час жыў пачынальнік беларускай літаратуры. Пахаваны ён на вясковых могілках у Жупранах, за дванаццаць кіламетраў ад горада. Імя паэта носяць Ашмянскі краязнаўчы музей, вуліца ў райцэнтры, Жупранская сярэдняя школа.



— У Жупранах ёсць і помнік Францішку Багушэвічу, а ў мясцовай школе — яго музей, — расказала дырэктар Ашмянскага краязнаўчага музея Жанна Іванова. — Цяпер мы рыхтуем новую экспазіцыю, дзе, як і раней, будзе вялікі раздзел, прысвечаны знакамітаму паэту.

Менавіта ў ашмянскім музеі можна ўбачыць унікальныя рэчы, звязаныя з жыццём сям'і Францішка Багушэвіча. Перш за ўсё гэта прадметы мэблі — два крэслы і кансоль (падстаўка для кветак у выглядзе калонкі) і настольнае люстэрка з шуфлядкай. Больш як трыццаць год таму іх передалі ў музей з Кушлян. Пакуль там не было музея паэта, маёмасцю Багушэвічаў доўгі час апекаваўся Міхал Ляпеха, чалавек, улюбёны ў Багушэвіча слова.

Яшчэ дзве рэчы з дома Багушэвічаў можна ўбачыць у Ашмянах — гэта мармуровая ваза і драўляная попельніца. На жаль, ніякіх пазнак (прынамсі, дзе выраблены і ў якім годзе) на іх няма.

— Паколькі наш музей — краязнаўчы, то ў ім сабраныя самыя розныя прадметы, — заўважае Жанна Іванаўна.— Сярод іх — жырандоля (фігурны падсвечнік для некалькіх свечак), якая патрабуе пільнай увагі рэстаўратараў. Колькі ёй год, немагчыма сказаць. Мо больш за сотню. Знайшлі рарытэт у адной з вёсак Ашмянскага раёна. Дакладна вядома, што ў Гродзенскай вобласці другой такой няма.

Раіса МАРЧУК

На здымках: мэбля і ваза з дома Багушэвічаў; дырэктар музея Жанна Іванова дэманструе жырандолю.

Фота аўтара

# Ад звера бягучага, ад гада паўзучага...

Паляванне і жывёлагадоўля — старадаўнія заняткі чалавецтва, яны спрадвеку існавалі поруч. Таму разам з паляўнічымі ў старажытных людзей асаблівай пашанай карысталіся і пастухі. Яны — галоўныя персанажы ў абрадах і вераваннях, звязаных з абаронай і аховай свойскай жывёлы. Як і паляўнічы, пастух валодае магічнымі і знахарскімі здольнасцямі, кантактуе з духамі палёў і лясоў, разумее мову жывёл. Толькі ў адрозненне ад паляўнічых, у пастухі бралі людзей не вельмі моцнага здароўя, няздольных да земляробчай працы. Да таго ж, яны, як правіла, былі беднымі і беззямельнымі, у народзе іх называлі "бабылямі". Затое, паводле павер'яў, пастух валодае божай сілай, з дапамогаю якой уплывае на статак і выратоўвае яго ад усялякіх бедаў. Больш таго, згодна з легендамі і паданнямі нашага народа, падчас выпасу жывёлы стомленыя пастухі засынаюць і бачаць незвычайныя сны, дзе ім з'яўляецца Божая Маці, Хрыстос, іншыя святыя. Яны настойліва раяць ушанаваць тое месца, дзе спыняецца статак, зрабіць там прошчу. Прачнуўшыся, падпасак і сапраўды знаходзіць у названым яму месцы дзіўную крыніцу, якая дапамагае ад хвароб, або цудадзейны абраз. Узгадайце знакаміты Жыровіцкі абраз, як распавядае паданне, яго знайшлі ў лесе менавіта пастушкі.

Беларусы спрадвеку лічылі: каб свойская жывёла пладзілася і не хварэла, пастух таемна складае з лесавіком дамову, у выніку якой аддае яму лепшую карову або авечку. Пры гэтым пастуху забараняецца збіраць лясныя ягады і грыбы, адганяць камароў і мух, бурыць мурашнікі. Сваю дамову пастух замацоўвае спецыяльнай замовай, абыходзіць вакол статка з замком і ключом, кідае зачынены замок у лесе, закопвае паперу з замовай у защышным месцы, дзе і пакідае яе да канца выпасу жывёлы. Раней на Палессі пастухі нават не стрыгліся ўсё лета і не мелі палавых зносінаў, а каб жывёла не патрапіла ў воўчую пастку, не бралі з сабою ў поле нож і іншыя вострыя рэчы.

Якое боства ўшаноўвалі пастухі, каго лічылі сваім настаўнікам?

У старажытных грэкаў гэта быў Пан — вялікі бог лясоў, пашы, казлінай скуры і пастухоў. Ён жыў у гротах, блукаў па гарах, скалах і далінах, пераследаваў німфаў, займаўся паляваннем. А яшчэ ён вельмі любіў музыку. Як сцвярджае легенда, Пан з'яўляецца вынаходнікам жалейкі і флейты, на якіх сам граў па-майстэрску і вучыў граць іншых. Магчыма, згоны вобраз нейкім чынам паўплываў на чароўных пастушкоў-музыкаў з беларускага фальклору, якія разумеюць мову раслінаў і жывёлаў, а сваім граннем на жалейцы ўслаўляюць сялянскае шчасце і дабрабыт. Часам замест жалейкі ў фальклоры згадваюцца вялізныя трубы з альховае кары або зробленыя з крывога сука, у якія пастухі "трубяць на розныя лады так гожэ, што аж заслухацца". Як бог казлінай скуры, як дзікіх, так і свойскіх жывёлаў, Пан ахоўваў і павялічваў іх плоднасць. Ён быў сынам Гермеса, які ў грэкаў таксама лічыўся ахоўнікам статкаў і ўшаноўваўся як пастыр памерлых душ. Таму, напэўна, у раннім хрысціянскім мастацтве выява Хрыста з баранам або ягнём на плячы перагукалася з уяўленнямі пра даўняга бога элінаў — Гермеса. "Пастухамі" ў розных міфалагічных сістэмах названы наступныя багі: Ахурамазда, Пушан, Мітра, Агні, Апалон, Думузі. Надзвычай важную ролю вобраз пастуха адыгрывае ў жывёлагадоўчых традыцыях. У старажытных яўрэяў сам бог Яхве — пастух, зямля падобная да пашы, а людзі — да жывёл, якіх ахоўвае Яхве. Дый і Анёл Гасподні пра нараджэнне Збаўцы найперш паведамляе менавіта пастухам. Іншыя сімвалы добрага пастыра і правадыра ўвасоблены ў богу Ра і пастушым посаху фараонаў Старажытнага Егіпта. Тое самае можна сказаць пра іранскага бога-ахоўніка жывёл і людзей — Яму і тыбецкага духоўнага і свецкага лідара далай-ламу.



А хто з беларускіх багоў апякуецца свойскай жывёлай і пастухамі? З міфалогіі вядома, што гэта Вялес. Бог багацця і падземнага свету, які валодае агромністымі статкамі жывёл і з'яўляецца іх ахоўнікам, пастухом. Сувязь з тагасветам і смерцю накладае на яго і пастырскія функцыі — прыглядаць за душамі памерлых. А паводле "Слова пра паход Ігаравы", дзе Баян названы "Вялесавым унукам", ён яшчэ і бог паэзіі. Як і сіцылійскі боскі пастух Дафніс — стваральнік пастаральных песень і вершаў. Богам-пастухом у традыцыйных вераваннях беларусаў выступае і Святы Юр'я, які ахоўвае жывёл ад хвароб, ведзьмакоў і драпежнікаў. Ён замыкае пашчы дзікім звярам, пасля чаго тыя не маюць права нападаць на свойскую жывёлу. Нездарма пастухі, выганяючы быдла на пашу, чыталі замову: "Святы Юр'я-Георгій, заступнікі Божы, заступі маю скацінку на ранніх росах, на позніх зорах ад звера бягучага, ад гада паўзучага і ад ведзьмы-чарадзейніцы".

Пазней функцыі багоў перайшлі на іх верных служак — пастухоў, якія раней, безумоўна, выконвалі ролю жрацоў дадзенага культу. Яшчэ зусім нядаўна сярод усіх славян быў распаўсюджаны звычай ушаноўваць пастухоў на пэўнае каляндарнае свята. Найбольш маштабна гэта адбывалася на Юр'я, калі першы раз выганялі жывёлу ў поле, і ў Міколаў дзень. (Як лічаць навукоўцы, Святы Мікалай з прыходам хрысціянства ўвабраў у сябе рысы Вялеса). У гэтыя дні пастуха частавалі ў хатах, а ў полі смажылі яечню. На Смаленшчыне прыгатаванне пастухамі і падпаскамі яечні ператваралася ў складаны абрад, мэтай якога было: "каб звер не пабачыў, не зачапіў скацінку", "каб у звера не разамкнуліся зубы" і гд. На Юр'я у некаторых рэгіёнах Беларусі, таксама як і на Вялікдзень, фарбавалі яйкі ў чырвоны колер і разам з іншай ежай давалі пастуху перад выпасам статку. Але тое яйка ён не еў, беражліва насіў цэлы дзень, а ўвечары прыносіў яго дадому. Гэта рабілася дзеля таго, каб "гавядо наядалася й было круглае бы яйцо". Сусветна вядомы фалькларыст і этнограф Аляксандр Сержпутоўскі пісаў: "...пастухі на Юр'я святкуюць лепш, як на Вялікдзень, бо іх кормяць, пояць, годзяць ім, як дарагім гасцям, каб толькі яны добрэ пілнавалі гаўяло да не пускалі яго ў шкоду". Часам пастухі самі хадзілі па хатах і збіралі падарункі, але часцей пастух стаяў за вёскай і браў ад людзей боханы хлеба, бліны, грошы і тканыя палотны. Увечары частаванне заканчвалася музыкай, традыцыйнымі песнямі і танцамі. У заходніх раёнах Беларусі існаваў абрад выбараў "караля пастухоў". Ім рабіўся той, хто першы прыгнаў жывёлу на пашу.

Пастуху адводзілася важная роля і ў абрадах, якія абаранялі жывёлу ад пошасці і розных хваробаў. Ён здабываў "жывы агонь" для ачышчальнага вогнішча, праганяў статак скрозь такое вогнішча або скрозь выкапаны ў зямлі роў. Што датычыцца звычаю праганяць жывёлу скрозь дым вогнішчаў, каб выратаваць яе ад паморку і ўсялякіх пашкоджанняў, тут варта згадаць старажытных рымлянаў. Яны таксама ачышчалі свае статкі, праганялі іх паміж палаючых стагоў сена або вогнішчаў з галінак сасны, лаўра, алівы. А звычай ачышчальных майскіх вогнішчаў быў папулярны па ўсёй Еўропе на працягу стагоддзяў.

Паступова таямніцы старажытнай прафесіі пастуха сыходзілі і працягваюць сыходзіць у нябыт, страчваецца яе сакральнасць. Добра гэта ці кепска? Я лічу, што кепска. Мы міжволі губляем сувязь з прыродай, не разумеем і аддаляемся ад яе.

Ірына КЛІМКОВІЧ

Яшчэ ў 1991 годзе Барыса Косціна, тады аўтара толькі трох кніг, прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР. За два дзесяцігоддзі літаратар вырас у прыкметнага гістарычнага пісьменніка. І, што адметна, кола зацікаўленняў Барыса Акімавіча, які нарадзіўся ў Томску, а жыве цяпер у Санкт-Пецярбургу, нязменна звязана са старажытнай, часам і не такой ужо далёкай гісторыяй беларуска-расійскага памежжа, лёсамі гістарычных персанажаў, і што цікава — з самых розных пунктаў гледжання — і ў Расіі, і ў Беларусі. З Барысам Косціным і сустрэўся наш карэспандэнт.



# Агульнасць гістарычных лёсаў

— Барыс Акімавіч, ведаю, што вы доўгі час служылі ў войску. Раскажыце, калі ласка, як афіцэр-дэсантнік прыйшоў у літаратуру…

— Калі жартам, то дэсантнікі, як вядома, прызямляюцца на ногі. Я ж умудрыўся аднойчы моцна грукнуцца галавой аб зямлю-матухну… Пісьменнікамі так проста не становяцца.

А калі ўсур'ёз, то мой родны горад, Санкт-Пецярбург, — сапраўдны скарб для чалавека, ад прыроды надзеленага пачуццём прыгожага. Яно прыйшло ў спадчыну ад бацькі і маці, а ўжо далей яго развілі выдатныя школьныя педагогі, якім я бясконца ўдзячны. Яны мяне ўзбагацілі думкай Цыцэрона: "Не ведаць таго, што было да цябе, значыць усё жыццё заставацца ў дзяцінстве".

Армейскі шлях пачынаўся ў Пскове, затым былі Разань, Віцебск, Саратаў і іншыя гарады, што пранізаны наскрозь духам гісторыі. Гэта і падштурхнула мяне да зборальніцтва. Пачаў рабіць запісы і абураўся, які незваротны ўдар па мінуўшчыне нанесла багаборчая бальшавіцкая ўлада. Беларусь і, відавочна, болей за ўсіх старажытны славянскі горад Полацк у поўнай меры адчулі на сабе пяцігодкі бязбожжа. Дзякуй Богу, бяспамяцтва канула ў Лету.

Так нарадзілася думка данесці праўду пра белыя плямы гісторыі і ўзнавіць справядлівасць у адносінах да гістарычных асоб, незаслужана забытых альбо абылганых.

— Хто вашы першыя настаўнікі на літаратурных сцежках?

— Маімі настаўнікамі перш-наперш і сёння з'яўляюцца кнігі. Гэта сачыненні Плутарха, Карамзіна, Салаўёва, Ключэўскага, Віскаватава і інш. І ўсё ж на маім жыццёвым шляху трапіўся чалавек, які, можна сказаць, блаславіў мяне на падзвіжніцкую працу. На жаль, Юрый Іванавіч Селязнёў, загадчык серыі "Жыццё знакамітых людзей" выдавецтва "Молодая гвардия", ужо пайшоў з жыцця. Ён цвёрда адстойваў гістарычную праўду, з гневам ставіўся да тых, хто акапаўся ў ідэалагічным аддзеле ЦК КПСС. Ён не дазволіў упасці духам, калі на майго героя генерала М. Скобелева абрушылася ўся нянавісць партыйнага бонзы А. Якаўлева. Я патрапіў у "чорны спіс", а сама кніга пра "палкаводца, Сувораву роўнага", ішла да чытача больш дзесяці гадоў.

— І ўсё ж, чаму персанажам адной з першых сваіх біяграфічных кніг вы абралі менавіта Скобелева, які ў войнах не перамагаў, як Сувораў ці Кутузаў?..

— Вельмі ганаруся, што першым у СССР падняў на шчыт яго светлае імя. Да слова, цяпер ужо не многія ведаюць, што белы генерал з'яўляўся ганаровым грамадзянінам горада Мінска, а пасля яго загадкавай смерці адна з вуліц губернскага горада была названа яго іменем. Скобелеў — славянскі Гарыбальдзі. Менавіта такой яркай, прыцягальнай для простага чалавека постаці нам, рускім, беларусам, украінцам — не хапае. Адно спадзяванне на праваслаўную царкву, якая ў сваім служэнні Госпаду не раздзяляе нашы народы. А вось у культуры — калі не "раздрай", то багацце прарэх. І адным "Славянскім базарам", грандыёзным і, безумоўна, шматвартасным і паслядоўным творчым праектам, ад іх не пазбавіцца. Маё прыватнае меркаванне такое: за агульнаславянскі "круглы стол" павінны ўсё ж сесці міністры культуры і інфармацыі Расіі, Беларусі, Украіны, парламентарыі ад культуры. Здарыцца такое — пудовую свечку ў храме за іх здароўе пастаўлю. А адпраўныя кропкі для такой справы ёсць — Дзень славянскага пісьменства і Дзень Хрышчэння Русі.

— Адна з вашых кніг серыі "Жыццё знакамітых людзей" прысвечана Герою Савецкага Саюза генералу арміі Васілю Піліпавічу Маргелаву, камандуючаму паветрана-дэсантнымі войскамі. Дарэчы, хоць і нарадзіўся ў Днепрапятроўску, ён усё ж беларус. Наколькі складана было працаваць над гэтым творчым праектам? Вы самі асабіста сустракаліся з Маргелавым?

— Васіля Піліпавіча Маргелава я па праве лічу "другім бацькам". Першая сустрэча з камандуючым ПДВ адбылася 3 снежня 1962 года, напярэдадні прыняцця воінскай прысягі. Па заканчэнні "вучэбкі" Васіль Піліпавіч "спакусіў" мяне і іншых малодшых камандзіраў паступіць у Разанскае вышэйшае ваенна-дэсантнае вучылішча. У тую пару яно рыхтавала не толькі стравых афіцэраў, але і давала грунтоўныя веды па адной з замежных моў. У дыпломе ў мяне запісана — "ваенны перакладчык".

Сустрэчы з камандуючым варты асобнай гутаркі, менавіта яны дазволілі мне стварыць тэлефільм "Дэсантнік № 1", а затым напісаць кнігу, якая пабачыла свет у серыі "ЖЗЛ". Да юбілею, 80-годдзя ПДВ, які адзначаўся 2 жніўня 2010 года, я са сваім сябрам, Героем Расіі Аляксандрам Маргелавым падрыхтаваў другое выданне, выпраўленае і дапоўненае. Без лішняй сціпласці магу сказаць, што дзякуючы нашым намаганням на малой радзіме выдатнага сына беларускага народа, у Касцюковічах, была адкрыта Алея Герояў, і першы помнік на ёй быў усталяваны чалавеку-легендзе В.П. Маргелаву. Такая ж падзея да 100-годдзя В. П. Маргелава адбылася і ў Санкт-Пецярбургу.

— Пракаменціруйце, калі ласка, выказванне (яно належыць П. Бусту): "У гісторыі ёсць сваё шарлатанства: яно ставіць сваіх герояў удалечынь для таго, каб схаваць усё тое нізкае і абуральнае, што маецца ў іх рысах"… Ці даводзілася вам нешта замоўчваць у лёсах сваіх герояў?

— Існуе такое ёмістае паняцце як "спасціжэнне гісторыі", і аўтар, які бярэцца за стварэнне твора, павінен цвёрда вызначыцца з жанрам. Калі гэта "голая" навука — даказвай сваю канцэпцыю дакументамі, падмацоўвай рэальнымі фактамі, але не "высмактанымі з пальца". І самае галоўнае — не дагаджай, не падлашчвайся, не будзь кан'юнктуршчыкам.

У мастацкім творы пісьменнік — вольны казак. Ствараў, выдумвай, спрабуй, але не перагні, не перабольшы. Мастацкасць не азначае ўсёдазволенасць.

Але існуе яшчэ і трэці жанр — дакументальна-мастацкая проза. Я — яго верны прыхільнік і слуга. Гэты жанр наскрозь абвяргае псеўданавуковасць і памкненні зглядзіць вострыя вуглы і супярэчнасці. У аснове яго якасная літаратурная мова, жаданне давесці да чытача дахадліва і проста самыя складаныя паняцці, а ў раскрыцці гістарычных фактаў прыбегнуць да гіпотэз. Прызнаюся, часам за межамі маіх твораў застаюцца некаторыя чалавечыя слабасці герояў. Але ж мастацкая дакументалістыка — не бульварная літаратура.

— Вы спрабавалі рабіць фільм па кнізе "Уладзімір і Рагнеда". Ідэя, наколькі я разумею, досыць сімпатычная… Пра яе, здаецца, летась у газеце "Беларусь сегодня" досыць зацікаўлена і балюча выказаўся кінарэжысёр Юрый Елхаў. Ці ўдалося нейкія зрухі здзейсніць у гэтым кірунку?

— Вы гэтым пытаннем закранулі самае балючае. Напісана і выдадзена кніга "Уладзімір і Рагнеда", якая стала бібліяграфічнай рэдкасцю і якая знаходзіцца ў хатніх бібліятэках не толькі шараговых чытачоў, але і многіх дзяржаўных дзеячаў. Дзякуй вам, беларусам, што на Першым Нацыянальным тэлеканале, а яшчэ на тэлеканалах "Культура", "Звезда" і іншых прайшоў сюжэт у цыкле "Народ, издревле нам родной", які ярка і сакавіта, вобразна расказвае пра час драматычны. Пра лёсы людскія на пераломе веравызнанняў даведаліся мільёны гледачоў. Зусім нядаўна на "Радио России" прагучаў мой радыёспектакль "Уладзімір і Рагнеда". Паўтары гадзіны эфіру! Аўдыторыя ў сотні тысяч чалавек! А вось кінематаграфічны воз не зрушыць.

Я чалавек па натуры прамы: на вялікі жаль, і ў Расіі, і ў Беларусі ля кінематаграфічнага руля шмат людзей, якія далёкія не толькі "ад усіх важнейшых для нас мастацтваў", але і ўвогуле ад культуры.

Якія толькі глупстваў я, прафесійны літаратар і драматург, і мой таварыш, выдатны рэжысёр Юрый Аляксандравіч Елхаў, не наслухаліся. Зрабіў нават невялікую падборку з іх, якую можна смела змяшчаць у раздзеле "Знарок не прыдумаеш". Гасподзь ім суддзя. Але ўсім, хто за значнасцю і псеўдадзяржаўнасцю хавае худасочнасць мыслення, я даю водпаведзь у стылі паручыка Ржэўскага: "Не было на Русі такога кампота, каб я не дабіўся свайго", інакш грош цана мне як афіцэру-маргелаўцу.

— Барыс Акімавіч, калі не памыляюся, вы друкаваліся і ў беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісах "Нёман", "Маладосць"… З кім супрацоўнічалі? Хто вас падтрымаў у наладжванні творчых мастоў?

— З 28 год маёй армейскай службы болей паловы прыпадае на Чырванасцяжную Беларускую ваенную акругу. Служба ў Наваполацкім гарадскім ваенным камісарыяце, якой я, страявы камандзір, спярша быў не дужа рады, аказалася для мяне нечаканай ўражлівай на багацце сустрэч, без перабольшвання магу сказаць, з людзьмі ўнікальнымі. Выдатна ведаў легендарнага партызанскага камбрыга А.Марчанку, складаны характар якога аказаў "мядзведжую паслугу" партызанам. Аб іх геройскіх справах і да гэтага часу няма паўнавартаснай кнігі. Мне пашчасціла неадной размаўляць з Пятром Каратковым, генеральным дырэктарам Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода, які змагаўся на Ленінградскім фронце. Я захапляўся працоўнымі подзвігамі першабудаўнікоў, якія ў лічаныя гады ўзвялі Нафтаград на Дзвіне. У знак даніны іх памяці напісаў спачатку нарыс, які надрукавалі ў часопісе "Маладосць", а пасля пры падтрымцы Леаніда Дайнекі выдаў у Мінску кнігу "Правафланговы камсамола".

У часопісе "Нёман" супрацоўнічаў з Міхасём Стральцовым, Кастусём Тарасавым.

— Ведаю, што на вашым рабочым стале кніга пра Сімяона Полацкага… Як хутка прыйдзе яна да чытача?

— "Узвышанае і зямное" — так называецца тэлефільм, які арганічна ўпісаўся ў серыял "Народ, издревле нам родной". Зрабілі мы яго з Юрыем Елхавым па маім сцэнарыі, у аснове — рукапіс кнігі пра Сімяона Полацкага. Зацікавіць чыноўнікаў ад культуры ў фінансавай падтрымцы выдавецкага праекта, які складаецца з маёй кнігі, напісанай у лепшых традыцыях серыі "ЖЗЛ", і зборніка пропаведзей Сімяона Полацкага "Обед душевный", не ўдалося. І гэта ў год, калі ўся навуковая грамадскасць адзначала 380-годдзе вялікага славянскага асветніка. На навуковую канферэнцыю ў Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік ні нашы, ні вашы народныя выбраннікі ад Саюзнага парламента, ні прадстаўнікі міністэрстваў не з'явіліся. Не дужа ўважліва паставіліся да ўдзельнікаў канферэнцыі і СМІ. Сур'ёзна непакоюся, што і зборнік дакладаў і паведамленняў вядомых вучоных, даследчыкаў жыцця і дзейнасці Сімяона Полацкага не будзе выдадзены. У імя змешчаны і мой артыкул "Свет ёсць кніга". Па сваім сумным вопыце ведаю, наколькі цяжка знайсці ў Беларусі выдаўца, а тым болей мецэната ці арганізацыю, якія выдаткоўць матэрыяльную дапамогу. Знойдуцца такія — нізкі ім паклон…

Можна падумаць, што расійскія і беларускія чытачы, студэнты ўніверсітэтаў, у тым ліку і ў Полацку, маюць у сваім распараджэнні шмат літаратуры, прысвечанай працам асветніка.

— Якія творчыя асобы хвалююць гістарычнага пісьменніка Барыса Косціна?

— Не за гарамі 2012, год юбілею перамогі Расійскай імперыі ў Айчыннай вайне 1812 года. Поруч з воінамі рускага рэгулярнага войска мужна змагаліся з непрыяцелем беларускія партызаны, сыны Беларусі былі ў палках Гродзенскім гусарскім, Полацкім, Віцебскім, Магілёўскім і другіх. Я шмат гадоў біў у літаўры адносна таго, што перш чым узнаўляць нешта новае, неабходна аднавіць старое. У 1935 годзе кувалды вандалаў прайшліся па велічавых манументах у Полацку і Клясціцах, устаноўленых на месцах крывавых бітваў, прыроўненых да Барадзінскай. У Расіі 2012 год па ўказе Прэзідэнта будзе адзначацца на дзяржаўным узроўні. Вось бы нам, нашчадкам ратнай славы, сабраць ў Полацку каля адроджанага манумента і ва ўвесь голас грымнуць: "Гром победы, раздавайся!" Мая кніга з такою назвай выйшла ў Санкт-Пецярбургу пяць год таму, а самая запаветная мара — зрабіць тэлесерыял па ёй. Загадваць не буду, але прабіваць праект на ўзроўні Саюзнай дзяржавы імкнуся. Дзясяткі пііцерцаў паклалі галовы на беларускай зямлі. Дык няўжо мы гатовыя так лёгка гэта забыць?..

— Грамадзянскай мужнасці, настойлівасці вам, Барыс Акімавіч, і сіл у адстойванні праўдзівых гістарычных прыярытэтаў. Дзякуй за гутарку!

Гутарыў
Мікола МІРШЧЫНА,
г. Санкт-Пецярбург

## Культура слова

### Заўжды

Я ніколі не чуў у маёй вёсцы гэтае слова. Замест яго заўсёды скажуць толькі заўсёды. Не помню, каб сустракаў слова заўжды, прыкладам, у Кузьмы Чорнага. Не падаюць яго ў сваіх слоўніках І. Насовіч і І. Бялькевіч. Як мне здаецца, прыйшло яно ў нашу літаратурную мову з Украіны. Украінізм. І прыцягнулі яго сюды, няйначай, паэты: надта ж добра кладзецца яно ў вершаваныя радкі і лёгка рыфмуецца: заўжды — гады, вады, рады, пуды, нуды, руды, туды, сюды… Толькі ці варта пазычаць яго ў суседзяў, калі ў нас ёсць адпаведнае сваё, самабытнае і ёмкае — заўсёды?

### Праследаваць, праслед

Штучна ўтвораныя словы. Словы-хадулі. Па сутнасці, скалечыўшы рускія словы преследовать, преследование, мы зрабілі іх "беларускімі". Толькі нашто спатрэбілася такая аперацыя, калі ў нашай мове ёсць нямала сваіх адпаведнікаў гэтым словам. Возьмем рускую фразу: "Оккупационные власти преследовали его за это". Чым кепска яна будзе гучаць, калі мы перакладзём яе па-беларуску так: "Акупацыйныя ўлады цкавалі яго за гэта"? Або — даймалі, помсціліся, не давалі яму жыцця, чынілі ганенні? Ды яшчэ шмат іншых можна знайсці слоў, якія маглі б канкрэтызаваць гэтае преследование. Само ж преследование перакладзецца ў нас як ганенне.

### Завіранец

— Ну й завіранец! — кажа Віцька Шыкер, гледзячы, як, хуценька круцячы педалі, паджгаў па вуліцы на сваім веласіпедзіку яе праўнук, шасцігадовы Уладзік; праз хвіліну яна паварочваецца да мяне: — Ці вы яшчэ бачылі дзе такога завіранца?

Завіранец. Ну, ясна: ад карэннага — вір. Вельмі выразнае і зразумелае, чыста беларускае слова!

Ды от дзіва: няма яго ў слоўніках! Не можа быць, каб і ў іншых кутках Беларусі не гучала гэтае слова: яно ж само просіцца на язык. Вельмі шкада, што ні пісьменнікі, ні мовазнаўцы не ўлавілі яго, не замацавалі ў друку і не пусцілі ў шырокі свет. Так, у слоўніках падаюцца яго сінонімы — свавольнік, дураслівец, падшыванец, гарэза, шыбенік, вісус… Міхась Клышка сабраў іх у сваім "Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў" ажно дваццаць. Думаю, не з горшых быў бы ў гэтым шэрагу і наш завіранец.

Кастусь ЦВІРКА

## Прапаную

### Дзеля адметнасці

Як чытач газеты "ЛіМ" звяртаюся вось з якой прапановай. У Мінску працуе новы сучасны аэрапорт "Мінск-2". Але я заўважыў, што не толькі госці нашай сталіцы, але і самі жыхары горада часта блытаюцца ў назвах: аэрапорт "Мінск-1" (хоць ён амаль што не працуе) і аэрапорт "Мінск-2". А чаму б аэрапорт "Мінск-2" не назваць, скажам, "Аэрапорт Купала". Ёсць жа ў Ерэване "Аэрапорт Звартнац", у Варшаве — аэрапорт, названы ў гонар польскага кампазітара Фрэдэрыка Шапэна і г.д.

Хочацца, каб кожны госць нашай сталіцы адразу ж адчуў, што ён прыляцеў на беларускую зямлю. А Янка Купала, дарэчы, любіў добрых сяброў, у сваіх вершах ён апяваў дружбу між народамі.

Уладзімір ГОЛУБЕЎ,
чытач газеты "ЛіМ"
з 1968 г.

Заўважнай падзеяй у мастацкім жыцці краіны сталася III Мінская міжнародная выстаўка графікі "Арт-лінія". Гэты адметны праект Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, куратарам якога з'яўляецца загадчык яе аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці, старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб, прадставіў сёлета больш як 160 графічных работ, створаных мастакамі Балгарыі, Беларусі, Іспаніі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расійскай Федэрацыі, Славеніі, Украіны, Эстоніі ды іншых краін.



# Клан эстэтаў



Для большасці з нас "Арт-лінія" — рэдкасная магчымасць знаёміцца з тэндэнцыямі сучаснага мастацтва графікі не праз глянцавыя каталогі ці мультымедыйных пасрэднікаў, а праз рэальнае сузіранне яго ўзораў. Падзівіцца было на што. Работы, выкананыя ў традыцыйных і аўтарскіх тэхніках, з ужываннем лічбавага друку, прыёмаў камп'ютарнага калажу, фота і да т. п.; манахромныя, або чорна-белыя, або з выкарыстаннем усёй палітры вясёлкі ці выкшталцонай гамы шэрага колеру, — дэманстравалі вытанчаны артыстызм і бязмежную вынаходлівасць мастакоў. Выстаўка, адлюстраваўшы метамарфозы традыцый і подых свежых арт-павеваў, выканала галоўную задачу: раскрыла перспектывы графічнага мастацтва, пазначыўшы яго патэнцыял і здатнасць да пастаяннага абнаўлення ва ўмовах развіцця тэхнічных сродкаў.

Ва ўлонні экспазіцыі суіснавалі парадаксальныя праявы творчых індывідуальнасцей. Тут і стыльная строгасць серыі кніжных афортаў славенскага майстра Фелікса Караля, падобных да вытанчанай інтарсіі, у якой, паэўна, зашыфраваны нейкі сакральны сэнс. Тут і працяг дыхтоўнай, самавітай беларускай гасподы Рыгора Сітніцы — "Новы дом". Тут і светлыня манатыпій ужо знаёмай нам украінскай госці Галіны Бадзяковай. І эпатажна-брутальны "прынт" яе земляка Дабрыні Іванова, які размясціў на доўгіх вертыкальных папяровых палотнішчах адбіткі на-



крывак звычайных каналізацыйных люкаў: такія сустрэнеш на вуліцах і ў дварах, бадай, кожнага былога савецкага горада. Малюнкі гэтых чугунных "пячаткаў" адрозніваюцца ўзорам, нагадваючы то пчаліныя соты, то звівы хваляў, і ў рытміцы іх ліній ёсць нешта, здатнае настроіць на філасофскі лад... А эталонам успрымалася



рэтра-старонка выстаўкі — першы паказ літаграфій Джозафа Нэша з калекцыі НББ, які стаў сенсацыяй і загадкай (гл. "ЛіМ" за 30 красавіка — "Адкрылі... Англію!" і 14 мая гэтага года — "Загадка з туманнага Альбіёна").

Падводзячы вынікі міжнароднага творчага конкурсу "Арт-лінія 2010", старшыня журы, знаны беларускі творца Георгій Паплаўскі адзначыў: "Графіка ў параўнанні з жывапісам не такая кан'юнктурная: толькі чалавек з высокім эстэтычным густам набывае для свайго дома графічную работу. Мастакі-графікі — асаблівы клан: чысціня, эстэтыка, інжынерная дакладнасць тут у крыві. І хаця іх новае пакаленне ўсё больш звяртаецца да падсвядомасці гледача, бо мова графікі робіцца больш абстрактнай, закадзіраванай і ўніверсальнай, страчваючы нацыянальную, рэгіянальную адметнасць, вымагаючы дадатковага тлумачэння аўтарскай сімволікі, — сапраўдны талент ніколі не згубіцца ў самых складаных лабірынтах фармальных пошукаў".

Гран-пры сёлета не прысуджаўся. Але многія ўдзельнікі "Арт-лініі", у тым ліку нашы суайчыннікі, адзначаны дыпломамі рознай вартасці. Зрэшты, галоўнае, што мастакі мелі магчымасць паглядзець на сябе ў еўрапейскім кантэксце і пашырыць кола сваіх прафесійных стасункаў.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі; работы маладых мастачак, адзначаных дыпломамі І ступені, — Аляксандры Сідарэц (Украіна) ды Інгі Хеамягі (Эстонія); афорт ганаровага госця выстаўкі Фелікса Караля (Славенія).

Фота Віктара Кавалёва

# Шкляная рапсодыя

Напярэдадні вялікага нашага свята — Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь быў запалены агонь у нязгаснай лампадзе Храма-помніка ў гонар усіх святых, да будаўніцтва і аздаблення якога далучыліся многія вядомыя і маладыя беларускія мастакі. А хто ж аўтар гэтай строгай таемнай лампады, дзе цяпер у зеленаватым крышталёвым зззянні трапеча, пульсуе часцінка дабрадзейнага агню з храма Гасподняга ў Іерусаліме? У наш час, у адрозненне ад Сярэднявечча, творы культавага мастацтва захоўваюць імёны сваіх аўтараў. І мы ведаем, што металічную аздобу лампады выканаў Аляксандр Тухто, а праект выпрабленай у Барысаве цудадзейнай лампады — справа рук і душы аднаго з вядучых мастакоў па шкле, дацэнта кафедры дэкаратыўна- прыкладнога мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Людмілы Церах.

Сустрэча з ёю і з яе творамі — гэта сустрэча з музыкай, таму што, калі прыслухацца, у кожнага шкляннога выраба ёсць сваё гучанне. Ажыўленая дабрадзейным агнём лампада, як рэквіем па тых, хто загінуў у барацьбе за нашу свабоду... А дэкаратыўныя талеркі з галактычным касмічным узорам — як сімфонія вечнасці.

Але, як мне здаецца, найбольш адпавядае творчаму характару Людмілы Церах серыя надзвычай далікатных вытанчаных пасудзін, што нарадзіліся пад уплывам вобразаў антычнасці. Старажытныя грэкі ведалі мяжу дасканаласці і гармоніі. Сваю серыю Л. Церах назвала "Археалогія вады". Мо таму, што большасць такіх пасудзін археолагі дастаюць з мора? А можа, таму, што шкло, празрыстае і вабнае, — як вада і як гісторыя для тых, хто ўмее і хоча бачыць... "Шкло — матэрыял камерны, інтымны", — кажа Л. Церах. І ў гэтых словах — філасофія яе творчасці.

Людміла скончыла ў 1983 годзе Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер БДАМ), дзе набыла прафесію мастака па шкле, папрацавала ў Радашковічах — і яе захапіла не толькі творчасць, але і навука. Пасля аспірантуры шмат гадоў яна выкладае на кафедры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, была яе загадчыцай. Сярод выхаванцаў Людмілы Церах шмат вядомых сёння далёка за межамі Беларусі мастакоў. А сама яна не перастае здзіўляць новымі творчымі знаходкамі. Апошнім часам на фестывалях, конкурсах, спаборніцтвах распаўсюдзіліся менавіта шкляныя прызы. "Крыштальная Паўлінка", прыз імя М. Пташука для ўдзельнікаў кінафестывалю "Лістапад", прыз імя У. Мулявіна для эстрадных выканаўцаў, прызы тэнісных турніраў і яшчэ многія жаданыя для творчых людзей і спартсменаў узнагароды вынайшла Л. Церах. "Вынайшла" — бо, каб стварыць запамінальны вобраз, трэба не толькі адчуваць такі крохкі і далікатны матэрыял, як шкло, але і добра ведаць сучасны дызайн. Форма мусіць быць максімальна лаканічная і вобразная. І ўтрымліваць пэўны падтэкст. "Падарунак, які дорыце, — гэта вашы адносіны да свету, — слушна заўважае мастачка, у творах якой глыбокі падтэкст ёсць заўжды.

Апроч сучасных напрамкаў, і Людміла Церах, і яе студэнты выдатна ведаюць традыцыі — і не толькі беларускага шкларобства. Можа, хто са мною не пагодзіцца, але мне здаецца, толькі цяпер, у ХХІ стагоддзі, беларуская шкларобы пачалі гаварыць на роўных са сваімі па большасці безыменнымі слыннымі папярэднікамі з Урэцкай і Налібоцкай мануфактур. Дарэчы, на тых мануфактурах выраблялі не толькі посуд, але і люстэркі. Майстэрскае выкарыстанне каляровага шкла, гравіроўкі, аптычных эфектаў, у тым ліку і люстэркаў, — ці не самыя перспектыўныя сёння напрамкі творчых пошукаў. Целяханскі фаянс, добрушскі фарфор сёння славяцца і дзякуючы выпускнікам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Дарэчы, калі хочаце зазірнуць у будучыню нашага мастацтва, прыходзьце на абароны дыпломных работ у творчыя ВНУ. Дасюль у мяне перад вачамі дыпломны праект адной з вучаніц Л. Церах — Таццяны Гарон, якая зрабіла з люстэрак і шкла незвычайнае пано для кавярні "Гудвін". Сапраўднае мастацкае і дызайнерскае вынаходніцтва: зеленаватае святло так люстравалася ў адмысловых пастаўленых плоскасцях, што ажывала прастора залюстрэчча, дзе "чыталіся" і марскія водарасці, і чароўны горад, і цені казачных герояў. А сёлета ў дворыку акадэміі проста на зямлі, дакладней, пад зямлёй, з'явіўся "Калейдаскоп". Памятаеце, як мы ў дзяцінстве рабілі "сакрэцікі" — у зямлі, у ямцы пад шкельцамі? Вось такога кшталту, толькі вялікі "сакрэцік" з люстэркамі стварылі аўтары падземнага калейдаскопа — выхаванцы Л. Церах. А колькі яшчэ было незвычайных работ яе дыпломнікаў!

Людміла Церах вельмі дакладна адчувае індывідуальнасць кожнага студэнта. "Выкладчык не павінен навязваць вучням уласныя ідэі і вобразы. Трэба ўмець аддаваць усе свае веды і адначасова засцерагаць юных творцаў ад таго, каб яны рабіліся тваім падабенствам", — гаворыць яна. Мастачка перакананая, што ў сучаснага творцы мусіць быць вельмі шырокі кругагляд, каб кожная работа ўспрымалася як адкрыццё і як вобразны дыялог не толькі з сучаснікамі, але і з папярэднікамі, і з нашчадкамі. Толькі ў такім выпадку твор ніколі не састарэе і ў ім абавязкова застанецца адбітак вечнасці.

Сёлета Людміла Церах працавала ў журы Рэспубліканскага конкурсу "Зорка ўзышла над Беларуссю" і з вялікім захапленнем дзеліцца ўражаннямі: "Беларусь наша надзвычай багатая на таленты. І самае, бадай, важнае, што яшчэ засталіся напраўду райскія, аўтэнтычныя куточкі, дзе юныя майстры і мастакі маюць магчымасць пераймаць традыцыі народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з рук у рукі. Менавіта ў гэтым крыніца будучых здабыткаў нашага прафесійнага мастацтва. Дзякуючы конкурсу мы здолелі падтрымаць вельмі таленавітых юных мастакоў, многія з якіх, я ўпэўнена, звяжуць свой лёс з прафесійнай творчасцю".

На выстаўцы работ студэнтаў БДАМ я, разглядаючы творы выхаванцаў Людмілы Церах, спрабавала адчуць іх глыбіню, нябачную еднасць з творамі настаўніцы. Узіраючыся ў таямнічую шкляную кроплю, чарадзейны шар, я раптам адчула, убачыла, што ад іх зыходзіць спакойнае, мяккае святло, яны быццам выпраменьваюць цішыню і гармонію. Яны гучаць, як музыка, як чароўная рапсодыя.

Галіна БАГДАНАВА







На здымках: дэкаратыўныя талеркі і вазы з серыі "Археалогія вады" Людмілы Церах.



Другі месяц працягваецца рэспубліканскі фестываль сучаснага выяўленчага мастацтва "Зямля пад белымі крыламі", зладкаваны ў межах грамадска-культурнай акцыі "Беларусь — гэта мы!". Агледзіны айчынных творчых набыткаў праходзяць у буйных выставачных залах і галерэях розных гарадоў краіны з верасня па снежань. Дзякуючы такому маштабнаму, агульнанацыянальнаму праекту мастакі атрымалі магчымасць арганізоўваць перасоўныя абменныя экспазіцыі. Напрыклад, у Гродне да 3 кастрычніка працуе выстаўка работ брэсцкіх жывапісцаў, графікаў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ды аўтараў канцэптуальных праектаў. Іх гродзенскія калегі прадставілі ў Брэсце свае жывапісныя палотны, графіку, станковыя скульптуры. А сталічная публіка знаёміцца з выстаўкай "Зямля пад белымі крыламі", разгорнутай у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі да 4 кастрычніка.



# Пад родным крылом

(Працяг. Пачатак у № 37)

Звяртаю ўвагу шаноўных чытачоў на лічбы, і не дзеля таго, каб "алгебрай гармонію праверыць" або задаволіць цікаўнасць аматараў статыстыкі. Лічбы (названыя, дарэчы, яшчэ ў нашай першай публікацыі пра сталічную выстаўку "Зямля пад белымі крыламі") нейкім чынам патлумачаць, чаму гэтыя сціплыя нататкі не могуць прэтэндаваць на больш-менш поўны і абагульнены агляд грандыёзнай экспазіцыі. Дык вось, у фае, залах першага паверха і на галерэі Нацыянальнага мастацкага музея размясціліся 243 творы (жывапіс, графіка, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва) 148 аўтараў. Увіце, як выглядаў бы выставачны альбом-каталог з поўным пералікам імёнаў і твораў — мабыць, як кароткая энцыклапедыя беларускага мастацтва другой паловы XX — першай дзесяцігодкі XXI стагоддзяў!

Удзячнасці заслугоўвае праца тых, каму давялося размяшчаць неверагодную колькасць разнажанравых, рознастылёвых твораў у музейнай прасторы: няма сумніву, гэтыя людзі мусілі зважаць не толькі на эстэтычныя, але і на канцэптуальныя, і на пэўныя кан'юнктурныя, "іерархічныя" крытэрыі, дый на амбіцыйнасць дакткліваых творчых асоб. Пры ўсіх "за" і "супраць", што выказалі кампетэнтныя наведвальнікі вернісажа, экспазіцыя сталася прывабным і красамоўным люстрункам нашага мастацкага жыцця, яго атавізмаў, яго дынамікі, яго перспектыў.

Арганізатары выстаўкі прадставілі яе як экспазіцыю твораў 1990 — 2000-х гадоў, перыяду існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь, калі ва ўсіх жанрах і відах мастацтва пашырыліся абсягі пошукаў, пазначыліся новыя ракурсы традыцыйных тэм і вобразаў, раскрылася багацце мастацкіх плыняў і аўтарскіх прыёмаў. Асноўнымі экспанентамі сталі народныя мастакі, заслужаныя дзеячы мастацтваў, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі — аўтары, якія сёння актыўна і плённа працуюць. Побач з імі годна выглядаюць ужо вядомыя прадстаўнікі пакалення "next" — стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Большасць работ і сапраўды датаваная 1995 — 2010 гадамі. Але з імі чамусьці суседнічаюць ужо хрэстаматыйныя творы 1980-х і нават 1960-х. Арганізатараў выставачнага праекта можна было б і ўпікнуць за непаслядоўнасць, калі б не іх спасылка на тое, што ў выстаўку таксама ўключаныя знакавыя творы мастацтва другой паловы мінулага стагоддзя, якія лічацца выразнымі ўзорамі беларускага мастацтва таго перыяду.







Які ж творчы набытак мае "Зямля пад белымі крыламі" — сімвалічнымі крыламі беларускіх буслоў, нарачанскіх чаек і лебедзяў, белых галубоў і наўгледных анёлаў — ахоўнікаў Богам дадзеных талентаў?

Гэта хрэстаматыйны і найноўшы жывапіс класікаў: В. Цвіркі, М. Савіцкага, В. Грамыкі, Г. Вашчанкі, Л. Шчамялёва; знакамітыя "Партрэт скульптара А. А. Анікейчыка" М. Данцыга, "Снежныя зімы. Партрэт пісьменніка Івана Шамякіна" Н. Шчаснай і "Партрэт Р. Р. Шырмы" У. Стальмашонка. Гэта палотны У. Тоўсціка, В. Альшэўскага, У. Зінкевіча, Л. Дударэнкі, У. Уродніча, Э. Рымаровіча, А. Кузняцова. Гэта пейзажы М. Казлоўскага, В. Шкарубы, В. Барабанцава, В. Мішчанкі, А. Грышкевіча, У. Пракапцова. Гэта пранізлівы "Сум пакінутых вёсак" В. Ціханава і мядова-сонечная "Грацыя-1" С. Цімохава. Гэта віртуозны акварэльны жывапіс Г. Шутава; фантастычныя афорты В. Славука; застылая, але жывая музыка "Замка" Р. Сітніцы. Узор кніжнай графікі ў ілюстрацыях В. Шаранговіча да паэмы А. Міцкевіча "Пан Тадэвуш" і серыя аркушаў "Наша дзяцінства" (папера, гравюра на асфальце) Э. Агуновіча...

Творы скульптараў розных пакаленняў — у кожнай зале і на галерэі. Леў Гумілеўскі паўстае сапраўдным нацыянальным класікам: "Ценям Касцюшкі", "Я адплаціў народу, чым моц мая магла... Янка Купала", "Уладзімір Караткевіч"... Летась 85-гадовы А. Заспіцкі стварыў (да юбілею вызвалення Беларусі ад гітлераўскага нашэсця) бронзавую скульптуру "Сустрэча", якая арганічна ўвайшла ў экспазіцыю. Яго калега І. Міско, знаны партрэтыст герояў космасу, прапанаваў і выявы герояў зямных. Прыгожыя бронзавыя торсы "Адама і Евы" С. Логвіна ўражваюць эстэтыкай эратызму і эмацыйнай чысцінёй; медальерная пластыка Л. Талбузіна, хоць і схаваная пад шклом вітрыны, прываблівае гледача: сілуменавы аверс ды бронзавы рэверс медаля, прысвечанага Ігару Стравінскаму; скульптар П. Лук увасобіў у бронзе постаці Адама Міцкевіча, Радзівіла"Пане Каханку", Тадэвуша Касцюшкі... А ў статуэтцы А. Фінскага "Адчуванне палёту", створанай яшчэ ў 1988 годзе, пазнаеш знаёмую ўсім "Залатую Ліцеру".

Што да твораў самых маладых — тут вылучаюцца майстэрствам, сталасцю, глыбінёй жывапісныя палотны 22-гадовай А. Скорабагатай (пра яе неаднойчы пісаў "ЛіМ")...

Пакідаючы выстаўку, абавязкова глянеш на габелен вядомага майстра Н. Пілюзінай "Зубр", гэты мудрагелісты і мудры, напоўнены матывамі беларускай дайніны, кветкамі ды святлом, сімвал нашай зямлі.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Г. Гаравая "Торс" (бронза); С. Абрамаў "Партрэт акадэміка М. А. Савіцкага" (папера, акварэль); А. Скорабагатая "Хочаш кавы?" (палатно, алей); У. Кожух "Зачараваная поўня" (палатно, алей); А. Асташоў "Якая пужае" (бронза, граніт); П. Лявонаў "Прысвячэнне Уладзіміру Мулявіну" (дрэва); А. Скавародка "Зямля В. Быкава" (палатно, алей); І. Міско "Казімір Семяновіч" (таніраваны гіпс); З. Літвінава "У прадчуванні збавення" (палатно, алей).

Фота аўтара













# Загучала восеньская ліра

Вось ужо два гады, як Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту плённа ажыццяўляе праект "Наш дом — Беларусь". Прадстаўнікі нацыянальных супольнасцей, якія жывуць у Беларусі, на тэрыторыі музея ладкуюць канцэрты, ствараюць святы: натхнёна выконваюць свае традыцыйныя нацыянальныя песні і танцы, паказваюць абрады — вясельныя, жніўныя ды іншыя.

Сярод гледачоў шмат маладзі, маладых сямей, якія прыходзяць сюды з дзецьмі і сваімі пажылымі бацькамі. Не толькі весялосць і добры настрой пануюць у такія дні, але выхоўваецца павага да сваіх суайчыннікаў, абуджаецца цікавасць да культуры іншых народаў, вытокаў іх умельства ды ўзбагачаецца свая, нацыянальная беларуская культура.

У такія дні ў музеі на ўсіх мовах у песнях і вершах, у інсцэніроўках славіцца радзіма і агульны дом — Беларусь, якая стала роднай розным народам. Людзі, незалежна ад іх нацыянальнасцей, бацькі і іх дзеці знаходзяць у нас разуменне, магчымасць жыць, працаваць, радавацца жыццю.

Невыпадкова гэты праект упершыню ўзнік як ідэя два гады таму — у дні святкавання Вялікай Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Падчас Вялікай Айчыннай вайны зямлю беларускую да апошняга дыхання, да апошняй кроплі крыві баранілі людзі розных нацыянальнасцей, не падзяляючы народнае гора і выпрабаванні на "сваё" і "чужое". Нашчадкі многіх з іх засталіся на Беларусі, паставілі дамы, пусцілі карані, але не забыліся і на сваю малую радзіму, адкуль родам былі іх дзяды і прадзеды. У іх ёсць магчымасць вывучаць мову сваіх продкаў, далучацца да іх культуры — і пры гэтым актыўна ўдзельнічаць у грамадскім, духоўным і культурным жыцці Беларусі.

Праект "Наш дом — Беларусь" мае добрую будучыню: з году ў год ён набірае моц. У яго рамках наведвальнікі музея ўжо мелі магчымасць пабываць на святах "Прывітанне, Арменія", " Вітаем тебе, Ненько Україно", "Стаіць шацёр, гарыць касцёр, цыгане танчаць і пяюць" ды іншых. Прадстаўнікі розных нацыянальных культур бліскуча і таленавіта дэманстравалі свае творчыя здольнасці, знаёмілі ўдзельнікаў свята са сваёй культурнай спадчынай. Гучалі песні, выконваліся танцы, уласцівыя рускім, украінцам, карэйцам і іншым народам.

У мінулую нядзелю Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту ў рамках пректа "Наш дом — Беларусь" запрасіў сваіх наведвальнікаў пазнаёміцца з непаўторнай мілагучнасцю спеваў і прыгажосцю танцаў літоўскага народа. Тут адбылося яркае, незабыўнае свята "Восеньская ліра".

Адносіны да песні ў нашых суседзяў-літоўцаў кранальныя: ні адзінае сямейнае свята не абыходзіцца без сумесных традыцыйных спеваў. Госці свята — прадстаўнікі Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання літоўцаў у Рэспубліцы Беларусь, якое ўзначальвае старшыня Віталія Калеснікава; калектыў "Дзімгелітэ" і народныя ансамблі з Літвы "Рудзінелес" і "Ліра" — падарылі прысутным незабыўную радасць сустрэчы з літоўскай народнай культурай.

А свята пачыналася з традыцыйнага дарэння хлеба з соллю, а яшчэ — знакамітага літоўскага сыру. У яркіх нацыянальных уборах артысты выконвалі свае дзівосныя песні — і традыцыйныя, і сучасныя, весялілі сэрцы паказкамі, шпаркімі танцамі і паважным абыходжаннем. На свяце, падалося, і не было гледачоў, усе станавіліся яго непасрэднымі ўдзельнікамі — разам спявалі, танцавалі.

І, як адзначыў адзін з літоўскіх гасцей, тут, у музеі, быццам сустрэліся, як плыні адной ракі, дзве культуры — літоўская і беларуская, два пакаленні — старэйшае, якое на свята завітала з Літвы, і маладое, прадстаўнікі якога стварылі ўзорны аматарскі калектыў "Бараўлянская крынічка", у які ўваходзяць вучні Бараўлянскай школы мастацтваў. Калі яны — дзеці, юнакі і дзяўчаты ў нацыянальных беларускіх касцюмах, са старажытнымі беларускімі музычнымі інструментамі, з'явіліся на святочнай музейнай пляцоўцы, госці з Літвы сустрэлі іх шчырымі ўсмешкамі, музыкай, апладысментамі. І пачалося вясёлае спаборніцтва: кожны з калектываў імкнуўся як мага ярчэй прадставіць сваю культуру.

Кожны выхад на сцэну артыстаў — і літоўцаў, і беларусаў, суправаджаўся апладысментамі, а на чыстым, блакітным небеззяла сонейка, ружовым, чырвоным і зялёным пераліваўся лісце на дрэвах, а вуліца са старажытнымі сялянскімі забудовамі як мага лепш падыходзіла для праводзення такога свята.

Малазнаёмыя людзі станавіліся сябрамі. Госці з Літвы перад ад'ездам падзяліліся назіраннямі: такой цеплыні і шчырасці, як у беларусаў, яны нідзе не сустракалі. І добра, што нас — літоўцаў і беларусаў — звязваюць не толькі гістарычныя і культурныя вытокі, але і добрасуседскія, а бывае, і кроўныя сувязі. Мілагучнае слова "santarve", што ў перакладзе з літоўскага азначае "згода", у гэты дзень панавала на свяце.

Ларыса САЛОДКІНА



На здымках: фрагменты свята "Восеньская ліра".

Фота аўтара

## У наступным нумары

Кожная зямля нараджае сваю мову, нават дыялекты вельмі розняцца. На Брэстчыне пераважаюць раўнінныя краявіды — тут адпаведная і моўная рытміка, на Віцебшчыне ці на Магілёўшчыне яна — свая. Раўніна дае ў арнаментах адзення пасачкі, а лес, закрытая прастора — клетачку. Нават танцавальныя арнаменты, не дзівіцеся, супадаюць з арнаментамі на ручніках і рытмікай мовы тых краёў… Гэтыя высновы ды шмат іншых, неадназначных, чытач знойдзе ў чарговым выпуску рубрыкі "Літаратурны экспрэс". Гэтым разам у "экспрэсе" — Галіна Багданава, пісьменніца, крытык мастацтва і выкладчык адразу некалькіх навучальных устаноў, дзе рыхтуюць творцаў.

З глыбінкі

## Шлях на Мсціслаў

Прафесійнае свята Дзень бібліятэк супрацоўнікі Бярэзінскай ЦБС адзначылі падарожжам у Мсціслаўскі раён Магілёўскай вобласці з творчым візітам да калег Мсціслаўскай раённай бібліятэкі ў рамках міжрэгіянальных сустрэч "Бібліятэчны прагрэс — у садружнасці ЦБС". Бярэзінскія бібліятэкары азнаёміліся з выставачнымі формамі нагляднай прапаганды абанемента, чытальнай залы, інфармацыйнага цэнтра.

Далей нас чакала наведванне мясцовага гісторыка-этнаграфічнага музея і экскурсія па Мсціслава, арганізаваныя прафкамам пярвічнай арганізацыі прафсаюза Бярэзінскай ЦБС.

У музеі прадстаўлена звыш 3 800 розных экспанатаў гістарычнай каштоўнасці. Увагу прысутных прыцягнуў макет Мсціслаўскага замка, экспазіцыя прысвечаная аднаму з рускіх і беларускіх першадрукароў, гравёру XVI стагоддзя Пятру Мсціслаўцу, выстаўка ікон мінулых стагоддзяў і іншае.

Далей бібліятэчныя работнікі адправіліся пешшу па вуліцах горада, якія ўпрыгожваюць забудовы мінулых стагоддзяў і сучасны экадызайн. Архітэктурна-планіровачная структура Мсціслава фарміравалася на працягу стагоддзяў. Горад узнік на Замкавай гары. Складаўся з замка, умацаванага ровам і валамі, і вакольнага горада. Упершыню Мсціслаў упамінаецца ў XII стагоддзі ў грамаце Расціслава Мсціславіча, які быў першым князям горада. У XVI—XVII стагоддзях гэта адзін з буйнейшых і багацейшых гарадоў. Сучасны Мсціслаў забудоўваецца з захаваннем гістарычнай сеткі вуліц і архітэктурных помнікаў. Мы палюбаваліся веліччу касцёла кармелітаў — помніка архітэктуры барока і ракако, нікога не пакінуў абыякавым сабор Аляксандра Неўскага, пабывалі на Замкавай гары, дзе штогод праводзяцца рыцарскія фэсты. Аднак асаблівае ўражанне засталося ў нас ад Пустынскага мужчынскага манастыра, які знаходзіцца ў 11 кіламетрах ад горада ва ўсходнім напрамку. На тэрыторыі манастыра знаходзіцца святая крыніца, яе вадою калісьці вымыўся князь Лунгвен, які ў 30-гадовым узросце захварэў і амаль аслеп. Святая крынічка б'е і зараз не высыхае летам і не замярзае зімой.

Такім чынам бібліятэчныя работнікі Бярэзінскай ЦБС змаглі не толькі абмяняцца вопытам работы з калегамі Мсціслаўскай ЦБС, а і дакрануцца да гісторыка-духоўных каштоўнасцей сівой даўніны Мсціслаўшчыны.

Наталля МАЕЎСКАЯ,
метадыст Бярэзінскай ЦБС




Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ







Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2964
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 30.09.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 4754
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


